рыў падрабязна аб кожным годзе, аб кожнай вялікай справе, гаварыў аб краіне як расла яна, набіралася жывымі сокамі, убіралася рыштаваннямі, выбіралася на дарогі шырокія.

І тады зноў перабіў старшыня:

— Усё гэта правільна. І НЭП—правільна, і рэконструкцыя—правільна, і хто-ж сумняваецца ў соцыялізме? А вы скажыце-ка лепш, як змагаліся за генеральную лінію партыі, і ў чым яна гэтая лінія?

Чалавек разгублена развёў рукамі і, торгнуўшы за вус, адказаў укрыўджаным тонам:

— Я не разумею вас, таварыш старшыня... І пры чым тут генеральная лінія, калі я, можна сказаць, з самых юных летаў пра совецкую ўладу можа сніў і думаў, калі я потым за совецкую ўладу на рабочым сваім целе раны займеў. Не верыце? От-жа я нават кульгаю крыху праз тыя раны...

— Праз чарку больш кульгаеш...—зноў нехта кінуў з кутка, і ледзь чутны смяшок пракаціўся па радох, па галовах.

І тады пасыпаліся пытанні.

— А чаму адстае цэх?

— І ці праўда, што ён, Грэбяньчук, на работу кулакоў прымаў?

— І ці праўда, што ён, Грэбяньчук, да тых карт дужа здатны, і ля пляшкі вялікі спрыт займеў?

— І калі гэта тыя хамуты са склада прапалі? І куды яны дзеліся? І зноў хамуты.

Тады ўзяў старшыня вучотную картку, каб бліжэй да яе прыглядзецца, распытаць. Выходзілі аратары і гаварылі. Нахмураны сядзеў Грэбяньчук, агрызаўся.

— Паклёп на мяне і... ваапчэ...

І тады гаварылі аб заціску самакрытыкі. І ўсё ніжэй і ніжэй апускаліся пушыстыя вусы, зусім размяклі шаўковыя і віселі цяпер, матляліся, як восеньскія лапухі, пажоўклыя на няскошаным ускрайчыку прыбярэжным. Маладзейшыя каторыя абараняць спрабавалі. Сэрцам гарачым заступаліся за мінулае. Гэта-ж трэба—з семнаццатага ў арміі... Гэта-ж трэба: у партызанах быў... Белых пушыў... А што выпівае, ці, скажам, карты там... Ці груб, ці цэх адстае... то хто-ж вінаваты ў гэтым? Усе вінаваты, пры чым-жа тут Грэбяньчук адзін?.. А хамуты... Ізноў-жа, судом апраўданы...

— Не доказана тая растрата... і ваапчэ...—кінуў рэпліку Грэбяньчук.

— Іменна ваапчэ...—спыніў старшыня майстра і гарачага аратара. І той сеў, выціраючы рукавом засмяглыя вусы. Прыцішэлі гаманлівыя галасы ў залі, да старшынёвых слоў прыслухаліся. Старшыня запытанні даваў Грэбеньчуку: якім чынам ён трапіў у армію ў семнаццатым годзе вясной, калі год яго не стаяў на прызыве. Ці не добраахвотнікам ён трапіў туды?

— Так...—выціснуў майстра скупое слова, і прыхіліўся да сцяны, нібы прыперты да яе калючым позіркам старшынёвых воч.

Яшчэ некалькі пытанняў і заключыў старшыня:

— А былі вы добраахвотнікам керанскіх войск...

Грэбяньчук памкнуўся быў нешта сказаць, варухнуў плячом, але асеў і ўсё ўглядаўся ўніз, у ножку стала. Была звычайная яна, точаная, старая, у пыле, у шчылінах. Над ножкай звісаў рог чырвонага сукна, у плямах чарнільных, у дзірках—папяросай прапалена. І калі глядзець на гэту ножку, на запыленае сукно, тады вальгатней на душы і не так заходзіцца сэрца ў нячуваных тахтах. А галоўнае—не бачыш тады воч людскіх, гэтых знаёмых воч. Чамусці цяжка Грэбеньчуку глянуць проста, адкрыта, у гэтыя самыя вочы.

— І праз месяц які вы былі штабным пісарам?

— Так, быў пісарам...—мармытнуў, адвязаўся.

— І такім чынам, вы ведалі грамаце... Як-жа гэта так ды пры вашым батрацкім палажэнні, пры вашых-жа „юных летах“?

Маўчаў Грэбяньчук, збіраўся з думкамі. Дробныя капелькі поту выступалі на лбе, буйнелі, скачваліся і навісалі разбухлыя на касматых брывах. Загаварыў. Ціха, каб не чулі тыя, што ў залі.

— Вучылішча я скончыў тады... Гарадское...

— Гэта, будучы батраком?

— Дзядзька быў у мяне... Не сказаць, каб багаты, а так... ну... Сыраварню меў... Ну і вучыў...

— Т-а-а-к... Сыраварню... Ага...

І не сам ведаў старшыня, да чаго тое „ага“ было. Але адчуваў, што трапіў за нейкую нітачку і вось цягнецца яна, цягнецца, клубок раскручвае. Да чаго толькі клубок той раскруціцца... Да картачкі ўсё прыглядаўся, да вучотнай. Запытаў суха і коратка:

— А дзе вы былі ў часе Кастрычніка?

— Хварэў я, хварэў тады...—схамянуўся майстра і загаварыў торапка і спяшаючыся, нібы стараўся загаварыць каго, вочы старшынёвы адвесці ад картачкі.—На тыфус, на сыпняк я хварэў... Тады-ж у водпуск падаўся з арміі...

І скоса пазіраў на старшыню. Той сядзеў за сталом, пільна разглядваў картку, думаў аб нечым, мусіць, збіраўся яшчэ запытаць аб чым. Настарожаная маўклівасць панавала ў залі. Усе чакалі гэтага запытання, бо павінна-ж яснасць нейкая быць з чалавекам, з такім-жа чалавекам. І старшыня пытаў. Не пытаў, а гаварыў. І кожнае слова было цякучае і цяжкае, усё ніжэй і ніжэй прыціскала Грэбеньчука, прыгінала да долу.

— Хварэлі, кажаце... На тыфус... Можа яно і так. Праўда, людзі на сыпняк у дзевятнаццатым больш сыпаліся... Чуеце, у дзе-вя-тнаццатым... Але што-ж, мог чалавек захварэць і ў семнаццатым... Асабліва, ежалі крута яму давялося... Ад большэвікоў, скажам... Чуеце вы, ад большэвікоў, вы, ударнік Керанскі... Чаму-ж яму не падацца тады на сыраварню, на сырныя тыя страданні да дзядзькі...

— Дазвольце, хто вам даў права і... ваапчэ?..

— Пра права пасля... Вы адкажыце-ка лепш, дзе вы былі ў дзевятнаццатым, дваццатым годзе?

Прыпёрты да сцяны, маўчаў майстра ды пакусваў абмоклы вус, на палец накручаны.

— Чаго-ж маўчыце? Хіба напомніць? Па вашых-жа дакумантах. Тут у картцы напісана, што ў дзевятнаццатым і дваццатым гадах вы былі на двух-га-до-вых курсах. На якіх гэта курсах былі вы?

— Перападрыхтоўка вікаўскіх работнікаў...

— Гэта ў дзевятнаццатым і дваццатым?

— Дазвольце...—рашуча ўзняўся тут з зэдліка Грэбяньчук, падышоў да трыбуны.—Тут, таварышы, непаразуменне... Я памыліўся аб вікаўскіх работніках... А што ў картцы напісана, дык гэта няверна... Якія-ж маглі быць курсы ў дзевятнаццатым... і дваццатым, ды яшчэ двухгадовыя?.. Не пісаў я гэта ў картку.

— А хто-ж запісаў?

— Не ведаю... Гэта памылка... А я не пісаў... Мо' хто другі падставіў у картку... І для чаго-б мне пісаць?

— Для чаго? А я скажу, для чаго.. Дзе вы былі ў гэтыя гады?

— Дома быў... у дзядзькі быў...

— Дзе гэта?

— Пад Баранавічамі...

— Ну вот... Чалавек у самыя гарачыя гады па белапольскіх тылах туляецца, як пацук... Дык як-жа тут не напісаць пра курсы, тулянне сваё прыкрыць, абмануць. Каго-ж вы абманвалі?

— Дазвольце... ды што вы... ды запытайце вы пра мяне ў дзядзькавай вёсцы пад Баранавічамі, усе скажуць, што я рабіў... Мы ў партызанах тады былі, мы палякаў раззбройвалі, мы масты разбуралі...

— Дзе гэта?

— Ну, у Апчаку...

— Апчаку... Пачакайце... Апчаку, кажаце... Раззбройвалі... Раззбройвалі... Та-а-к...—думаў аб нечым старшыня, углядаўся паверх радоў, дзе клубіўся махорачны дым і дзе чырванелі на сценах шматлікія лозунгі—аб партыі, аб чыстаце, аб пільнасці. Перавёў вочы на яго, на Грэбеньчука. Той сядзеў, сутуліўшыся, уцягнуўшы голаў у плечы, нібы зьбіраўся хто ўдарыць яго. На хвіліну якую сустрэліся позіркі, і ў вачох майстравых мітусіліся палахлівыя агеньчыкі, патушыў іх, апусціўшы вочы да долу.

Нешта хацеў яшчэ сказаць старшыня, але, махнуўшы рукой, вымавіў толькі:

— Ну што-ж... На сягоння хопіць... Позна ўжо. Чыстку грамадзяніна Грэбеньчука будзем канчаць заўтра...

І больш за ўсё было чуваць гэтае слова „грамадзяніна“, націск на ім рабіў старшыня. Людзі разыходзіліся, плячмі паціналі.

— Дзя-а-алы... З Грэбеньчуком гэта... Хто-б то ведаў?

— А тое... Не бачыш хіба, як закруцілася справа? Няйначай, бяляк... Адным словам, нячыста ў яго, нягладка выходзіць...

— Ну што-ж, пабачым заўтра... Ды і мы добрыя... Часам не ведаем, жывём з кім, працуем з кім...

Разыходзіліся.

Званкі трамвая вывелі яго з задумення. Трамвай пранесся міма, поўны груката і вясёлага света. І калі прабеглі за вакном па рэйках трапяткія водбліскі ліхтароў, чалавек перашоў на другі бок вуліцы. Перашоў і ўспомніў. І шмат аб чым успомніў. Вось не прывык сустракаць тут трамваю, толькі, толькі прашла новая лінія. Па ёй ідуць новыя вагоны. Туды, дзе стаяць новыя пасёлкі, дзе новыя рабочыя дамы пастроіліся ў доўгія шарэнгі аж да самых заводаў. І ў адным з дамоў яго кватэра. Пасёлак завецца чамусці Выгарамі. Чаму? Няйначай пашла тая мянушка з дваццатага года, калі бадай усе акраіны былі агромністым папялішчам.

То-ж у дваццатым.

І зноў успаміны навалілісся залацістым роем, не адкараскаешся ад іх, не вызвалішся. Мо' таму, што на чыстцы памінаюцца чалавеку мінулыя дні, па мінуламу правяраецца сёняшні дзень і па сёняшняму мінулае. Мо' таму, што задужа спыніўся на гэтым мінулым майстра рымарнай фабрыкі Грэбяньчук, і ніяк не можа от выбрацца на светлую і простую дарогу. Усе туляецца неяк, аглядаецца, спатыкаецца на слове, як на купіне. І зусім загруз, а ні ўзад, а ні ўперад. Тыя вочы, што кідалі раней смелыя позіркі з-за трыбуны, спуціліся цяпер, зашыліся пад густымі брывамі, не варухнуцца. Усё ўглядаюцца на парыжэлыя грэбеньчуковы чабаты, з вачмі тваімі сыйсціся баяцца, да долу нікнуць. Халодныя такія, шкляныя вочы.

— Дзе-б то іх бачыў раней?

І таварыш Савасцееў — старшыня камісіі па чыстцы — ішоў позним вечарам да хаты, успамінаў і думаў—аб трамваі, аб новым пасёлку, аб дваццатым, аб геройстве, аб героях. Не аб тых, што „ваапчэ“, аб сапраўдных жывых, жывушчых. І аб тых, што засталіся ў успамінах, аб тых, што загінулі некалі, пакінуўшы жывыя да гэтага часу справы. І перабіраючы ў памяці былых герояў, ізноў спыніўся на ім, на Грэбеньчуку. Трэба-ж неяк разблытаць гэты клубок да канца, трэба-ж паказаць людзям гэтага чалавека—вось ён перад вамі, ліхі партызан, вось яго баявыя заслугі. Вось ён ходзіць сярод вас, выхваляецца слаўным мінулым. І вы даруеце яму чалавечыя слабасці. Не даводзіце да канца хамутоў, а растрата ўсё-ж была, была пакража, і ў гэтым ён, Савасцееў, пераконаны. І былі кулакі ў цэху, і быў развал, цэх ішоў на ніз, нехта тачыў яго, як шашаль. „Не даказана“. Хіба ж ён, ліхі партызан, у яго ж толькі слабасці... А за слабасці за чалавечыя, толькі даруюць.

І ўжо ўставаў перад ім, перад Савасцеявым, поўны твар Грэбеньчука, майстра хамутовага цэха, твар мінулы і сёняшні. Мо' прывялі к таму хамуты, мо' дзядзькава сыраварня, адтуль, з Апчака, што пад Баранавічамі, аб чым гаварыў сам майстра. З Апчака... Трэба хіба яшчэ крышку праверыць.

І да позняе ночы поркаўся Савасцеяў у немудрашчым сваім барахле, перабіраў кніжкі, старыя сшыткі—засталіся тыя сшыткі ад партшколы. І ўрэшце знашоў яе, невялічкую запісную кніжку. Выпараў на самым дне старога чамадана. Даўно заплеснявелі, узяліся белай цвіллю чорныя кляенчатыя коркі гэтай кніжкі, парассыпаліся, павыпадалі некаторыя лісткі. Некаторыя з часам пасклеіліся, выцвілі, пажаўцелі, і толькі з вялікім трудом можна было дабрацца да запісанага. Колькі разоў гэтая кніжка была пад дажджом, пад снегам, пад завірухамі, трапляла ў ваду, калі даводзілася пераходзіць якія рэкі. І даўно-б яна згінула, альбо трапіла-б у палон—як трапілі туды аднаго разу ўсе яго салдацкія рэчы—каб не насіў яе тады штодня ў гімнасцёрцы, у левай адтапыранай кішэні, дзе быў калісці заўсёды шэры чыгунны гадзіннік, аловак, ды палкавое пасведчанне. Аб тым, што ён, Савасцеяў, не хто іншы, а начальнік ружэйна-кулямётнага парку палка. Самі запіскі былі кароткія, сціслыя: колькі пройдзена за дзень вёрст, якія гарады ўзялі за тыдзень, калі былі асабліва зацятыя баі і хто з таварышоў загінуў. Былі наспех запісаны некаторыя адрасы—то пакідалі раненыя таварышы, ад'яжджаўшыя ў далёкія тылы, у Расію. Дзе яны цяпер, гэтыя таварышы?

Ціхім сумам ахіналіся думкі, калі перачытваў палінялыя выцвілыя радкі, аб мінулым. Вось яны, гэтыя кароткія запіскі:

— ...Два дні зацяты артылерыйскі агонь. Страшнавата было спачатку...

— ...Сёння перашлі Бярозу. Забіты камісар палка т. Ганчароў...

— ...Пахавалі дванаццаць сялян, забітых палякамі. Паны паляць гумны з хлебам, каб не пакінуць нам... Гараць масты па дарогах...

— ...Узялі Менск...

— ...Сёння прашлі праз спаленую станцыю. Паспелі патушыць вадакачку. Адратавалі падстрэленага палякамі машыніста. Не хацеў ехаць з імі.

— ...Узялі полк у палон. Рабіў нам засаду ў Тартаках, ды сам папаўся ў сіло.

— ...Тры разы ў дзень у штыхавую атаку... Аднак зламалі, пагналі. Узялі Слонім...

— ...А дзяўчаты ўсё-ж харошыя. Праўда, дзічацца, відаць, ксяндзамі запужаны.

— ...Трэці дзень грымяць над Бугам гарматы. Адпачылі крыху, бо перад гэтым па шэсцьдзесят, па паўсотні вёрст, ніяк не дагнаць.

Былі запіскі і пры адступленні. І сярод іх аб ім, аб комсамольцы. Фамілію даўно забыў, а тады не запісаў. Звалі проста нашым комсамольцам.

— ...У вёсцы Апчак цяжка паранілі нашага комсамольца. Ці выжыве хлопец?

У вёсцы Апчак.

Значыць, правільна ўсё, як думаў, як меркаваў.

Тады кінуў той непакой, які валодаў ім увесь вечар.

— Ну што-ж, цяпер ясна ўсё. Клубок разблытаўся. Заўтра раскруцім апошнюю нітку і завяжам вузел.

Сякія, такія матэрыялы разабраў, пачытаў газету лёг спаць спакойны, упэўнены.



Была поўная зала народа, быў заняты кожны зэдлік, нават падваконнікі былі заняты, на іх забралася мітуслівая моладзь, каб ямчэй было слухаць, бачыць ямчэй. Старшыня камісіі даў некалькі малазначных запытанняў Грэбеньчуку, і той адказваў, падбіраючы словы, спыняючыся, абдумваючы, як-бы ямчэй адвесці гэтыя абвінавачванні. Хіба-ж ён злодзей які, каб красці, скажам, хамуты ці яшчэ там якое глупства. Не даказана-ж... наогул ён, Грэбяньчук, здзіўляецца такому незвычайнаму недавер'ю да сябе. І наогул, як гэта можна рабочаму чалавеку не верыць і запытаць-бы, хто гэта такі можа не верыць, адкуль ён, можна сказаць, такі чалавек бярэцца, калі ён, Грэбяньчук, ураджаны пролетары... і зноў-жа чацверты год на фабрыцы...

Але не было ўжо ранейшага размаха ў Грэбеньчука, і словы яго ледзь даляталі з-за трыбуны. І гаварыў ён не да залы, усё намагаўся пераканаць тых, што сядзелі за сталом. І раз-по-разу гаварылі там:

— А вы да народу ды гучней, каб чулі людзі вашыя словы. Што-ж ты людзям тым асаблівае скажаш?

І зусім змоўк, калі старшыня камісіі, гэты суровы таварыш Савасцееў, паставіў перад ім пытанне: а ці памятае ён, грамадзянін Грэбяньчук, апчакоўскія хамуты. І таму, што не таварыш, а грамадзянін, і таму, што нейкія хамуты апчакоўскія—суцішылася зала, і чуваць было, як дыхаюць на пярэдніх лавах, як старанна парыпвае ў сакратара камісіі пяро.

— Дык можа напомніць вам пра Апчак?...—наступаў старшыня.

Абвіслыя вусы варухнуліся, з-пад іх вылецеў прыглушаны адказ:

— Я не ведаю ніякіх Апчакоў... І не хачу ведаць...

— Вы-ж учора самі казалі пра Апчак. Пра дзядзьку, пра сыраварню...

Задумаўся на якую хвіліну, ды зноў:

— Не казаў я... А калі і сказаў, мо' памыліўся...

— Дужа часта вы памыляецеся. Ва ўчотнай картцы—памылка, на рабоце—памылка... Адны памылкі ў вас засталіся. Дык калі не хочаце самі расказаць, тады я напомню...

Ссутуліўся Грэбяньчук, прыліп да зэдліка за трыбунай, уцягнуў голаў у плечы і ўсё курыў, дзьмухаючы на пракураныя пальцы, апякаў іх аб цыгарку, якая ўсё расклейвалася і дыміла, як паравоз.

А таварыш Савасцееў расказваў.

●

...Было гэта пры адступленні з-пад Баранавіч. Ужо стаялі на дварэ халодныя восеньскія дні, з дажджамі, з макрэддзю, з непралазнай гразёю дарог, у якой грузлі коні, таміліся людзі. Ружэйна-кулямётны парк, які быў тады пад маім началам, спыніўся на кароткі начны адпачынак на багатых шляхецкіх хутарах. Зваліся яны Апчакоўскімі, бо недалёчка была вёска Апчак. Мы размясцілі ўсе паркаўскія падводы на адным двары, а частку падвод з апошнімі патронамі спешна накіравалі ноччу ў полк, які быў недзе ў вярстах сямі-васьмі ўперадзе на фронце. Так меркавалі мы, а ўрэшце аказалася, што полк быў у другім месцы, зусім у баку ад нас, і мы ледзь не трапілі ў тую ноч у палон. З патронамі паехаў чырвонаармеец Анохін, а мо' якая другая фамілія была ў яго, не памятаю. Быў ён тады адзіным комсамольцам у нас ва ўсім парку. Непрыкметны з выгляду хлопец, нізкі, карчукаваты, з рэзкім пранозлівым голасам, ад якога коні пужаліся не хужэй, чым ад панікі самалётнай. Але-ж да чаго ўпарты быў гэты хлопец і да чаго дасціпны: усё—што дару́чыш, гарыць у яго агнём пад рукамі. Ці схованку-яму выкрыць з аўсом, ці вынюхаць схованую кулаком вінтоўку, даставіць маланкай патроны, пачыніць кулямёты—залатыя былі ў хлопца і спрыт, і рукі. А вясёласці хоць адбаўляй. Часам дождж, гразь, задыхаюцца коні, хоць ты поперак дарогі лажыся, а ён грымне песню, прабяжыць, як віхор, па дарозе—„а ну, варушыся!“ і глядзіш: стома не стома, дарога не ў знакі. Адно—ксяндзоў не любіў, ды старух не цярпеў, асабліва якія старушэнцыі скнарлівыя. Паставіць якая перад ім малака кіслага ці капусты нішчымнай, ну і пачалося. І стол грыміць, з малаком рэволюцыя, і бабка якая—божы цвяток—задам, задам да дзвярэй туліцца:

— Гошпадзе, шусе хрышце... швенты пан ежуш...

— Ты мне езуса не выстаўляй, ты мне за пана бога не хавайся, ты мне ежалі контррэволюцыю ў жываце сыраквашай наладзіш—будзеш адказваць па ўсіх стацціях ваенна-рэволюцыйнага часу, як ёсць я баец, як ёсць я салдат рэволюцыі...

Былі тыя доўгія словы страшней гнева пана-бога для пракаветных старушак. Але на „рэволюцыйным часе“ спыняўся Анохін, зніжаў тон і пачынаў ціхія дапламатычныя размовы ды намёкі аб тым, што не пашкодзіла-б яму, байцу, з'есці звычайны кавалак хлеба, і паколькі ён чалавек не горды, ён не-меў бы нічога супроць чаго-небудзь... гм... і смачнейшага. І што грэх ёй вялікі, бабцы і перад рэволюцыяй і, у першую чаргу, перад папам рымскім, перад самым свентым Піем пятым-дзесятым за выключную яе скнарасць перад байцамі. Тым больш, ведае ён, баец, што ляжыць у бабкі кубел сала схаваны і ліпавачкі з мёдам у зямлю закапаны. А для каго, запытаць у бабкі, ляжаць тыя ліпавачкі? І навошта яны закопаны, хіба хто хоча іх адабраць у старушкі?

Пасрэдніцтва папы рымскага давала, зразумела, некаторыя вынікі і, аблізваючы губы, Анохін важна дзякаваў бабцы за яе выключныя заслугі перад рэволюцыяй...

Праўда, даводзілася часам умешвацца ў анохінскія непаразуменні з бабкамі ды з ксяндзамі і прыводзіць яго да парадку, а ў вогуле гэта быў залаты хлопец. І вось ён ноччу паехаў з патронамі. У парку застаўся я ды тры-чатыры чырвонаармейцы. Была цёмная восеньская ноч. Прыглушаная, здрадлівая ў сваёй маўклівасці, цішыня навісла над ноччу. Тая цішыня, якая бывае на фронце ў гарачыя дні баёў, адступленняў, калі балюча ловіць вуха кожны гук, калі кожны самотны стрэл можа выклікаць ураганы, калі сляпая цемрадзь ночы кожную хвіліну гатова прарвацца грымотнымі бліскавіцамі пяруноў, полымем шалёных агнёў. Стаміліся, чакаючы дню. Спалі па чарзе. А калі пачало развідняць, зразумелі, што трапілі ў пастку. Некуды зніклі складзеныя пад паветкай хамуты, нельга было выехаць. З усіх куткоў сачылася здрада. Ёю поўніліся загадкавыя ўсмешкі гаспадара хутара, багатага шляхціца, бадай фальваркоўца. Здрадай поўніліся нязвычайныя рухі людзей, што перабягалі ад хутара да хутара, што сабраліся купкамі за варотамі. Былі напалоханыя позіркі падводчыкаў—і хамутоў шкада, і ў гэткую-ж кашу трапілі. Калі паспрабаваў сунуцца туды, за вароты, да купкі хутарскіх людзей, ніяк не мог дабіцца ніякага толку. Аднекваліся: па-першае, навошта ім хамуты і, па-другое, хто стане красці ў іх, людзі яны ўсе, слава богу, не якія там-небудзь, каб гэта на крадзеж пускацца. Гэта можа там, скуль таварыш з'явіўся, парадкі такія...

Адным словам, намёкі. І глядзяць пры гэтым, вачмі па табе слізгаюць, на наган пазіраюць, як каты на сала.

— Каюк табе, Савасцееў, і амэн...—думаю так да асцярожна пахаджваю, чырвонаармейцам падміргваю—трымайся, хлопцы, каб усё да парадку, ды зрабіце, моў, выгляд, што кулямёцікамі займаецеся.

А ў кулямёціках патронаў—кот наплакаў. Апошнія патроны ў полк адасланы. Туды-ж і спраўныя кулямёты. Асталося адно барахло, ды яшчэ трафейных французскіх з дзесятак—чыніць усе трэба. Добра яшчэ, што гэтыя людзі пра патроны не ведаюць, пазіраюць з апаскай на кулямёты. Хоць час адцягнеш. Але што карысці з таго, калі палякі часам надыйдуць? А тут ужо і гутаркі пачаліся, што не шкодзіла-б чырвоных у драбавікі ўзяць, ці варта з імі ваўтузіцца доўга. Асабліва хлапец адзін стараўся, вярзіла такі, вялікі, як крыж той езусны, прыдарожны. Падганяў усё, а ну, стаіцё, значыцца чаго: раз і гатова. Аднак апасаліся крыху. Ды сабіраліся ўсё больш і больш.

І ў самы цяжкі для нас час, калі цэлы натоўп рушыў на нашы вароты, паказаўся па дарозе чырвонаармеец конны. Зірнуў я адным вокам—Анохін, па кані яго пазнаў. На сэрцы адразу палягчэла—справіўся хлопец з заданнем. Але што ж цяпер рабіць? Думаю ды пазіраю скоса туды на дарогу. Спыніўся натоўп, прыгля-

дацца стаў туды-ж, на наезніка. Той нібы стаў у нерашучасці на момант які, але ўжо праз хвіліну імчаў галопам і стаў, як укопаны перад нашым дваром, ліха насядаючы канём на вароты.

— А ну, каторы тут солтыс?—грымнуў хлопец з каня.

— К чаму-б то?—думаю.

— Адразу-ж мне солтыса... Полк кавалерыйскі ідзе ўслед, размяшчацца будзе, вызначайце кватэры... Да жывей...

Ды, падміргнуўшы мне, гэтак важна ды сурова пытае:

— А вы, таварыш, якой часці і што тут робіце?

Зразумеў я манеўр, ведаю к чаму тут кавалерыйскі полк, адказваю:

— Так і так, немудрашчыя, значыцца, справы, на хамутох, адным словам, селі...

— Хамуты? Уга... Мы іх з-пад зямлі дастанем. А хто гэта тут такім бязульствам займаецца? А ну-ка, солтыс, каб адным гэта вобмегам... Іначай па ўсіх стацціях законаў ваенна-рэволюцыйнага часу...

Як вадой тых людзей змяло. Туляючыся рассыпаліся па дварах, па ўтульных хутарах шляхецкіх. Толькі стараста ды яшчэ чалавекі са тры старэйшыя засталіся, каб парадкі наводзіць. Праўда, браліся яны за справу, як відаць, без усякага апетыту,— як гаварыў Анохін. І каб не парабак гаспадара, які цішком паказаў нашым хлопцам на некаторыя хутары, за якія-б варта было ўзяцца, бадай што нічога і не вышла-б. А так праз якія паўгадзіны з'явіліся пакрадзеныя хамуты на двор і мы спешным парадкам выбраліся ў дарогу, не прамінуўшы пры гэтым захапіць з сабою завадатара усёй хамутовай справы, вядомага на ўсю вёску бандыта. Калі ўзялі мы яго з сабой і ад'ехаліся вёрст на пяць ад хутароў, нас дагнала цэлая дэлегацыя з вёскі з сялян і некалькіх парабкоў. Адвёўшы мяне ў бок, яны слёзна прасілі, каб мы, крый божа, не выпусцілі як-небудзь з рук гэтага чалавека, бо не будзе ім жыцця тады ад яго, дужа-ж чалавек гэты злы і вялікі вораг усім тым, хто дапамагаў чырвонаму войску, хто за ўладу савецкую стаяў, хто быў да яе блізкі.

— Калі адпусціце гэтага дэфензіўшчыка, прапалі нашы галовы...

Мы й самі ўжо добра ведалі, што за птаха трапіла нам у рукі. Тым больш, што чалавек здаўся нам з боем і цяжка параніў пры гэтым Анохіна, ўсё плячо развярнуў нашаму комсамольцу з дапатопнай французскай вінтоўкі. Ёсць такія вінтоўкі, называюцца „гра", кулі ў іх па паўфунта, такую дзірку прасверляць табе, хоць каня ты садзі туды, на валах уяжджай.

Узяў я пасля ўсіх гэтых разгавораў пад свой нагляд бандыта, сам вёў яго пад канвоем, бо хлопцаў было мала, а дарога восеньская, абоз расцягнуўся, за парадкам трэба было сачыць, не адставалі каб. А тут вечар ужо, на цямно бралася. Вяду я гэтага чалавека, ды думаю, як-бы хутчэй яго ў штаб дывізіі даставіць, ці здаць якому першаму ўпаўнаважанаму асобага аддзела, хоць-

бы напаткаць дзе хутчэй. А калі, думаю, крута стане ці што, паставім тады пад першага дуба і квіта.

А чалавек намагаецца ўсё бліжэй, каб гэта „на пару слоў“. Ведаю я тыя словы, бліжэй трох крокаў не падпускаю, карабін на згатоўку. І тады пачаў гэта ён прасіць. І што ён не такі ўжо чалавек варожы, і што вышла наогул прыкрая памылка і ні ў чым не вінаваты ён, што ён нават у матросах быў пры цары і калі хачу я, то пакажа мне на руцэ сіняе сэрца з якарам і сінія літары царскага мінаносца.

Маўчу я, не падпускаю яго, спыніцца не даю ні на крок. Тады змяніў чалавек тактыку. Загаварыў аб тым, што ўсё аддасць: і цывільны касцюм, у Варшаве колісці куплены і бадай што не ўжываны. І германскія штаны, цёмнашэрыя з сінім кантам пяхотным. Захачу калі дык з мундзірам—баявы такі мундзір афіцэрскі, вільгельмаўскай арміі лейтананцкі мундзірык. І ўжо шэптам зусім—ёсць у дзядзькі ў садку пад ігрушай захаваная скрынка з золатам: пяцёркі, дзесяткі, александраўскія імперыялы. Усё на свеце дастане ён і на зямлі што і пад зямлёй, абы толькі далі яму адно: жыццё. І пасля кінуўся ў слёзы—ідзе вярзіла такі і слязмі абмываецца.

— Плач, думаю, плач, хоць у апошні раз наплачся ў ахвоту, калі слёзы да гэтага часу цябе не бралі, бо любіў ты чужыя слёзы, на чужое гора любіў выскаляцца.

Так заспела нас ноч—цёмная, восеньская, дажджлівая. Прыслухаюся я да галасоў у абозе ды не спускаю воч з ссутуленай спіны, калі што, дык проста от пад гарачае дула. Іду і сціскаю ў руцэ сваю нямецкую карабінку, для ночы дыстанцыю паменшыў на крок. А тут у мястэчка ўехалі. Вялікае такое мястэчка, вуліцы доўгія, блытаныя. Памятаю, касцёл высокі і доўгая агарожа каля яго цагляная. Доўга будзе памятацца тая агарожа, цэгліны там крыж-на-крыж, высокая такая агарожа, лёгкая, фігурная.

Азірнуўся я там на міг, каб паклікаць чырвонаармейца, сказаць каб, ехаць куды, якога парадку трымацца. І толькі міг, секунда адна. А калі зірнуў уперад, яго ўжо не было, толькі цень мільгнуў праз касцёльную агарожу і знік. Не паспеў нават карабінкі падняць, каб стрэліць хоць раз. Бліжэйшыя хлопцы таксама заўважылі, кінуліся праз агарожу. Але дзе там, цемрадзь, хоць вока выкалі. Ды й часу не было, каб займацца ім асабліва, ды ў мейсцы яшчэ незнаёмым дый людзей не было к таму вольных. І сорам-жа мне быў, ну хоць ты страляйся. Гэткаю-ж шляпай зрабіўся і праз каго... А тут пытае яшчэ ў мяне Анохін, хрыпіць на возе, ліпее ледзь:

— Уцёк, кажаш?..

— Уцёк...

Той аж зубамі заскрыгатаў. Ці ад болю то, ці ад няўдачы.

— І якая-ж то сволач яго ўпусціла?—пытае.

— Вот табе і сволач...—думаю сабе і маўчу. Сорам мне перад ім, перад гэтым хлопцам. Ён-жа з бяды так удала цябе вызваліў

і сам праз тое на бяду напароўся. Ці выжыве толькі, хрыпіць вот, няйначай лёгкае куляй задзета...

Так упусцілі мы бандыта. Уцёк ён тады. Ї трынаццаць год з таго часу аб ім ні слуху, ні духу...



Старшыня камісіі кончыў расказ свой. Утаіўшы духі, сядзелі людзі і слухалі яго, забыўшыся пра ўсё на свеце. А таварыш Савасцеяў, счакаўшы хвіліну, павярнуўся да таго, што сядзеў за трыбунай, ссутулены і разбіты, з апушчанымі долу вачмі, з абмяклымі вусамі, гэткімі-ж доўгімі і абвіслымі. Запытаў:

— Ну, дык ці памятаеце вы цяпер, грамадзянін Грэбяньчук, як вёў я вас трынаццаць год таму назад пад нямецкаю карабінкаю?

Нібы здрыганулася зала тады, ахнулі некаторыя, здзівіліся, такі-ж нечпадзяваны кірунак прыняла ўся справа. А той сядзеў, баючыся паварухнуцца. Зніціўся яшчэ больш, уцягнуў голаў у плечы. Сутуліўся і маўчаў.

— А мо' скажаце, што не памятаеце? А мо' раскажаце, як апынуліся тут? Ї калі ўступалі ў партыю і дзе, і хто дапамог вам прабрацца ў яе шэрагі? Ї хто памагаў вам маскавацца для варожай работы на фабрыцы?

Маўчаў той. Маўчала настарожаная зала. Было чуваць узрушанае дыханне людзей ды ціха гудзе ў сцяне вентылятар. Шэрыя клубы махорачнага дыму клубіліся пад столлю і цягнуліся да яго. Ды ў напружанай цішыні шалясцела над вентылятарам белая папера лозунгаў. І ў шалясценні тым мітусіліся чырвоныя літары, яркія словы.

Словы аб партыі, аб пільнасці, аб чыстаце.

Тады падняўся раптам аднарукі Саўка Мільгун—былы чырвонагвардзеец, а цяпер кладаўшчык фабрычны. Быў сіняваты твар яго—ад напружання, ад гневу. Сівая шчэць валасоў калючай хваляй перакачвалася па твары, сударгава хадзілі напятыя сківіцы і цяжка абрушыўся на спінку скамейкі яго важкі кастлявы кулак.

— Як-жа, так братцы, а!.. Каб гэткую свалату прамаргалі мы з вамі, з гадам ручкаліся, паважалі, давяралі 'шчэ колькі. Партыза-а-н!.. Ён за рабочы клас!.. Ён го-о-лас свой падаваў за нас... А спытаць, куды яго вочы глядзелі? Ї куды нашы?.. Цябе расстраляць мала, гада!..—і так-жа раптам сеў, гнеўны, узрушаны, з запацелым ад напружання ілбом, з рэзкім пацінаннем плячэй.

Загулі галасы ў залі. Цяжкі гоман нарастаў у ёй і перакатваўся грозным валам пякучага гневу і абурэння.

Гнеў шырыўся, рос. Ім поўніўся кожны подых людзей. Гневам поўніліся іх думкі, пачуцці. Ім гарэлі шматлікія позіркі воч, туды, на яго, дзе сядзеў цяпер ссутулены, згорблены, што стараўся патушыць ваўчыны бляск сваіх воч перад імі, абманутымі.

Абманутымі ў чалавеку, у вялікім да яго давер'і.

1933

---

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

# ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ МАЛАДОСЦЬ

(*Урыўкі з паэмы*)

## КОМСАМОЛЬСКАЯ ВАРТА

Яны час не хочуць траціць,
Трэба хутка знішчыць гада—
Ходзяць хлопцы там на варце
З комсамольскага атрада.

Ходзяць ноч яны без змены
У парадку тайнай змовы,
І халодныя ў кішэнях
Рэвальверы нагатове.

Хлопцы помстаю сагрэты—
Будзе ворагу за ласку!..
А ў гатэлі вельмі светла
Ззяюць лямпы воўчым бляскам...

Там карнізамі чачоткай
Вецер кружыцца гуллівы...
А ў вакне балюе Плоткін
З афіцэрам дэфензівы.

Там віно, што мора, пеніць,
Быццам хоча вокны выбіць.
І дрыжаць ад смеху сцены,
І звіняць блудліва шыбы.

Вораг там сядзіць без маскі.
Ён святкуе, ён рагоча.
Вораг думае шампанскім
Пахавае комсамольцаў.

І пагаснуць ў тым разводдзі
Рэволюцыі пажары.
Хлопцы-ж вуліцаю ходзяць
І трывога ў іх на твары.

Дзе-ж той час, што ганьбу змые?
Каб сканаў на смерць пракляты!

Вось дзе ён, былы „партыец“,
Першай маркі правакатар.

А над Менскам ў непакоі
Вецер вые дзікім спевам.
Месяц, стомлены гульнёю,
Захістаўся ўжо на дрэве.

Помста-ж выканаць наспела
Свой прысуд па-комсамольску...
— Калі-ж выйдзеш ты з гатэлю?
Ты, прыслужнік белапольскі!

Хлопцам нельга часу траціць.
У падполлі час кароткі—
Ўжо вятох па стрэхах скача,
Не выходзіць, сволач, Плоткін.

Што за ліха, а ні гуку...
Ходзь-бы рыпнулі дзе дзверы.
І мацней сціскаюць рукі
Рукаяткі рэвальвераў.

Што-ж такое! Гэта-ж позна!...
І як бліснула ўжо сонца,
Прышоў Олікер трывожны
Клікаць варту комсамольцаў:

„Хлопцы! Пойдзем, не паспелі...
Тут не месца на размовы...“
Хлопцы здзіўлена глядзелі
На ягоны твар нервовы.

Твар, што з белае бярosты,
Быццам з кужалю сатканы...
Хлопцы йшлі, і ў сэрцы роспач,
Што не здзейснілі задання—

Кончыць гада-чалавека.
І бурліў у іх гнеў гарачы,
Як, мінуўшы небяспеку,
Пачаў Олікер тлумачыць:

„Нам, таварышы, на дзіва
У гэту ноч не шанцавала:
Сёння ноччу дэфензівай
Камітэт арыштаваны.

Нам нанеслі зноўку раны
Іх канарыкі ліхія,—

Цукер там, „Абрам“ забраны,
Танхілевіч і другія.

Перад святам шпегаў многа
Па усіх кварталах ходзіць,
З яшчэ большай асцярогай
Трэба працу нам праводзіць.

Ліха нас яны загубяць,
Не загінуць сэрцам юным.
Аж да болю сціснем зубы,
А памром мы за Комуну!“

Хлопцаў злосцю калаціла,
Сэрца крыўдаю смылела,
Што дарэмна смерць хадзіла
Каля Плоткіна ў гатэлі,

Што сяброў закрылі краты,
Ім адтуль не скора выйсці,
Што застаўся правакатар
На няшчасці весяліцца,

Што прадасць ён хлопцаў болей,
Каб ізноў напіцца п‘яным,
Што Кастрычнік у падполлі
Будзе ворагам сарваны.

Хлопцы йшлі у задуменні
З невясёлага спаткання—
Зноўку ў глыб, у сутарэнні,
Каб сабрацца на змаганне.

Яны йшлі, і ў сэрцы кожны
Правяраў сябе аж тройчы...
Менск нахмураны, трывожны
Слухаў думы комсамольцаў...

## ЛІСТ РАСІЙСКІМ ТАВАРЫШАМ

На волі-ж знёсшы ўвесь цяжар,
Крывавых дзён вязьмо,
Партком, залечыўшы удар,
Збірае комсамол.

І там праз сёлы й гарады
Змагання кліч ідзе.
Ізноў кагорта маладых
Барацьбітоў расце.

Ад акупантаў скрыўшы след,
Ён новы шлях знайшоў—
Там хутка новы камітэт
На барацьбу прышоў.

Каб на рабоце зноў гарэць
З запалам маладым—
Прашчыцкі, Бампі, Олікер
У камітэце тым.

І вырас зноўку агнявы,
Злучыўшы сотні воль,
На працы моцны, баявы
Падпольны комсамол.

* * *

І праз жахі франтоў, і праз грукат вайны,
Праз разбітыя бойкай палі—
Расійскім таварышам пішуць яны
Бунтоўны, гарачы свой ліст:

„Адсюль мы вам пішам, дзе турмы гудуць,
Дзе цела краіны рабуюць нашчэнт.
І ўсе нашы хлопцы з падполля вам шлюць
Свой комсамольскі прывет.

Мы горда трымаем свой кімаўскі сцяг,
Хай цяжка ў падполлі тут нам,—
Клянёмся змагацца усе да канца,
І мы абяцаем вам,

Што мы перашкодзім варожым штыхам
У самы адказны час—
Равамі мы ляжам на іхных шляхах,
І мы прычакаем вас!

Клянёмся дашчэнту разбурыць іх тыл.
Мы пройдзем праз жудасць начы—
Мы збурым дарогі, мы знішчым масты,
Каб вораг не мог уцячы.

Калі-ж вы ударыце сілай сваёй,
Гарматы пачнуць грукатаць—
Мы выйдзем насустрач вялікай сям'ёй,
Каб разам у бойках стаць.

Мы будзем змагацца, мы будзем жыцьі
Мы з партыяй нашай ідзём,

Клянёмся—мы з вамі, таварышы,
Да самых апошніх дзён.

Мы шчыра вітаем расійскіх братоў
Упартай работай сваёй.
Дык хай-жа жыве комсамол на франтох,
Што вышаў ў апошні бой...

* * *

Той ліст напісалі удумліва так,
І радасць гарэла з узбуджаных воч,
І Бампі хавае той ліст на грудзях,
І Бампі ідзе з даручэннем праз ноч.

Ён знае, што некалі сёння чакаць,
І Бампі рашыў, хоць цаной галавы,
Той ліст комсамольцам Расіі паслаць—
З падпольнага Менска да вольнай Масквы.

## X. РАСЦЕ ЧЫРВОНЫ ФРОНТ

А на фронце ізноў разлівалася кроў
І гарматы шалёна ізноў грукаталі...
Свет дрыжэў, разарваны дратамі наскрозь,
І зямля калацілася і зямля уставала.

Дынамітнай трасучкай дрыжэла яна,
Быццам свет захацела на часткі растрэсці...
А да Менска прынесла з-пад фронта вясна
Комсамольцам ў падполле бунтоўныя весці.

Што чырвоны штандар загарэўся ярчэй,
Што вораг пад націскам дружным кладзецца,
Што строй акупантаў ірвецца нашчэнт
Пад моцным ударам чырвонаармейцаў,

Што гоняць іх грозныя хвалі назад,
Што ім не устоіць ў бязлітаснай бойцы...
І ў Менску партком сабірае атрад,
Атрад комуністаў і комсамольцаў.

Партком іх збірае для барацьбы,
Атраду ў падполлі задача свая—
Каб тыл акупантаў дашчэнту разбіць,
Каб выйсці насустрач вялікім баям.

А вораг, няўдачамі збіты нашчэнт,
Узняўся з тэрорам бясконцым—

За краты кідае другі камітэт,
Але не разбіць комсамольцаў.

Яны змагарамі ў падполлі растуць,
Выходзяць змагацца атрадам,
Яны з комуністамі побач ідуць
У бойку астатнюю з гадам.

Ім толькі у бїках дужэць і дужэць—
Прышоў час суровай расплаты.
А фронт надыходзіць бліжэй і бліжэй,
Пад Менскам грымяць ўжо гарматы.

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

# ПРА СЯРГЕЯ АГЕЙЧЫКА—КАМЕНДАНТА МАРШРУТНАГА ПОЕЗДА № 32

Высозны, шырокі ў плячах, да якіх ў самы акурат была паднощаная скураная куртка, ён стаяў супраць Довіда і па незвычайнаму радасна ўсміхаўся.

— Ну, што, няма чым крыць? Тота-ж. Вось цяпер і здымай усе грахі з майго цэха.

— Гэта мы яшчэ паглядзім, ці можна з цябе ўсе грахі адразу зняць. Не так гэта лёгка.

— А два вагоны звыш планавых даць, гэта лёгка? Эх, ты-ы!.. Начальнік ты мой суровы... Прывык ты мяне голымі рукамі браць, а цяпер каюк гэтаму, калоцца пачну, бо аргументы ў мяне ў руках важкія, фактычныя. Хо-го! Цяпер я вам не папушчуся, а то як узялі моду, дык куды ні сунься, усё пра вагонны цэх гавораць, праходу не даюць. А цяпер каюк...

— Гм... Ты так думаеш? Ты думаеш, што ніколі больш такога не будзе ў цябе?—Нізкарослы і худашчавы Довід стаяў, нахінуўшыся на левы бок, і знізу доўга пазіраў проста ў твар Агейчыку, а пасля зірнуў уніз на Агейчыкавы ногі, задзівіўся, як шырока і моцна стаяць яны на зямлі—і парашыў, што хавацца яму ад Агейчыка няма чаго. Быў яму Агейчык за найлепшага сябра яшчэ з фронтавых часоў, ад якіх абодвы яны і пранеслі непарушным сваё сяброўства праз усе гады. Ён пазірае знізу Агейчыку ў твар і бачыць вялікія Агейчыкавы вочы. Глыба-чалавек, ён па незвычайнаму проста і ўзрадавана глядзіць на свет сваімі шырока раскрытымі вачыма і ўсё жартуе: „Ён-то, пэўне, не спадзяецца на такое,“—думае Довід і за гэтым прызнаецца самому сабе, што і ён усёж-ткі не думаў, што з Агейчыкам так справа кончыцца.—Закруцілі, кажаш? Гэта, братка, акурат у час, гэта вельмі для цябе добра, што закруцілі.

— Ды яшчэ як закруцілі, як закруцілі!.. Паўлючкоў маляр учора, як канчалі,—памру, кажа, а з вагона да канца не злезу. І не злез. Вось дзе факт, кажу я табе. У людзях зачэпку самую галоўную знайшоў я, вось у чым факт. Ты гэта пад увагу бяры, таварыш начальнік.

— А раней, кажаш, праходу не давалі?

— Месца ціхага не было мне раней ад вас.

— А вось, бачыш, карысць ёсць. Ведаеш, Сяргей, хачу я, каб ты зараз са мной у бюро зайшоў, справа ў мяне да цябе ёсць.

— Хоць дзесяць спраў, дык я цябе цяпер не баюся.

— А раней хіба баяўся?

— Якога там чорта баяўся. Але, калі лаялі мяне на кожным кроку, дык, па праўдзе кажучы, не дужа я любіў з табой сустракацца. А цяпер смела пайду. Цяпер у мяне смеласць во якая— і ён шырока, на ўсю даўжыню, разгарнуў у бакі свае рукі,

— Тады хадзем, раз ты такі смяляка.—І, кульгаючы, Довід пашоў паперадзе цераз заводскі двор.

З боку каля дарогі ў рад стаяць высокія тапалі. Пажоўклае лісце ападае з тапалёў і кладзецца на сцежку і на вагоны, што стаяць побач з тапалямі на рэйках. Вагоны блішчаць густой чырвзнню сценак і жаўцізной надпісаў. Пахнуць няўсохлай фарбай.

— Бачыш, якія прыгажуны! Ты мяне, таварыш начальнік, словам крыў, а я цябе фактам. Ну, хто прайграў?

— Гм... Гэта-то яшчэ невядома,—двухсэнсова буркнуў Довід і пашоў са сцежкі за вагон, а як ішоў з другога боку вагона, ледзь не ўпаў, спатыкнуўшыся на стары зламаны буфер.

— Ну, ты, цішэй, а то разаб'ешся,—сказаў Агейчык, бяручы яго пад руку.—Памятаеш, як мы з табою у Барысаве гаршчок куплялі?

— Гаршчок на аладкі? А як-жа. Ха-ха, гэтага я, мусіць, ніколі не забудуся. І так я тады здорава грымнуўся на тыя гаршкі.

Яны абодва зарагаталі, а Довід захлябнуўся ажна і закашляў, пырскаючы рогатам, не ўмеў стрымацца.

— Тфу ты, халера, ледзь не задыхнуўся.

— А чаго гэта вас разабрала так, га?

Гэта падышоў да іх стары Туркоўскі.

— Чаго разабрала? А вось паслухай.

І свежа афарбаваныя бліскучыя вагоны, і жоўтыя літары, напісаныя на іхніх сценках, ды самы сэнс напісанага; і залацістае пажоўклае лісце на тапалях, над якімі ўгары слаўся чысты густы блакіт,—усё радавала Агейчыка ў гэты час і таму па незвычайнаму моцна ўзрадавала яго і спатканне з Туркоўскім, старым токарам комуністам.

— Пытаеш, дзядзька Туркоўскі, чаго рагочам? А як жа не рагатаць. Неяк спыніліся ў дзевятнаццатым годзе ў Барысаве. Стаялі на кватэры ў старога яўрэя і прыкмецілі, што яны часам аладкі пякуць. Ад гэтага захацелася мне з'есці аладак, засмажаных на сале. Да так захацелася, што месца няма мне. Папрасілі мы ў гаспадара на аладкі бульбы, а самі пашлі на рынак, каб гаршчочак купіць і затаўкі якой хоць. Зіма была. Слізка на рынку, а ён кульгавы да ўсяго, нядаўна яшчэ тады з лазарэта вышаў. Стаім гэта мы над гаршкамі і прыглядаемся які ўзяць. Урэшце выбралі самы меншы. Ну, выбралі, значыць трэба браць. Вось ён і пакічыльгаў паміж гаршкоў да самага меншага, а як сагнуўся над ім, дык неяк пакаўзнуўся і са ўсяго размаху лёг на гаршкі. Баба ў крык, а я пад рукі яго падхапіў, ды *хутчэй*

ад гаршкоў цягну. Як падняў я яго, дык убачыў, што і самы меншы гаршчочак пабіў ён і яшчэ колькі вялікіх гаршкоў і гладышоў, ды пабіў і самы большы макацёр бабін. Баба тады, як агледзілася, яшчэ ў большы крык. Зладзеі вы, крычыць, разбойнікі, рабаўнікі і ўсё на яго наступае, баіцца, каб хаця не ўцёк. А ён хоць бы-ж слова адно. Стаіць, стрэсвае снег з шынеля, ды лыпае на яе вачыма...

— Ну, і чым кончылася?—пытае Туркоўскі.

— А кончылася тым, што ў нас не хапіла грошай і на тое, нават, каб за ўсю пабітую пасуду заплаціць не тое, што каб на сала яшчэ.

— Дык і не ўсмажылі аладак?

— Дзе ўжо там аладкі. Аддалі бабе грошы, ды хутчэй дадому, каб хаця свае хлопцы не змецілі. А галоўнае як ён падаў, дыбаў-дыбаў паміж гаршкамі, нібы месца сабе выбіраў, як курыца, а тады і лёг, накрыў гаршкі шынелем.

— А-а, каб цябе... аж жывот у мяне баліць ад рогату. Ну, я пайду палуднаваць, а то-ж хутка гудок.

— Хадзем і мы.

— Хадзем.

У пакой, дзе бюро заводскага парткома, Довід першым зайшоў і сеў за стол, а Агейчык на табурэтцы сеў насупраць яго і на запэцканы чарнілам стол паклаў далонямі свае шырокія рукі.

Якая-ж у цябе да мяне справа? Вялікае што, ці малое? Довід не адказаў, а падняўся з крэсла і пашоў да шафы і доўга капаўся там у паперах. А тым часам Агейчык пазіраў за вакно, за якім адразу за нізенькім частаколам пачыналася станцыя.

— Ды чаго ты маўчыш? Зазваў мяне сюды па справе, а сам маўчыць.

— Я тут аднае паперкі шукаю,—адказаў Довід.—Ведаеш, калі-б ты быў мямлей якой, я з табою пра гэта і не гаварыў-бы, але-ж ты мужык моцны, як дуб.

— Я не зломак, здаецца. Ну і што?...

— Вось таму я і парашыў цябе папярэдзіць, сказаць табе...

Агейчык, усё яшчэ нічога не разумеючы, слухаў блытаную Довідаву гаворку і чакаў да чаго-ж ён яе вядзе?

— Я думаю, што калі ты, як след комуністу, да гэтай справы паставішся, ды ўсвядоміш усё як след, дык усё яшчэ можна будзе паправіць. Я пераконаны ў гэтым. Ты толькі павінен зразумець, што інакш нельга...

— А ты, чорт, толкам кажы, чаго ты ад мяне хочаш, а то *вярзеш нешта* непуцёвае.

— Хочаш толкам?—узлаваўся Довід.—На табе толкам. З партыі цябе камісія выключыла, во што, разумееш? і я цябе папярэджваю каб ты не ныў. Я хадзіў да іх, хацеў, ведаючы цябе, каб змякчылі троху пастанову, але-ж ім больш відаць. Дый сам ты разумець павінен, што пасля такога твайго ўчынка інакш нельга было

вырашыць. Ведаеш-жа чаго нарабіў. Шкодніка застойваць, калі табе на яго паказвалі, гэта табе не жарты...

Хвіліну яны абодва маўчалі, а пасля Агейчык так павярнуўся ў бок да Довіда, што затрашчала табурэтка і адразу нахілілася на бок. Вочы ў Агейчыка сталі шырэйшымі, заіскрыліся, застылі, уперыўшыся ў Довідаў твар і Довід, змеціўшы іх, спалохаўся.

— Ты, Сяргей, таго, ты так гэтага не разумей, што цябе, як шкоднага вычысцілі. Цябе за памылкі выключылі, а гарадская камісія, я спадзяюся, адновіць. Улічыць усё і адновіць...

Агейчык моўчкі падняўся з табурэткі і гэтак-жа, не адрываючы погляда ад Довіда, стаў перад ім, ды шавяльнуў плячыма, нібы раптам зрабілася цеснай і замуліла ў плячах куртка.

— Гарадская цябе, гэта факт, што адновіць,—паўтарыў Довід.— Прычыны толькі гэтыя. Я вось нарошна пастанову выпісаў, каб табе даць, а ты адразу сядай і заяву ў гарадскую пішы.—Ён палез у кішэнь і выняў адтуль невялікі кавалак белай лінаванай паперы.—Вось усяго і пастановы: Агейчыка Сяргея Пятровіча за праяўленне палітычнае слепаты і празмернага давер'я да класава чуждых людзей, што было фактычным папусціцельствам шкодніцтву, з радоў КП(б)Б выключыць... Вось і ўся пастанова. І ты не ный...

Як браў Агейчык з Довідавых рук паперку, увесь пачырванеў ад крыўды і сораму і доўга не мог пальцамі злавіць яе, бо дрыжэлі пальцы, не мог саўладаць з імі. А саўладаў з пальцамі, як кулакі сціснуў і заціснуў паперку ў пальцах. Тады доўга трымаў паперку перад вачыма, стараўся ўчытацца ў напісанае на ёй, а як учытаўся, дык зноў заціснуў паперку ў пальцах і сказаў сам сабе:

— Ну, вось... Та-ак...—І, крута рвануўшыся з месца, памкнуўся ісці.

— А ты не гарачыся,—пераняў яго Довід.—Я цябе, як таварыша папярэдзіў, каб ты на сходзе ў гарачцы глупства не нагаварыў, каб прадумаў ды зразумеў гэту справу.

— А ты што-ж, зубы мне загаварваць бярэшся? Думаеш, што я маленькі, дзіця.—Змоўк на момант, нешта мяркуючы, а пасля злосна і пакрыўджана кінуў:—Непатрэбным стаў, як зрабіў памылку? З-за аднэй памылкі контрай хіба зрабіўся? Гэта мы яшчэ пацягаемся...

— Вось так і не трэба,—перабіў яго Довід.—Я напярод сказаў табе, каб ты перадумаў, ды заяву хутчэй пісаў. Пахадзі, прадумай усё і пішы. Справа твая сур'ёзная. Выключаць цябе не лёгка было.

— Адновіць? Дык навошта-ж тады выключаць было, а? Ты... ты мяне не супакойвай, чуеш! Смакталкі ты мне ў рот не кладзі...

Спяшаючыся, заплікнуў на ўсе гузікі сваю куртку і паціху пашоў на двор, пашоў зноў каля вагонаў і за імі ўздоўж сцяны вагоннага корпуса. Непадалёк ад сцяны высокі і часты плот з дошчак, а на ім угары калючы дрот. У гэтым вузкім завулку,

што стварауся заводскай сцяною і плотам, ён змеціў, што набліжаецца вечар. Прайшло чатыры гадзіны, як яго змена скончыла працу. Час-бы дадому пайсці, але што-ж там рабіць?

У канцы завулка, дзе ўпіраецца ён у плот, цэлай гарой ляжыць звâленае ў кучу жалезнае ламачча. Паломаныя пагнутыя ваганеткі, перагарэўшыя вагонныя печы з‘едзены іржой, нягодны кацёл з невялікага вузка-калейнага паравоза і цэлая груда паламаных спружын, рысор і буфяроў. Усё гэта аджыло свой век, стала бескарысным і цяпер чакае свае чаргі на абнаўленне, каб часткай увайсці ў новае цэлае. А пакуль што з зямлі паміж жалезін расце рэдкімі калівамі трава і па жалезе поўзае зеленаватымі плямінамі іржа.

Адслужылі сваё і на звалку, та-ак...

Агейчык міжвольна спыніўся і адышоў да сцяны. За сцяной звінелі цыркулляркі-пілы, звінела новае, здаровае жалеза. Над шырокімі моцнымі скатамі там выраcталі сцены новых вагонаў.— Та-а-к... Думаеце, што і я бескарысным стаў? Думаеце, што я...— Ён не знаходзіў слоў.—

Ад сцяны адштурхнуўся раптам і, не спыняючыся, як звычайна, каля ларка, дзе любіў піць квас, пашоў у вуліцу. Вуліцай ішоў спяшаючыся, нарошна не заўважаў знаёмых, каб не спыняцца і не гаварыць з імі. А дома моўчкі скінуў з сябе куртку, дастаў з даўняга свайго чорнага паходнага сундучка ўсе свае паперы, пашоў да сябе ў пакой, запёрся там і сеў каля стала. У суседнім пакоі тупала ўстрывожаная жонка, у злосці біла дзяцей і яны плакалі, а ён сядзеў каля стала, шырока раскінуўшы пад ім свае доўгія ногі, соўгаў імі па падлозе, шукаючы больш устойлівага месца і пахвілінна знэрваванна кашляў. Левай рукой ён бесперастанна кудлічыў свае валасы, а ў правай трымаў ручку і хоць зусім не пісаў і не ведаў, што пісаць, пахвілінна мачаў пяро ў чарніла. Сядзеў так доўга, аж пакуль не прабіў у суседнім пакоі гадзіннік на адзінаццаць ночы. Колькі разоў яму здавалася, што знойдзена тое галоўнае, пра што трэба напісаць у заяве. Але, як пачынаў пісаць, з першых-жа слоў бачыў, што выходзіць не тое і ў злосці камячыў паперу і кідаў яе пад ногі. І разам з гэтым зусім знік спакой, а вырасла пачуццё балючае крыўды на кагось невядомага і злосць. Яшчэ раз бярэ ён новы аркуш паперы, шэпча губамі першыя словы заявы і, памачыўшы ў чарніла аж чатыры разы пад рад пяро, пачынае пісаць.

У гарадскую камісію па чыстцы партарганізацыі. Заява ад былога члена партыі...—Ад былога?...—Вочы шырока расплюшчваюцца і ўпіваюцца ў гэтае слова, сэнсу якога ён усё яшчэ не разумее.—Ад былога? Гэта як-жа так? Пятнаццаць гадоў быў у партыі, а заўтра беспартыйным буду, ці што? і з-за каго? з-за гэтае сволачы, якой пераверыў...—Велізарнае цела яго слабее і ён доўга сядзіць нярухома, не кранаючы з месца ног, хоць калена ўперлася ў гостры кант стала і анямела ад болі.— Вось табе й на! Та-ак...—Маленькая лёгкая ручка няпрыкметна

выкаўзнулася з пальцаў, а пальцы ляглі на лоб, папаўзлі ў гору, заблыталіся ў валасах. Тады вочы заблукалі па горцы дакумантаў, якія дастаў ён з свайго сундучка. Вось з боку невялічкі чырвоны білет. Гэта першы ягоны партыйны білет. У гары малымі літарамі надпіс „Российская Коммунистическая Партия большевиков“. Далей „№ 25. Білет члена РКП Сергея Агейчыка. Выдан 1 декабря 1918 года“. А пад усім, побач з пячаткай ужо ледзь прыкметны подпіс сакратара В. Чурака. А з самага верху на дакумантах ляжыць Агейчыкаў партызанскі білет. Рукі ў Агейчыка дрыжаць дробна і часта, калі чытае ён надрукаваныя на белых лістках білета простыя і да незвычайнага блізкія словы:

„Чырвонагвардзеец і чырвоны партызан. Ты быў прыкладным барацьбітом на фронце грамадзянскай вайны за справу пролетарскае рэволюцыі...

Ты адважна ішоў на заклік партыі большэвікоў у Кастрычніцкіх баях“...

Ішоў... а зараз? І зараз пайду!..—крычыць ён да кагосці, сціскаючы ў кулак пальцы.—І вы мяне не адшыеце! Я да ЦК дайду, да самой Масквы дайду, а білета не аддам, беспартыйным не буду...—Як сядзеў, кулакамі ўпёрся ў стол і вялізны, шырокі, падняўся над ім і стаў. А пасля злосна штурхануў нагою табурэтку і пашоў да вакна.

За вакном густая цемра і маўклівая непрыкметная вуліца ўскраіны. Вуліца зарасла травой, мала ездзяць па ёй, аббудавалася невысокімі, у адзін рост, драўлянымі домікамі і абзелянілася садамі. На такіх вуліцах растуць чырвонашчокія, прыгожыя дзяўчаты і добрыя мацяркі. Яны любяць сваіх мужэй і гадуюць дзяцей рослых і дужых, каб умелі, як вырастуць, падужацца з жыццём. На такой вуліцы вырас і ён, Сяргей Агейчык, здаравенны, дзыбаты, ледзь не ў тры аршыны вышынёй.

Рукі кулакамі ўперліся ў падваконнік, а сам згорбіўся ў вакне, прытуліўшыся ілбом да халоднай, успацелай ваконнай шыбы. І як перастаў заўважаць, угледзеўшыся ў цемру начы за вакном, што за плячыма гарыць на стале лямпа, тады паўсталі ў памяці і пашлі чарадой успамінаў жывыя вобразы пражытага.

У васемнаццатым годзе ў гэтую-ж ноч ад'яжджаў ён са станцыі з маршрутным поездам № 32 зусім яшчэ маладым, тады быў ён прызначаны камендантам поезда. Прызначэнне гэтае атрымаў раптоўна. Пасля полудня запрасіў яго да сябе камісар майстэрняў і перадаў даручэнне, атрыманае з цэнтра, і надрукаваны машынкай на аркушы паперы, у дзве чацвяртушкі памерам, мандат. У мандаце было напісана, што прад'яўнік яго, Сяргей Агейчык прызначаецца камендантам маршрутнага поезда № 32, які накіроўваецца на Украіну па хлеб для рабочых. Яшчэ было напісана, што ён, Агейчык, ажыццяўляе правы і абавязкі свае на падставе дзейсных дэкрэтаў і распараджэнняў Совецкае ўлады, а ўсім пасадным асобам і ўстановам умянялася ў абавязак няўхільна выконваць усе яго законныя

патрабаванні і распараджэнні. Вінаватыя ў невыкананні законных ягоных патрабаванняў падлягалі суду Рэвалюцыйнага вайсковага трыбунала. Мандат гэты Агейчык захаваў тады ў партманэ, а сам схадзіў дадому, апрануўся і на прыёмку поезда прышоў ў шынелі, з вінтоўкай і са старанна вычышчаным наганам.

А ноччу, гэта было ў чэрвені месяцы, поезд адышоў у напрамку на Бахмач—Рамны. Нешта каля двух ці трох тыдняў блукаў поезд па украінскіх станцыях, пакуль набраў усе дзевяць вагонаў хлеба. Як сабралі хлеб, парашылі неадкладна ў Маскву ехаць. Каб прабіцца, калі давядзецца сустрэцца з немцамі (былі яны тады зусім непадалёк ад Рамноў), узялі да поезда яшчэ адзін паравоз і чатыры снегаачысціцелі і зрабілі з поезда бронявік. А Яўгенія Бош, была яна тады са сваім атрадам у Рамнах, дала на поезд трыццаць сваіх краснагвардзейцаў. Так склаўся атрад з трыццаці шасці чалавек, неафіцыйным начальнікам якога і зрабіўся Сяргей Агейчык,

З Рамноў поезд узяў напрамак на Палтаву, але і на гэтым напрамку, на станцыі Радоман ён сустрэўся з немцамі. Прышоў поезд на станцыю нечакана для немцаў. Агледзеліся немцы, кінуліся поезд затрымліваць, ды не разлічылі сіл. Атрад Агейчыкаў сустрэў немцаў стрэламі, і, адбіўшы напад іхны, прарваўся далей на Палтаву. А праз тыдзень яшчэ маршрутны поезд № 32 быў у Маскве.

Перажытае ў тыя гады паўставала ў памяці ўсё больш жывымі і яркімі вобразамі. Да самых маленькіх драбніц прыпомніўся ўвесь складаны і цяжкі маршрут поезда № 32 ад Масквы да Заходняга фронта. Пасля вялікая паласа франтоў. Раптоўны прарыў у тыл белапалякам і ўзбраенне партызанскіх атрадаў аружжам, якое было прывезена ў поездзе.

З успамінаў паўстаюць жывыя і блізкія вобразы таварышоў па маршруту і партызанскаму атраду. Шмат хто з іх загінуў тады на фронце ў баёх супроць белых. А многія жывуць і цяпер, як і ён. Каго ні каго з іх Агейчык не раз сустракаў у працягу апошніх год. Сустрэчы гэтыя былі непаўторнымі у сваёй напоўненасці радасцю. А цяпер, як цяпер будзе, калі сустрэне Агейчык каго-небудзь з іх? Што-ж скажа ён у часе новай сустрэчы?

— Я беспартыйны! Мяне вычысцілі! Вычысцілі за тое, што не даглядзеў аднае сволачы. Вычысцілі мяне, партызана, франтавіка... Не дагледзеў? А хіба адзін толькі я не дагледзеў?— Паспрабаваў ён шукаць для сябе апраўдання.—А другія хіба не павінны былі глядзець?..

Ён знаходзіў усё новыя і новыя матывы для свайго апраўдання, але чым больш было гэтых матываў, тым з большай выразнасцю сам ён адчуваў сваю вінаватасць перад партыяй. І тады пачынаў адчуваць і пасапраўднаму разумець увесь сэнс таго, што адбылося.

Як-жа так?—Ён міжвольна выпрастаўся і аднёс у бок руку з растапыранымі пальцамі.—Пятнаццаць год у партыі, фронт і такое... А мне цяпер як-жа быць?—

Знікала крыўда, і злосць рабілася смешнай, а на іх месца прыходзіла страшнае адчуванне адзіноты і думка, што трэба ўсё зрабіць, каб не быць адкінутым.

— Напісаць трэба, пра ўсё напісаць трэба, у чым вінаваты я, а тады няхай разбіраюцца і вырашаюць...

Ахоплены гэтай думкай, Агейчык прысунуў да стала табурэтку, сеў, і пачаў пісаць. Пісаў спяшаючыся, нібы баяўся, што нехта прыдзе і пераб'е знойдзеныя думкі. За пяць гадзін пакуль пісаў, Агейчык ні разу не адарваўся ад паперы, не *разагнуў* плеч на сярэдзіне старонкі, пакуль не скончыў усяе заявы. Была тая заява даўгой, на сямнаццаць чацвяртушак вучнёўскага сшытка і цікавай. І не толькі была гэта заява пра аднаўленне ў радах партыі, а і падрабязны жыццяпіс Сяргея Агейчыка з першых ягоных дзён.

Падрабязна і доўга пісаў ён пра сваё дзяцінства і пра ўдзел свой у грамадзянскай вайне.

„Уключыўся я,—пісаў Агейчык,—у жалезныя баявыя рады партыі большэвіцкай не для таго, каб за сябе непакоіцца, а для таго, каб не на жыццё, а на смерць біцца з белымі за совецкую ўладу і пролетарскую рэволюцыю. Перад тым усім ехаў я, згодна пісьма правадыра рэволюцыі таварыша Леніна, у доказ чаго і сашлюся на цытаты з поўнага збора яго твораў, з тома дваццаць трэцяга, старонкі ад дваццаць шостай да трыццаць першай, як камендант маршрутнага поезда пад нумарам трыццаць два, згодна мандата з цэнтра, па хлеб для рабочых. З гэтага і пачалося маё партыйнае жыццё".

Праз меру даўгой была Агейчыкава заява. Скончыў ён пісаць яе не задоўга да першага гудка і таму ўжо не клаўся спаць, а паціху пашоў на кухню, скінуў там з сябе і ніжнюю кашулю і доўга мыўся, пырскаючы халоднай вадой, націраючы ёю ўсё сваё цела.

Пазней на працы, як прагудзела на полудзень, Агейчык, спяшаючыся, пашоў да Довіда.

— На, вось зірні, ды перадай туды, куды трэба,—сказаў ён, аддаючы Довіду сшытак, у якім была напісана заява.—Я тут пра ўсё напісаў, падрабязна, а цяпер няхай яны разбяруцца, што і да чаго,—гаварыў ён усхвалявана і крыху пакрыўджана. Я пятнаццаць гадоў у партыі быў не для таго, каб мяне з яе выкідалі, калі спаткнуўся на чым. Я не контра якая-небудзь там...

— Ты не гарачыся—раіў Довід.—Крыўдавацца на сябе крыўдуй, тады лепш будзе.

— Не на цябе-ж праўдую, вядома на сябе. Але маё-ж усё перад партыяй, як на далоні яснае, з партыяй я ў хованкі не гуляў...

— Ну, добра, Сяргей, ідзі, а заяву тваю я сёння-ж і занясу ў камісію. Там яе хутка праверНуць, там цягнуць не будуць. Пройдзе тыдзень які, і ты, спадзяюся, зноў комуністам будзеш.

— Комуністам я заўсёды быў і буду.

— Ну, добра, добра,.. Справа гэта, вядома, не жартоўная. Бывай здароў.

Довід сунуў Агейчыку ў далонь сваю руку і пашоў у пакой да рэдактара заводскай шматтыражкі. Тады пашоў назад у цэх і Агейчык.

А праз восем дзён Агейчыка выклікалі ў гарадскую камісію, дзе разглядалася яго апеляцыя.

Калі сказалі Агейчыку, што ўвечары трэба ісці яму ў камісію, ён спалохаўся. Заспакаенне, якое было ўсталявалася ў працягу гэтых дзён, адразу знікла. Ён хваляваўся, у працягу цэлага дня ніяк не мог супакоіцца і з гэтай прычыны не мог падумаць, што-ж давядзецца сказаць там, на камісіі.

Дома-ж, як пачаў збірацца ў камісію, зусім нечакана ў ім зноў, як і ў першыя дні, абудзілася пачуццё крыўды і тады парашыў ён, што на камісіі будзе апраўдывацца, вінаватым сябе не прызнае і будзе трымацца спакойна і смела, будзе пярэчыць членам камісіі, калі яны задужа ўжо будуць строгімі. З гэтай мэтай ён і апрануў свой святошны пінжак, на якім насіў атрыманы ў узнагароду ордэн.

У невялікім пакойчыку, дзе чакалі сваёй чаргі выкліканьня на разгляд апеляцый, было чалавек дванаццаць. Шмат каго з прысутных Агейчык ведаў. Некаторых ведаў вельмі добра, і знайшоўшы іх тут, пачаў гаворку пра сваю справу. З тым, як гаварыў, усяляк апраўдываў сябе і з гэтым яшчэ больш умацоўваўся на рашэнні, што ні ў чым ён не вінен і што прызнавацца яму няма ў чым. З гэтай думкай зайшоў і ў пакой, дзе вялося паседжанне.

У пакоі было ўтульна і цёпла. Два невялікія сталы стаялі побач і за імі размясціліся члены камісіі. Агейчык, як зайшоў у пакой, добра разглядзеў толькі старшыню камісіі. Быў гэта зусім незнаёмы Агейчыку, стары ўжо мужчына. Ён першы паказаў Агейчыку на крэсла каля стала, непадалёк ад сябе і запрасіў яго сесці. І першым, пазіраючы проста ў твар Агейчыку, ён загаварыў:

— Ну, давайце таварыш Агейчык, гаварыць будзем, ці што?— Ты, таварыш Агейчык, ведаеш, за што цябе з партыі выключылі, пастанову камісіі ячэйковай ведаеш?

— Так, ведаю...

— Тады, мусіць, і зачытваць яе мы не будзем... Та-ак. Нядобра, таварыш Агейчык, вельмі нядобра. Як-жа гэта так вышла ў цябе, а? Партызан, чырвонагвардзеец, франтавік з тых, на каго апіралася партыя ў часы вайны, ордэн за гэта маеш і раптам падгалзіў...

Агейчык адчуў, як прыліла да твару яму кроў, сорамна стала, што надзеў сёння ордэн. як-бы наўмысля, як-бы напаказ. Зразу-

меў, што апраўдывацца нама чым. І тады адчуў, як заныла сэрца ад крыўды. Але крыўда была ўжо на самаго сябе за тое, што вось не даглядзеў ён і цяпер старшыня камісіі не можа сказаць, што франтавік, партызан Агейчык застаўся такім, якім быў у тыя дні. І каб яшчэ ён гаварыў не так ціха і не так спакойна, тады Агейчык адчуваў бы сябе цвярдзей, тады можа і адважыўся б запярэчыць яму хоць у чым-небудзь, а так, чырванее толькі і з вялікім напружаннем волі і то толькі час ад часу пазірае ў твар яму.

— Празяваў, здорава тут, таварыш Агейчык, і гэтым партыі нашкодзіў, рабочаму класу нашкодзіў вунь колькі. Трэба было уважлівей глядзець. Комуністу разявакай быць не можна. Нельга так давярацца гэтым людзям.—Ён паклаў на стол руку, у якой трымаў Агейчыкаву справу, зазірнуў туды і загаварыў яшчэ.— Вядома, трэба працаваць з беспартыйным спецыялістам, трэба клапаціцца пра яго, дапамагаць яму, але-ж тут быў чужы чалавек, вораг. Як-жа ты чужога не убачыў. І не толькі-ж не ўбачыў. Цябе папярэджвалі, не вер, глядзі, а ты сляпым быў, таварышам комуністам не паверыў, а ворагу даверыўся, яго адстойваў. Як жа-ж гэта, а? Комуніст так рабіць не можа. Гэта не комуніст, а, прабач мяне, як-бы тут мякчэй сказаць... ну, той, хто фактычна, хоча ён, ці не хоча гэтага, а перастае быць комуністам. Разумееш?.. Вось у чым тут справа. Які-ж ты, браток, комуніст, калі ты не партыі, а ворагу пасабляеш, а? Дрэнь справа. Ну, а сам ты што-ж скажаш?

— Што-ж я скажу,—загаварыў не падымаючы галавы Агейчык.

— Справа тут ясная, празяваў я, падгадзіў, нарабіў шкоды. Але я-ж не хацеў гэтага. Ды калі-б я ведаў яго... А то-ж ён працаваў, гаварыў за нас, у рацыяналізатарах самы актыўны ён у мяне быў, а я справы гэтай не разумеў добра...

— А калі-б ты, хацеўшы гэтага, нарабіў, дык мы з табой тут і не гаварылі-б, ведаю я, што ты не хацеў. Але-ж нарабіў... Ён да цябе ў давер'е ўлез, яму гэтага трэба было, ён і ў актыў пашоў, правай рукой у цябе быў. Самому справу ведаць трэба. А то, бачыш, вораг аказаўся хітрэй за цябе, абышоў. Вораг, ён цяпер і не ідзе ў адкрытую, ворага бачыць трэба...

— Правільна... Нарабіў, але ў другі раз гэтага не будзе. Ніколі не будзе. З тыла яны мяне ў другі раз не абойдуць,— а за гэтым падняў галаву і зашарыў па стале вялікімі сваімі рукамі, камечачы ў пальцах шапку.

— Та-ак. Справа цяжкая,—перабіў Агейчыка старшыня камісіі.

— Глядзець лепш трэба, бо справу мы вялікую робім і адказнасць за яе нясем вялікую. На фронце вось ты добрым краснагвардзейцам быў, партызанам добрым быў, а тут здаў. А трэба і тут такім быць. Я вось хачу верыць, што ў другі раз ты такога не зробіш, што комуністам будзеш. І што разумееш учынак свой, гэта добра. Ну вось і ўсё. А можа яшчэ хто скажа што? Не? Правільна, гаварыць тут асабліва няма чаго.

Віну ён сваю разумее, адчувае яе моцна як след большэвіку. Чалавек ён наш. Ну, можаш сабе ісці, таварыш Агейчык, бывай...

— Усяго добрага. Дзякую...

— Сіла ў цябе, відаць, чортава,—сказаў яшчэ старшыня, любуючыся на Агейчыка, калі той падняўся з крэсла.—З такімі хлопцамі зямлю перавярнуць можна. Ну, бывай!..

— Бывайце!..

А праз чатыры дні пасля гэтага, Агейчык атрымаў назад свой партыйны білет. У пакойчыку, дзе чакалі таварышы разгляду сваіх апеляцый, Агейчык на гэты раз не сустрэў нікога з сваіх знаёмых. Увайшоўшы ў пакой, ён доўга стаяў на самай яго сярэдзіне, разгублена пазіраючы на прысутных, а пасля разгарнуў на шырокай далоні невялічкую кніжку партбілета, перагарнуў колькі разоў яе лісткі, пасля згарнуў зусім, асцярожна паклаў білет у кішэнь пінжака і, шырока ветліва ўсміхнуўшыся да прысутных, кіўнуў да іх на развітанне галавою і, надзеўшы шапку, цвёрда пашоў з пакоя.

Менск. XII-33 г.

ВАСІЛЬ НЁМАН

## АСЕННЯЯ РАДАСЦЬ

Патухалі лясы у асенніх кастрах,
Нівы руньню смяяліся буйнай.
Мы сягоньня ў шырокіх палях
Убіралі калгасную бульбу.

Дождж асенні імжыў ды імжыў,
Шчокі ў працы ззялі брусніцамі.
Колектыўная моладасць ўсквечаных ніў
Ураджаем звініць большэвіцкім.

Панавіслі прысады над трактамі,
Роняць ў ветрах ліствы перазвон.
Крочаць сёньня к нам з горада трактары,
Ў горад збожжа—тысячы тон.

Сёньня радасць шляхамі ўспенена,—
Звонкі шэлест высокіх бяроз
Праводзіць да горада Леніна
За абозам чырвоны абоз.

Смутак радасцю сёньня стрыножаны,
Не хадзіць яму ў буйных палях:
Нашы дні расквітнелі заможныя,
Заіскрылася песня ў вачах.

---

МАКАР ПАСЛЯДОВІЧ

# ГАНЕБНАЯ ПЛЯМА

## I

Калі ў Якушавай Марылі знашлі на вышках хаты калгасны хамут, яна, стоячы ля парога, ледзь не самлела.

— А казала няма,— перадражніў Сцяпан Галуза, асцярожна ставячы ногі на старэнькую рыплівую леску.—Вось табе і „няма“.

За хамутом, як шэрыя вузлаватыя змеі, спаўзалі з вышак пастронкі. Яны былі прывязаны за вераўчаныя, кручаныя ў дзве столкі, гужы. Хамут быў старэнькі і зношаны лямець вісеў, як рыззё. Клешчы матляліся бязвольна і невядома дзе згубілі супоню. Вушка, кудэю супоню прадзявалі—было так раз'едзена ад зацяжнай службы, што праз яго можна было праняць цэлы пастронак.

Следам за Галузам па сцяне скруціўся з вышак Пятрусь Апалойчык. Жуючы зубамі тонкую сіневатую губу, ён пачаў атрасаць кастрыцу і пыл з галіфэ.

— Яна мо' яшчэ што крадзенае схавала?—не гледзячы на Марылю, як бы яе тут і зусім не было, прагаварыў Галуза.— Ціхая свіння глыбокі корань рые... Паглядзі там за кублам!

— Сам зірні,—буркнуў Пятрусь і шырока ступіў цераз парог на ганак.

Галуза асцярожна, як дарагую шкляную рэч, паставіў абшарпаны хамут ля лескі і накіраваўся да кубла.

— Сам дык сам... Няма чаго сароміцца, калі ў падрыўшчыкі падалася. А яшчэ актывісткаю, ударніцай, паскуда, прыкідвалася. Такую цяпер дадуць прэмію, што дзесяць год помніць будзе.

Старанна аглядзеўшы ўсе закануркі, няма ведама для чаго перастаніўшы на заслоне вядро з вадою, ён выцяг з кішэні парттабак і пачаў круціць папяросу. Потым перакінуў правую нагу цераз парог, сеў на яго, як на каня, верхам.

—Ты, мусіць, і дзьве сядзёлкі новыя сцягнула? — пытаў, нікаючы вачыма па падстрэшшу.—Калі не забылася, дзе паклала, сама аддай. На якое ліха табе лейцы сырымятныя здаліся?

Адчуваючы якою невымерна цяжкою зморою набраклі раптам ногі, Марыля абаперлася плячыма аб вушак. Праз расчыненыя дзверы рашуча і смела глядзела ў сенцы сонца. Два масенжных кольцы, укручаныя ў клешчы, бледна мігцелі ля намыленай даўнім конскім потам хамуціны. Марылі здалося, што не хамут ляжыць на падлозе, а вялікая крыважэрная гадзіна злосна раз-

зявіла страшную ляпу, каб скочыць да яе і праглынуць. Звіліся ў напруджаным чаканні ў кольцы два доўгія вузлаватыя хвасты...

Заахвочаны станоўчымі вынікамі вобыска, здавалася, бясконца гаварыў Галуза. І словы яго струменіліся, як дым ад папяросы. У голасе не было і ценю злосці. Здавалася, заскочыў на хвіліну сусед, напіўся вады і спакойна расказвае пра добрае надвор'е, пра тое, што Тодар Каленік адправіўся ўжо ў Менск па запасныя часткі да малатарні.

— І на якое ліха здаўся табе гэты хамут? Калі мне сказаў старшыня, што ёсць такая справа, дык я веры не даў. Не можа, кажу, гэтага быць! Што яна рабіць з ім будзе? Каб на другога каго паказаў, а то на Марылю—першую калгасную актывістку. Яна, кажу, за калгаснае дабро роднаму бацьку вочы выдзярэ, а не то што сама зладзействам пачне займацца. Шкоднікаў выкрывала, гультаёў, а тут... Ажно верна падказалі на цябе. Хоць ты і батрачка ад калыскі ў нас лічылася, але-ж нутро, усе вантробы твае кулацкім духам, аказваецца, дышуць...

Ён далёка адкінуў папяросу на двор і ўстаў.

— Вось сцамантуем на цябе пратакол ды ў следства. А там— суд. Не зарся на грамадскае дабро! Не руш, што табою не пакладзена. Дадуць табе дыхту, паскуда!..

Слова „паскуда“ ён такі зноў праказаў без усякай злосці. Усё роўна, як кінуў ветліва—„бывай здаровенька“. Але адчувалася ва ўсёй яго спакойнай гаворцы няўхільная і цяжкая кара, суровае папярэджванне пра яе.

Пятрусь Апалойчык моўчкі сядзеў на ганку, задумліва ўтаропіўшыся поглядам у палатно сцяга на былой царкве—цяперашнім калгасным клубе. Сцяг паласкаўся ветрам, высока і прызыўна ўзнімаў над будынкам яркае чырвонае палатно. Невядома кім падзуджаныя, беглі да Марылінай хаты дзеці. Станавіліся насупроць дзвярэй і назойна зыркалі дапытлівымі вачыма то на Апалойчыка, то на Марылю, углядаліся напруджана ў загадкавую цемень сенцаў.

— А вунь хамут той лязыць!—раптам закрычаў адзін хлопчык, шморгаючы носам.—З высак кінулі...

— Пашлі адсюль!—цыкнуў Галуза на малых.—Без вас управімся.

2

Якое тут прывесці параўнанне? Ну, скажам, каб балотная рэчка Павольная высахла ў адзін міг, ды і то не так-бы былі збянтэжаны Чырвонаўсходаўскія калгаснікі. Якое не было зладзейства, але ніхто ніколі не падумаў, а не то што шапнуў дзенебудзь пра Якушаву Марылю. Летась коп дзесяць жыта скралі ў Панізоўскай брыгадзе. У самое жніво сцягнулі канічныя шасцёркі ад двух жнеярак. Дзесяць пар пастронкаў знікла за адну ноч, калі азіміну сеялі. Увосень прапала дзевяноста шэсць кіло

ільнавалакна з сушні. Колькі невядома дзе дзелася грабель, вілак, лейцаў! Потым ужо сёлетняй вясною раптам, як сухотны, закашляў Апалойчыкаў трактар. Разабраў Пятрусь карбюратар, глянуў на фільтр і рынуўся да бочкі з газай. Туды нехта пяску чорт ведама колькі насыпаў.

— Кулакі, зладзеі арудуюць у нашым калгасе!—крычала на сходзе Марыля.—Трэба добра прыглядзецца да кожнага, выявіць падрыўшчыкаў, гнаць з калгасу, пад суд аддаць!

І раптам—на табе! Першая актывістка аказалася і першым выяўленым злодзеям. Ды хто? Член праўлення! Разоў чатыры прэміраваная за добрую работу па праполцы ільну, па пераапрацоўцы.

— Даскакалася, рызыкоўная!—гаварыла Тэкля Бачкарык гэтым вечарам ля сваёй хаты.—Крычала, што багацейшыя, Бачкарыкі транжыраць калгас, што гнаць такіх трэба... Ажно вунь дзе шыльца выткнулася! Цяпер яна паскача. Каменем на яе шыі хамут гэты павісне. І другое, чаго не знашлі, але што прапала, ёй прыпішуць. Бо хто-ж каліне яна?.. Вось!

З дзесяць жанчын згрудзіліся ля Тэклі, слухалі напружана незвычайную гострую навіну. Варочаліся яны з поля, дзе вязалі за жнеяркамі авёс. У некаторых былі ў руках жбанкі, якімі бралі ваду. Адна трымала два сярпы. Падаіўшы на ферме кароў, ішла вуліцаю Зося Тлума. Насвістваючы песню „Хаз булат удалой," праімчаўся на кані да праўлення брыгадзір Конаўскай брыгады здаравенны Майсей Валынец. Гулялі ў конікаў, узнімаючы густы пыл, дзеці. Беспрытульна снавала ля шчыкета рабая свіння. Чуваць было адсюль, як бразгалі пасудаю ў сталоўцы, грукалі калёсы ля аборы. Звінеў в канцылярыі праўлення тэлефон.

Раптам Тэкля прыгнула галаву, агледзела дасціпнымі вачыма вуліцу і зашаптала:

— А што было, што было, калі вобыск рабілі! Расказваў Галуза мужыку майму... Пятрусь—сам не свой, хадзіў, як капшук той, надзьмуты. Шукай, кажа на Галузу, сам! Я не даю веры. Прывыкацыя кулацкая, кажа, з актывістаў... А як згледзеў хамут на столі, дык аж пасінеў. Гэта комсамолец! Дзе-ж: яму не ў спадобе, што каханку Марылю спаганілі. А хадзіў ён за ёю.

— Хто яго ведае, як было,—уздыхнула Стэфа Чарнушка, жонка загадчыка фермы. І раптам узвысіла голас, бы пакрыўджаная Марыліным праступкам:—На якое ліха ёй хамут той здаўся? Чаго ёй не ставала?

— А вілкі, а лейцы?—кіпела гневам Тэкля.

— І лейцы, і вілкі... снапы леташнія... Толькі-ж не знашлі ў яе. Гэта-ж паклёп.

— Такая яна дурная, каб на відзе класці! Тое даўно сплыло.

— За тое яна адказваць не будзе. За адзін хамут асудзяць.

— Яна за ўсё зладзейства цяпер адскача!

— Чшшсс!..—махнула рукою Тэкля і ганарліва задрала галаву, косячы вачыма ў бок Марылінай хаты.

Жанчыны разам сціхлі і моўчкі, як па камандзе, крутнулі галовамі. Павольна, бы сонная, брыла па вуліцы Марыля. Здавалася ішла яна па пустэчы, дзе не было будынкаў, людзей. Дзе была толькі яна адна паглыбленая сама ў сябе, дзе не было на што і на каго вастрыць вочы. Стылі вочы непарушна на вымытым бядою бледным твары.

Дзеці кінулі гуляць у конікаў і рынуліся да шчыкета. Там згрупаваліся адзін ля аднаго і прытсена знямелі ў непарушным чаканні нечага цікавага і незвычайнага.

— Дзе яе той спрыт дзеўся?—першай абазвалася Тэкля, калі Марыля мінула яе хату.—У праўленне, відаць, пасунулася.

— Цяпер паходзіць.

— Вінавата ці не вінавата.

— Няхай не зарыцца на грамадскае дабро.

Тэкля ўзялася за бокі.

— Якое, кабеткі, дабро? Яно скрозь так ідзе! Чэсны чалавек робіць, а злыдзень яму дол капае. Усе яны такія... Дзе яно тое дабро ў такім гурце будзе? На сходзе падцкоўвае, каб працавітых людзей з калгаса выгнаць, а сам цікуе дзе што не добра пакладзена... Які-ж гэта дурань рабіць ім будзе?

3

Яшчэ здалёк пачула Марыля бурную гаворку ў праўленні. Праз расчыненыя вокны выкручваўся на вуліцу дым, густы, як людскія галасы. Рабы аднавокі Мірон Пацук, калгасны вартаўнік, адзін-адным сядзеў на ганку і квэцаў прамасленай анучкай затвор ад бярданкі. Чатыры зеленаватыя ад іржы медныя патроны ляжалі на сходках.

— Добры вечар,—сказала Мірону Марыля.

Мірон задраў угору густую рыжую бараду і моўчкі скасіў вокам на Марылю. Потым павольна паклаў стрэльбу на калені.

— Добра білі, добра і енчыў!—пажартаваў у адказ на прывітанне.—Што: правоў, кабетка, шукаеш? Чуў я, чуў!

— Я невінаватая...—дыхнула Марыля.—Сама не ведаю, як гэты хамут да мяне трапіў...

Пацук хітрэцкі ўсміхнуўся.

— Канешне, ты не вінаватая... Хто гэта кажа? Хай таму язык адсохне!

Ён сабраў з усходцаў патроны і кінуў іх усе ў кішэню. Потым адумаўся, дастаў адзін патрон зноў з кішэні і паклаў у бярданку. Кляпнуў затворам.

— Быў даўней адзін такі злодзей,—зноў загаварыў Пацук.— Ну, дык краў ён, краў, пакуль за каўнер не ўзялі. Павялі яго судзіць. Пытае самы галоўны начальнік:

„Гэта ты ў Пінціка Васілія грошы з падстрэшша выцягнуў?"

„Не, не я—упінаецца злодзей.

„Можа не ты і Шустовічавага каня асядлаў? Можа не ты кубел сала падгледзіў у Петрака Міцуры?

„Не, не я.

Суддзя ад злосці не ўседзіць.

„Ах, ты, кажа, басэтля! За ўсё гэта жэўцы табе адгнялі, але яшчэ мала! Можа скажаш, што не цябе злавілі, калі Сідаравы пчолы драў? Га?

„Мяне,—прызнаецца злодзей.

„І цяпер можа скажаш, што не ты мёд хацеў красці.

„Я не хацеў, гаспадзін суддзя...—прызнаецца злодзей.—Рукі самі самавольна палезлі. Прычым-жа тут я? Рукі судзіце. Яны і Пінцікавы грошы спэйкалі, і Шустовічавага каня вывялі... Усё рукі, а не я, гаспадзін суддзя“...

Пацук ускінуў стрэльбу на плечы.

— Так яно і тут можа быць... Прычым тут ты.

Марылін твар ураз набрак густою чырванню крыві.

— Хлусіце! Я член праўлення...

Пацук ужо сходзіў з ганка, але потым спыніўся і цяжка засіпеў:

— Калі член праўлення, дык і красці не можа? Яму яшчэ зручней. Гэта такая махінацыя можа быць, што сам сцягне, а на другога, невінаватага, крычаць, тыкаць пальцам пачне: „Трымай яго! Гэта ён падкоп пад калгас робіць“.

— Хлусіце!.. На што мне хамут стары...

— Злодзею усёроўна. У яго такая натура: усё, што ёмка дзе ляжыць, падмятаць пад сябе. Во як.

Пацук крукам сагнуў руку і грабянуў замасленымі бруднымі пальцамі паветра.

— Во як, во як!..

У Марылі адышла ўсякая ахвота ісці ў праўленне. Яна села на ганак і ўтаропілася нуднымі вачыма ў густое мора ільну, якое пачыналася за плотам насупроць праўлення. Гуляў па ільне лёгкі вецер, гушкаў ходкія зялёныя хвалі. Ярка і востра загойдаліся ў Марылінай галаве ўспаміны.

... туліцца да зямлі мяккі і цёплы вечар. Даўно супакоіліся жаўранкі, толькі аджылі і зарыпалі на далёкім лузе драчы. Хлабыснула ля выжарын пругкім крыллем патрывожаная кнігаўка. Далей за выжарынамі, дзе цяпер авёс, ад жалезнага подыху трактараў гулка і радасна ўздыхала зямля. Парылася і млела яна ў салодкай знямозе пладлівасці, раскутая ад цяжкіх ланцугоў зімы агнёвай сілай веснавога сонца.

— Хадзем да хаты,—звалі жанчыны Марылю.

— Я яшчэ пагляджу, ці не пакінулі мы якое каліва сарніны.

— Ты ўжо раз абыйшла. Адзін чысты лён астаўся.

— Нічога. Ідзіце сабе, я даганю.

Стала і доўгі час глядзела на роўныя-адно ў адно-калівы ўсходаў. Лён быў ранні і ішоў, як на дражджах. Калі добра дагле-

дзець, убраць сваечасова і апрацаваць добрасумленна, дык можа выйсці самы большы нумар. Управіліся-ж добра з першай праполкай! На чатыры дні скончылі работу раней, як планам было вызначана. Прыходзіў сюды нядаўна старшыня—Тарас Карпёнак. Абгледзеў клопатным вокам усю работу. Асцярожна ступаючы нагамі, каб лішняе не таптаць усходаў, падаўся на сярэдзіну засеву. Зыркаў вачыма то ў адзін, то ў другі бок шырокага поля. Нагінаўся нечага, як бы чаго шукаючы ў густой і мяккай зялёнай поўсці. Потым, калі вярнуўся зноў да брыгады, смуглым сонцам дрыжэлі яго губы.

— Што вы робіце, што вы робіце?—прытвараючыся, закрычаў ён да жанчын.—У магілу загнаць мяне наважылі!

Жанкі паднялі галовы ад ільну. А Марыля, думаючы, што старшыня выкрыў які незаўважаны прарыў у рабоце яе брыгады, занепакоілася.

— Дзе, што?

Старшыня зрабіў пакрыўджаны выгляд.

— Вы мяне да торбы давядзеце, займаючы першыя прэміі! За апрацоўку ільну зімою ваша брыгада была першай. Цяпер—ізноў.

Ён раптам падняў вочы на Марылю.

— І ўсё ты вінавата! Відаць, як згаварылася з Апалойчыкам. Ён на трактары першы, а ты па ільне. Та-ж вас хоць пажані... А працадні: у яе 394 было летась і ў яго 394. Нейкая прымета...

Поле зазвінела звонкімі жаночымі галасамі. Некаторыя ўжо згаварваліся, чым дапячы старшыні за дарэмна наведзены страх. Але Карпёнак так спрытна пераляніў тэму гаворкі, што жарт на доўга не зацягнуўся...

Дык от стаіць Марыля ля ільну і ўнутры яе ўсё бурна дыша радасцю ад паспяховай работы, ад таго, што жыццё пашло па роўнай лініі. Толькі не лянуйся, рабі. Ніхто не стаіць поперак дарогі, ніхто ўжо не жыве тваім потам. Батрачка кулака Здзіры, яна засталася гаспадаром у хаце, як таго раскулачылі, засталася гаспадаром свайго жыцця ў калгасе... Сама выпрасілася з грудзей песня.

Шумна плёскалася ў голасе гарачае сонца, дыхаў паўднёвы мяккі вецер, песцілася мяккая ўраджайная зямля.

Раптам яна сціхла, бо нечакана дзве далоні засланілі вочы і следам за гэтым у носе заказытала ад бензінавага і мазутнага паху.

Яна ў раз прысела і рукі, калі глянула ўверх, стылі над галавою, абнімаючы пустэчу.

— Ты чаго тут арудуеш?

— А ты чаго напады робіш?

— Не люблю калі хто без работы стаіць!

— А я не люблю, калі хто рукі залішне даўгія мае!

— А-а-а...я...

— Вось табе і „ааа". Яшчэ якаецца! Упэцкаў рукі ў нейкі смурод і думае, што гэта гонар. Ідзі трактар абнімай!

Хвілін пяць цягнецца такая страляніна словамі. Нарэшце, Пятрусь узганяе на твар разгневаны выгляд.

— Аставайся сабе тут адна! Я пайду.

І ступае ад Марылі.

— Ідзі, ідзі! Без цябе дарогу сюды знайшла, без цябе і вярнуся.

— Ваўкі ходзяць,—прабуе страшыць Пятрусь і трэ шорсткія ад бэнзіну і мазуту далоні.—Сёння раніцай два здаравенныя як коні, пакуляліся ў Драздоўскі мох.

— Няхай сабе куляюцца.

— З'есці могуць. Хутка зусім сцямнее.

Марыля робіць выгляд, што і сапраўды спалохалася.

— То лепш да хаты ісці.

Ад гэтага месца да калгаса не больш кілометра, але Пятрусю і Марылі трэба не менш, як две гадзіны, каб дабрацца па роўнай дарозе да хаты...

І раптам абарвалася ўся гэта прыгожая быль, зламалася і жорстка скруцілася простая, але яркая лінія жыцця. У неспадзеванай злой бядзе патанула радасць. І ўсё, што было ў галаве—светлае і вялікае—забруджана, заплямлена выпадкам, адной якой хвілінай атручана маладосць...

Пругкім крокам узляцеў на ганак Пятрусь. Відаць, толькі што скончыў сваю змену і адразу накіраваўся ў праўленне. Бо, як і таго вечара, забруджанымі мазутай і газай былі рукі, не скінута заквэцаная спецоўка. На тонкай верхняй губе ля самага носа чарнелі дзве плямы ад пальцаў. Пятрусь холадна і нецярпліва, як бы адбываючы заведзеную здаўных няпрыемную павіннасць, ледзь прыкметна матнуў Марылі галавой і паспяшыў знікнуць за дзвярыма. Нават і адным вокам не глянуў на Марылю. Праімчаўся, як чужы і далёкі. Так ураз перайначыліся ўсе. То раней голасна віталіся з ёю пры сустрэчы, а цяпер—галавою матне, а некаторыя нават, праходзячы блізка, адварочваюцца ў другі бок і так мінаюць: ні добры вечар, чі дзень добры. І ўсё гэта, бы нажом недзе вострым унутры. Быццам глухая сцяна недаверлівасці і жорсткай знявагі вырасла паміж ёю і ўсім колектывам. Ужо чацверты дзень так...

Галасы ў праўленні прыцішэлі. Потым бразнулі вакном, зачыняючы яго нанач. Вышаў на ганак Савасцей Міклуш, новы сакратар парт'ячэйкі, за ім—Майсей Валынец, Пятрусь Апалойчык, замыкаў дзверы Карпёнак.

Бачыла ўжо гэтае Марыля здалёк уцякаючы з распаленымі думкамі ў халаднаватую спакойную цемень вечара. Не чула, як ціха казаў Міклуш Пятрусю:

— Дык сёння мабілізуй комсамольцаў. Валынец нанач тут застанецца. Галуза няхай з вамі ідзе. А дзе-ж Марыля?

4

А поўначы, калі, стомленая за дзень, зусім утаймавалася зямля, вылузаўся з-за качароўскай пушчы срэбны зрэзак месяца. Бледнае, ледзь улоўнае, святло струменілася над кароўнікам, ля якога вандраваў Мірон Пацук. У аборы санліва тупалі каровы, і пасланая ўчора салома шуршэла пад іх нагамі, як сухі ліст. Мірон Пацук пахадзіў хвілін пяць ля месячнай сцяны, потым стаў і пачаў прыслухоўвацца. Злавіў напрактыкаваным вухам нейкі ціхі, але настойлівы лёскат аб сцяну з другога зацененага боку будынка.

— Мірон, Мірон...—пачуў асцярожны шопат.

Пацук непакойліва аглянуўся і рынуўся ў цень.

— Бачкарык?

— Я...

— А хто другі з табой?—агледзеў аднавокі непарушную маўклівую постаць з нейкім скруткам пад пахай.

— Дэрах...

— Здзіра?—ледзь звёў дух Пацук.

— Ага... З Котласа ўцёк...Ужо два дні ў маёй варыўні вылежаў.

— Адпачываў пасля холоднага курорту,—нервова засмяяўся Дэрах.—У сваю мярлогу і воўка цягне.

— Разбурана ўжо твая мярлога... Пад нас падкапваюцца ўжо. Твая Марылька першай напад зрабіла. Толькі мы з Бачкарыкам яе абсадзілі. Цяпер яшчэ Апалойчыку і Карпёнку трэба струну навесці. Падкінуць што, як і Марыльцы,—спаганяцца перад усім народам. Народ тады агледзіцца і скажа: не хочам калгаса, калі зладзеі ім кіруюць.

Пацук гаварыў, як бы выхваляючыся сваім спрытам. Паведамляў Дэраху апошнія калгасаўскія навіны.

— Яна са сваім каханкам любоў разводзіла, а я тым часам шпурнуў хамут на вышкі. Толькі зачыніў сенцы, аж сунуцца яны. Шапоча яе любы: „Табе, Марыля, на рабфак трэба паступаць“. А я нямею ля сцяны поцемкам і смяюся сам сабе: „Добры цяпер выйдзе рабфак... Павучаць яе за хамут“.

Пацук раптам змоўк і напружана выцягнуў шыю.

— І я чуў, як нешта трэснула...—зашаптаў Бачкарык, увесь прынікаючы да сцяны.

Пацук зняў з пляча стрэльбу.

— Пайду, пагляджу.

Ён густа зашастаў у чулай цішычі ботамі. Растванеў і зліўся ў ледзь улоўным святле месяца. Хвілін праз пяць вынырнуў ужо з другога боку аборы.

— Мусіць каты ходзяць... Яны тут марцуюць. Пойдзем?

— Ага. Бо ноч мінаецца.

Пацук яшчэ раз аглянуўся і першым рушыў ад будынка. За ім следам, прыгінаючыся да зямлі, сунучы па ёй свае крывыя цені, падаліся Здзіра і Бачкарык. Яны дабраліся да мэндлікаў жыта і тут Здзіра расхінуў скрутак.

— Кожнаму мех. Трэба выбіраць сушэйшыя снапы. Садзі коласам у мех і шаруй, каб усё зерня адсыпалася...

Далей яны ўжо з гадзіну арудавалі моўчкі. Падазрона касіўся на поле даўгім вузкім срэбным бяльмом месяц. Трывожна грымелі на далёкім лузе драчы, недзе цвыркала перапёлка.

Цяжка сапучы ад нагружанага на плечы дабра, моўчкі, звярыным драпежным крокам, пачалі яны адыходзіць ад мэндлікаў.

— Два мяшкі ў Бачкарыкаву варыню схаваем, а трэці пад павець Апалойчыкаву падсунем. Выцягнем канец меха праз падрубу на вуліцу і, быць не можа, згледзіць нехта... Тады...

Бачкарык не дагаварыў. Як з пад зямлі выпрасталася перад імі жаночая постаць. Стары Мірон Пацук затросся, падумаўшы што навёрз гэтую здань сам д'ябал. Ён кінуў мех і нервова пераджагнаўся.

— Не адхрысціцеся, зладзеі!

— Марыля...—завойкаў Бачкарык.—Ты чаго тут?

— Усіх цяпер на чыстую ваду выведу.

Яна стаяла блізка ля збянтэжаных мужчын. уся бледная ад бледнага месячнага святла. Потым, нешта наважыўшы, асцярожна пачала адступаць. Дэрах павольна ссунуў мех на зямлю. Тады сагнуўся і раптам, як змяя, скочыў наперад. Хціва схапіў доўгімі вузлаватымі пальцамі за горла.

— Прыкладам... па галаве,—засіпеў, адвярнуўся да Бачкарыка і Пацука.

Але ўдарыць не паспелі. Аднекуль вынырнуў здаравенны Валынец, махнуў жалезнымі віламі. Потым з-за мэндлікаў выбег узрушаны Галуза, за ім Апалойчык і яшчэ два камсамольцы. Мірон Пацук падумаў, што сніць ён цяжкі страшны сон. Што варта яму трохі пераламаць напружаныя думкі і падацца ў бок, як усё мінецца. От толькі мех з плячэй скінуць...

— Пачакай, хлопча!—асадзіў яго намер Сцяпан Галуза.— У мяне рука цяжкая. Дык вось вы якія!

Ён размахнуўся, не стрымаўшы злосці. Пацук з мяшком рынуўся на зямлю і завыў, заскіголіў, як паранены на аблаве звер.

— Павый мне—яшчэ больш раз'ятрыўся Галуза, вырываючы вілы з Валынцовых рук.—Я табе сукін сын, пакажу, як паклёпы наводзіць на сумленных людзей...

Памаўчаў які момант, потым дадаў холадна:

— Падымайцеся, у канцэлярыю пойдзем. Працадні там вам прыпішам... За хамут, што Марылі падкінулі, за пастромкі, за падкоп...

Зноў гадзіны са дзве цягнулася Марыліна і Пятрусёва дарога да хаты.

— Заўтра ранні лён будзем церабіць.

— Няўжо даспеў?—здзівіўся Пятрусь.

Марыля махнула рукою.

— У самы раз! Я ўжо агледзела.

Як уваходзілі ў вароты, міма праімчаўся на кані Майсей Валынец. Ён спяшаўся ў сваю брыгаду.

М. КЛІМКОВІЧ

# СОВЕЦКАЯ ЛІТАРАТУРА БССР ДА XV З'ЕЗДА КП(б)Б

Прайшло два гады паміж XIV і XV з'ездам КП(б)Б. Два гады— адзін, які завяршыў першую пяцігодку, скончыў эканамічны падмурак для пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадства, другі—які распачаў другую пяцігодку, пяцігодку пабудовы гэтага грамадства. Гэтыя два гады былі гадамі велізарнейшага росту прамысловасці і сельскай гаспадаркі, гадамі небывалага ўздыму творчага энтузіазма рабочага класа і ўсіх працоўных, гадамі небывалай вучобы мільёнаў, масавай вучобы, вучобы палітычнай, тэхнічнай і агульна-асветнай, вучобы за кнігамі, за станком, за трактарам, вучобы ў агні класавай барацьбы. Многа пабудаваў рабочы клас, многае перабудаваў, шмат прарабіў і ў сэнсе выхавання новага чалавека за гэтыя два гады. Вырас на полі пад Гомелем Касцюкоўскі шкляны завод—адзін з магутнейшых ў Саюзе; на процілеглым канцы БССР вырас цэментны Крычаўскі завод, які абагнаў сваей прадукцыяй завод, апеты Гладковым у рамане „Цэмент"; дабулавалася фабрыка КІМ, на 10-ць тысяч рабочых, адбудаваны і пушчаны ў ход дзесяткі буйнейшых прадпрыемстваў. І самае галоўнае—сур'ёзна і клапатліва ўзяўся рабочы клас за асваенне новай тэхнікі, за поўнае скарыстанне новай тэхнічнай асновы, якая падведзена пад прамысловасць, узяўся за якасць прадукцыі.

Па-новаму пастаўлена пытанне і аб сельскай гаспадарцы. Мала стварыць калгасы, мала замацаваць іх існаванне. Трэба зрабіць іх большэвіцкімі і заможнымі (і тут вырастаюць політаддзелы), трэба моцна ўвесці іх ў агульную сістэму социялістычнай гаспадаркі, каб і гэтая частка гаспадарчага механізма працавала безагаворачна і давала добраякасную прадукцыю і заводам і спажыўцу. І разам з гэтым трэба, каб ўжо зараз створанае забяспечыла высокі жыццёвы ўзровень працоўных, не гледзячы на магутны рост—і колькасны і якасны—узросшых патрэб будаўнікоў социялізма. Усё гэта заваёвана пролетарыятам у жорсткай класавай барацьбе ўнутры краіны, у баях з разбітым, але не дабітым, распоўзсшымся па краіне, класавым ворагам, заваёвана ва ўмовах капіталістычнага абкружэння, сціснутага абцугамі крызіса і падрыхтоўкі новых войн і, у першую чаргу, новай інтэрвенцыі супроць Совецкага саюза.

Літаратура—частка социялістычнага будаўніцтва, літаратура— люстэрка яго перамог і барацьбы, літаратура—вакно ў яго будучае.

Літаратура—вострая зброя ў руках класа-пераможца і за сваё сёння і за сваё заўтра.

Як-жа адлюстравала нашая совецкая літаратура грандыёзныя баі пролетарыята Совецкай Беларусі за новую індустрыяльна-аграрную, культурную краіну, не толькі дэкларыраваўшую, але і здзейсніўшую, пры дапамозе усяго Совецкага саюза, поўную фактычную роўнасць з буйнейшымі індустрыяльнымі краямі і абласцямі саюза. Як адлюстравала яна велізарнейшыя зрухі ў эканоміцы края—ад новабудоў буйнейшых фабрык да большэвізаванага гераічннай работай політаддзела—калгаса? Як заражала энтузіазмам будаўнікоў соцыялізма, як граміла класавага ворага? Як дапамагала партыі ў велізарнейшай справе перавыхоўвання чалавека? Гэтыя пытанні мы ў праве паставіць перад літаратурным фронтам, калі падводзім вынікі яго работы да партыйнага з'езда.

На жаль, мы не можам сказаць, што літаратура аказалася цалкам на вышыні тых задач, якія партыя і грамадскасць ставілі і ставяць перад ёю. Праўда, мы далёка шагнулі ўперад за гэтыя два гады, праўда, мы маем у актыве па ўсіх лініях вялікія, узросшыя і мастацкі і ідэёва творы, праўда, мы ачысцілі літаратурны участак соцыялістычнага будаўніцтва ад многіх класававарожых элементаў і ўплываў—мы забяспечылі непарыўную сувязь літаратуры з політыкай і практыкай нашай партыі ў соцыялістычным будаўніцтве. І ўсё ж мы адстаем ад пастаўленых перад намі задач, адстаем ад тэмпаў нашай вялікай будовы. Але мы ведаем, што гэта цяжкасці росту, якія самі ў сябе тояць магчымасць нашай перамогі над імі.

За гэтыя гады мы зламалі „тэорыю адлегласці", мы яшчэ раз даказалі ўсю бязглуздасць і шкодніцтва трацкісцкай тэорыі „обоза", якая абракала літаратуру на хвасцізм. „Хлебнай зімой" Александровіча, „Начальнікам Палітаддзела" Глазырына, „Адшчапенцам" Коласа, „Так пачыналася маладосць" Броўкі і нават другім томам „Язэпа Крушынскага", З. Бядулі, напісанымі па „соцыяльных заказах", напісанымі ў разгар калектывізацыі, у разгар хлебанарыхтовак,—мы даказалі ўсімі пісьменніцкімі пакаленнямі, што тварыць можна і трэба няўмiручыя рэчы на матар'яле нашага сёння.

Мы зламалі і другую шкодніцкую контррэволюцыйную тэорыю нацыянальнай абмежаванасці, правінцыялізма, замкнутасці, вузкай вясковай тэматыкі, слязлівага аплакавання нашай рэчаіснасці. „Бацькаўшчынай" Кузьмы Чорнага, „Наша бацькаўшчына СССР" П. Броўкі, „Баянам" Лынькова, паэмай аб Беламорскім канале Харыка, нарысамі Мікуліча і Галавача, радам п'ес, пашоўшых на ўсесаюзную арэну,—мы вышлі за межы Совецкай Беларусі, а лепшымі творамі мы вышлі на ўсесаюзную літаратурную арэну.

А раз мы вышлі на гэтую вялікую дарогу, раз мы перамаглі тэорыі ворагаў, якія цягнулі нас назад—мы набылі новыя магчымасці шагаць далей больш шпарка і ўпэўнена і з большымі поспехамі, тым больш, што мы выкінулі з сваіх радоў агентаў

беларускай нацдэмаўшчыны, якія шкодзілі нашаму руху наперад атрутным словам, гнілым і тухлым поглядамі і відам, змяіным шэптам стараючыся стаміць і ўсяліць няўпэўненасць ў нашы рады. Мы з агідай адкінулі гэтае смецце—стала лягчэй ісці, ясней стаў гарызонт, баявей настрой. І ў гэтай барацьбе мы многаму навучыліся. Навучыліся распазнаваць ворага пад маскай нават рэволюцыйнай фразы, навучыліся выцягваць контррэволюцыйныя справы па архаічнаму, кулацкаму рабацінню і воспінам мовы, навучыліся распазнаваць „прыстройку" ад „перастройкі". Прыстроіліся да совецкай літаратуры Нікановічы і Лужаніны, якія думалі культываваць у ёй такое адабражэнне совецкай рэчаіснасці, якое ўскладае на яе адказнасць за рэцыдывістаў, збіўшыхся з круга гнілых інтэлігенцікаў. А каб замаскаваць сваю прыстройку, Нікановічы білі сябе ў грудзі і абяцалі п'яным голасам „перабудавацца", а Лужаніны пісалі ура-ррэволюцыйныя славесныя і часам бяссэнсовыя дэкларацыі-вершы. Прыстройка была дэмаскіравана, ворагі былі выкінуты. Прыстроіліся да літаратуры Таўбіны, спрабуючы алегарычна пераносіць жахі апяваемага імі капіталістычнага ладу ў наш Совецкі саюз, прыстроіліся Калюгі і Русаковічы, якія спрабавалі за „калгаснай тэматыкай" схаваць сваю звярыную нянавісць да калгаснага ладу. І гэтая прыстройка была дэмаскіравана і вораг выкінуты. З большай пільнасцю прыглядаемся мы да сваіх спадарожнікаў, самі ўскрываем відавочныя элементы прыстройкі Віцьбіча, які пад совецкай тэматыкай хавае сваю класавую прыхільнасць да разбітага намі ворага, крэпка папярэджваем Хадыку, які вельмі марудна рве (і пакуль што на словах) з уплывамі нацыяналістычнай абмежаванасці не толькі ад рускай мовы, але і ад мовы шырокіх пластоў рабочых і калгаснікаў Совецкой Беларусі; папярэджваем моладзь тыпу тав. Засекі, якая спрабуе ісці па шляху скажэння паказу сілы ворага, скажэння паказу нашай рэчаіснасці. Чаму мы сталі больш пільнымі? Таму, што наша няпільнасць, прытупленне класавай дбайнасці дала магчымасць нацыяналістычным, рэваншысцкім элементам скарыстаць наш гнілы лібералізм і, вылезшы на старонкі друку, нарабіць вялікай шкоды справе пролетарскага інтэрнацыяналізма ў нашай літаратуры. ЦК КП(б) Б пад кіраўніцтвам лепшага вучня тав. Сталіна—тав. Гікала крэпка ўказаў нам—работнікам літаратуры і ўсяму літаратурнаму фронту на нашы памылкі, ускрыўшы контррэволюцыйную сутнасць рэваншысцкіх вылазак, прыкаваў увагу да літаратуры з боку партыі і совецкай грамадскасці. Сталёвы, загартованы большэвік і большэвіцкая партыя навучылі нас быць большэвікамі і змагацца з класавым ворагам, а гэтым самым—забяспечыць далейшы рост літаратуры.

І калі недабіткі нацдэмакратызма ў нас і нацдэмы Заходняй Беларусі паднялі—адны змяіны шэпт, другія—сабачае выццё навокал пытання змены ў беларускім правапісу (можа і таму яшчэ, што не маглі разявіць рота навокал агіднейшай правакацыі

сваіх „паслоў"—да таго смярдзючай і нахабнай была гэта правакацыя нацдэмаўскай контррэвалюцыі і да таго просталінейна яна была звязана з майстрамі катаўскай расправы—контрразведкай і фашызмам)—пісьменніцкая грамадскасць не толькі дала знішчальны адпор гэтаму выццю, але шырокім фронтам павяла змаганне за чыстку ўсёй літаратуры, за ачыстку беларускай, яўрэйскай, польскай літаратурнай мовы ад засмечанасці—пладоў шкодніцкай работы нацыяналістаў усіх масцей.

У працэсе гэтай барацьбы яшчэ ясней стала пісьменнікам, наколькі жыццёва неабходна класавая пільнасць, тым больш у такія моманты, калі гінучыя эксплаатататарскія класы пускаюць у ход ўсё—ад агіднай правакацыі фашысцкага толку да звярынай хітрасці і маскіроўкі контрразведчыка. Ясней стала контррэвалюцыйная, шпіонская дзейнасць былых слупоў нацдэмакратызма тыпу Ігнатоўскага, а значыць—і яснай роля іх сучасных паследавацеляў, ці нават малейшых прыхільнікаў. І ад гэтага яшчэ больш згуртавалася беларуская совецкая літаратура навокал партыі, вышэй і вышэй узносячы сцяг баявога пролетарскага інтэрнацыяналізма, баявога яднання з брацкімі літаратурамі Саюза Советаў.

Правільная лінія партыі ў справе выхавання пісьменніцкіх кадраў старэйшага пакалення, поспехі соцыялістычнага будаўніцтва і бязлітасная барацьба з нацыянал-дэмакратызмам зрабілі тое, што гэтыя гады былі гадамі сапраўднай перабудовы пісьменнікаў, якія ў сваім мінулым на пэўных этапах стаялі на шкодных для пролетарыята, нацыяналістычных позіцыях. Гэтая перабудова не толькі ў тым, што Колас, Купала, Бядуля актыўна ўключыліся ў практыку соцыялістычнага будаўніцтва (хоць гэта адно з'яўляецца фактам вялікага значэння), гэтая перабудова ў самой творчасці пісьменнікаў. Удзел у соцбудаўніцтве, як і творчая перабудова падказалі пісьменнікам нашу совецкую тэматыку, падказалі проблемы, якія цікавяць рабочага чытача, цікавяць совецкую грамадскасць, накіравалі гэтую тэматыку супроць класавага ворага (у тым ліку і буржуазных нацыяналістаў). На прыкладзе паэмы Янкі Купалы „Над ракой Арэсай" мы яскрава бачым пладатворны ўплыў удзела пісьменніка ў соцыялістычным будаўніцтве на яго палітычны рост, на творчую актывізацыю, што ў сваю чаргу дало магчымасць народнаму паэту прадоўжыць, развіць і падняць на якасна-новую вышыню лепшы рэволюцыйна-дэмакратычны элемент дарэволюцыйнай сілы паэта: яго гераічны эпос, фольклорную прастату і народную лірычную песеннасць. А гэтыя лепшыя рэволюцыйна-дэмакратычныя рэчы яго дарэволюцыйнай паэзіі, тыя ў якіх не было яшчэ буржуазна-нацыяналістычнага ўгара—былі багатыя.

Падняцца ізноў на вышыню сваёй сілы і здольнасці пасля рэакцыйных нацыяналістычных зрываў—Купале дапамагла наша совецкая грамадскасць, наша бальшэвіцкая крытыка.

Надрукаваныя „Полымем Рэвалюцыі“ ў гэтыя гады рэчы Якуба Коласа „Адшчапенец“ і „Дрыгва“ таксама з'яўляюцца паказчыкамі арганічнай перабудовы другога народнага паэта.

Характэрна тут падкрэсліць яшчэ адну рысу перабудовы такіх пісьменнікаў, як т. Зарэцкі і, нават, як т. Чорны. Тав. Зарэцкі, у мінулым ацяжараны значным грузам нацыяналдэмакратызма, буржуазнага псіхалагізма, напісаў спачатку „Вязьмо“, а потым п'есу „Сымон Карызна“, дзе спрабуе развянчаць свайго былога героя — „шукальніка хараства“, што ў п'есе здавальняюча ўдаецца. Побач з гэтым Зарэцкі дае новыя вобразы—Пацяроба і Зелянюка. Пацяроб гэта левы загібшчык, які за гучнай левай фразай хавае свае права-апартуністычныя справы. Другім новым вобразам ў гэтым-жа рамане Зарэцкі дае, упяршыню за ўсю сваю творчасць, вобраз рабочага Зелянюка, хай сабе і ў абставінах вёскі, а не ў абставінах завода.

Такі-ж перагляд сваіх творчых устaновак дае тав. Чорны. Пераглездзеўшы і перацаніўшы свой ранейшы імпрэсіяністычны вяскова-абмяжованы прынцып „улады зямлі“ (раман „Зямля“), тав. Чорны ў рамане „Бацькаўшчына“ паставіў ужо ідэю класавага разумення ўласнасці і бацькаўшчыны, правільна абнажыў класавыя спружыны „улады зямлі“, адначасова зрабіў свой радок больш дынамічным , вызваляючы яго ад залішняга арнаменталізма і пасыўнасці.

Гэтая перабудова дала велізарнейшыя крокі наперад дзякуючы гістарычнай пастанове ЦК ВКП (б) ад 23 красавіка 1932 г.,— яшчэ раз кажу—дзякуючы вялікай выхаваўчай рабоце нашай партыі і беражлівым адносінам да пісьменніка. Яна з'яўляецца таксама вынікам кансалідацыі комуністычных сіл літаратурнага фронта і пасілення іх вядучай ролі ў літаратуры, што было запісана, як умова далейшага росту літаратуры ў пастанове ЦК ВКП і ЦК КПБ. Прыклад Андрэя Александровіча, калі ён у найбольш востры момант барацьбы партыі супроць нацдэмаў накіраваў сваю паэму „Цені на сонцы“, як баявы снарад у лагер ворага, або калі ён абрушыў з усёй сілай і страстнасцю „Хлебную зіму“ у дапамогу партыі—на кулацтва, якое сабатавала нарыхтоўкі,— гэты прыклад натхніў не аднаго паэта і пісьменніка на набліжэнне сваёй творчасці да актуальных задач сучаснасці. Прыклад Галавача, які першы даў паказ класавай барацьбы ў працэсе калектывізацыі—даў арыентыроўку многім пісьменнікам, якія адабражалі потым складанейшыя пераплёты класавых узаемаадносін у нашай вёсцы. Прыклады перахода на ўсесаюзную тэматыку далі комуністы-пісьменнікі—Лынькоў, Харык.

Беглы пералік вышаўшых за гэтыя два гады *вялікіх твораў* („Бацькаўшчына“, „Вязьмо“, „Язэп Крушынскі“, „На чырвоных лядах“) і тое, што знае наша совецкая пісьменніцкая грамадскасць аб напісаных, хоць і не друкованых творах („Канец дружбы“ Крапівы і „Сімфонія гневу“ Шашалевіча, „Маці“ Гурскага)—вельмі пуката паказвае, што наша літаратура за гэтыя два гады стала

больш „проблемнай“, а гэта ёсць на многа вышэйшая ступень, чым тая, на якой яна была раней. Літаратура ўжо падняла такія праблемы, як „бацькаўшчына“, „уласнасць капіталістычная“ і „ўласнасць соцыялістычная“, праблему нацыі ў класавым яе разуменні, праблему станаўлення на пазіцыі пролетарыята сапраўднага мастака за мяжой, калі ён лоб-у-лоб стыкаецца з фашысцкай сапраўднасцю ў буржуазным свеце, праблему інтэрнацыянальнай сувязі працоўных і еднасці іх інтарэсаў у барацьбе за дыктатуру пролетарыята, праблему кіраўніцтва з боку рабочага класа сялянскімі масамі ў падрыхтоўцы Кастрычніка (Лынькоў—„На Чырвоных лядах“), праблему перавыхавання селяніна-калгасніка і г.д. і г.д. Паднятыя праблемы развязваюцца правільна і, як правіла, цікава. Возьмем для прыклада Лынькова „На Чырвоных лядах“. З поўным веданнем нашай вёскі—глыбока і ўсебакова разгортвае пісьменнік паказ дакастрычніцкай вёскі, усіх класавых праслоек яе, паказ класавых супярэчнасцяй у вёсцы. Усё гэта робіцца, у абсалютнай большасці, у яскравых, акрэсленых вобразах, якія ўвасабляюць у сабе тое тыповае, што давала гэтая класавая праслойка. Пісьменнік выводзіць розныя тыпы мястэчка, праўдзіва і поўна паказваючы класавае расслаенне яўрэяў—жыхароў мястэчка, класавую еднасць інтарэсаў працоўных розных нацыянальнасцяй і класавую спетасць буржуазіі і кулакоў таксама ўсіх нацыянальнасцяй. Мову, глыбока насычаную фольклорам, пісьменнік скарыстаў таксама, як адзін з сродкаў паказа класавага твара сваіх герояў. Гутарка перасыпана здаровым юмарам, які яшчэ больш падкрэслівае „ідыотызм вясковага жыцця“. Павольна (некалькі занадта павольна), але няўхільна пісьменнік прыводзіць чытача да вывода, што пануючыя класы старой Расіі ўжо не маглі кіраваць па-старому, а народныя нізы ўжо не хацелі жыць па-старому. Прычым гэты вывад робіцца не разважаннямі пісьменніка, а няўхільным ходам разгорнутых ім падзей. Пісьменнік, вывеўшы вобраз рабочага-большэвіка Івана Іванавіча, як „бродило“, якое арганізоўвала нездавальненне сялянскіх мас і накіроўвала ў патрэбнае для рэволюцыі рэчышча—правільна, па-партыйнаму паказаў кіраўніцтва рабочага класа сялянствам, адмятаючы мастацкім вобразам нацдэмаўскія канцэпцыі аб рэволюцыйнай, быццам-бы, ролі розных эсэраўскіх і нацыяналістычных партый і плыняў. Цікава мімаходам адзначыць вельмі трапны прыём разгрома рэлігійных забабонаў, папоўскай хлусні, які ўжывае Лынькоў. У словы малітвы, ці ў стылізаваныя ў царкоўным, сектанскім духу выказванні ён уключае такія заўвагі аб „мірскіх“ клопатах селяніна (першы папаўшыся прыклад: думкі аб „дзяцёночку пузаценькім“ перад іконай), або такія учынкі рэлігійных ханжэй (накшталт гісторыі з пакражай калёс сектантамі ў прыехаўшага павучыцца „праўдзе хрыстовай“ шукальніка праўды)—што ўвесь рэлігійны хлам ўзрываецца знутры выбухам пад вясёлы знішчаючы смех чытача.

Не гледзячы на некаторыя недахопы твора (тэма ўзята больш у шырыню, чым у глыбіню, павестававацельная напеўнасць мовы аўтара парой „залівае“ і мову яго персанажаў, адсутнасць паказа нацыянальнага гнета, недастатковая акрэсленасць шмат каго з герояў)—раман „На чырвоных лядах“ ужо з першай кніжкі стаіць на ўзроўні самых лепшых літаратурных твораў беларускай совецкай прозы.

Я не буду спыняцца на правільнай і глыбокай распрацоўцы праблемы „бацькаўшчыны“ К. Чорным: аб ёй шмат пісалі ў нашым друку. Я толькі падкрэслю, што сваім раманам К. Чорны, адабразіўшы разуменне „бацькаўшчыны“, даў бой нацдэмаўскаму вобразу „бацькаўшчыны“—„маці Беларусі“, які старанна культываваўся буржуазнымі нацыяналістамі, які пад іх уплывам не раз вырываўся ў творчасці рада нават сучасных совецкіх пісьменнікаў. Трэба вітаць большую распрацоўку гэтай тэмы ў новай п'есе Ільі Гурскага, які спрабуе не без поспеха раскрыць да канца ў мастацкіх вобразах ленінскае вызначэнне, што ў кожнай нацыі ёсць дзве нацыі. Таксама не буду спыняцца (хоць яна заслугоўвае вялікай увагі) на п'есе тав. Крапівы „Канец дружбы“, дзе тав. Крапіва, першы раз спрабуючы свае сілы ў яшчэ больш новым для яго жанры (паміж іншым гэта таксама паказчык роста пісьменніка), даў правільнае партыйнае разуменне дружбы і з поспехам паспрабаваў даць станоўчы вобраз комуніста. Адно зусім ясна—мы за гэтыя гады дабіліся разумення з боку совецкіх пісьменнікаў Беларусі сталінскага лозунга „соцыялістычнага рэалізма“, якім правадыр партыі і пролетарыята ўказаў літаратуры адзіна верны шлях росту і перамог. Мы дабіліся разумення, што толькі той твор будзе сапраўды мастацкім, толькі той твор увойдзе як карысны ў скарбніцу саюзнай і сусветнай літаратуры, які ўздыме і правільна па-партыйнаму развяжа вялікія праблемы нашай сучаснасці, які будзе гостра накіраваны супраць класавых ворагаў, які будзе сцвярджаць мастацкім вобразам большэвіцкую праўду нашай гераічнай эпохі і нашай барацьбы. Гэта адзіная вялікая дарога ў сусветную літаратуру, і на гэту дарогу вышаў атрад совецкай літаратуры Беларусі.

Аб росце совецкай беларускай літаратуры сведчыць і далейшы адыход яе ад расплывчатых вобразаў, ад агітацыйных „міжпланетных“ разваг пра сілу рэволюцыі. Замест гэтага, мы бачым сілу рэволюцыі ў канкрэтных новых вобразах: Евеля Цывіна (Чорны), Івана Іванавіча (Лынькоў), Панаса (Галавач), Янука (Александровіч), групы комсомольцаў-падпольшчыкаў (Броўка); бачым і класавага ворага, яго агентуру: кулак у „Бацькаўшчыне“, два тыпа кулака—„земляны“ і „прэдпрынімацельскі“—у Лынькова, „Пацяроб“ і Карызна—левыя загібшчыкі з права-апартуністычнай практыкай у Зарэцкага, тыпы нацдэмаў у Бядулі, у Гурскага і інш.

Гэтым чоткім паказам тыповых людзей у тыповых абставінах мы таксама дэманструем прасоўванне наперад па шляху ства-

рэння вялікай літаратуры, дастойнай нашай эпохі. Гэта дае нам права спадзявацца, што кожны новы твор узбагаціць нашу літаратуру новым адчаканеным тыпам, які ўвойдзе як сінонім у мову нашага рабочага, калгасніка так, як уваходзілі вобразы сусветнай і рускай класікі ў мову тагочаснай культурнай грамады.

* * *

Было-б аднак зусім няправільным і шкодным бачыць толькі станоўчае, што маецца ў нашай совецкай літаратуры, і не бачыць прарываў і недахопаў. Гэта было-б вялікай дэзарыентыроўкай пісьменніка і грамадскасці і прынесла-б толькі шкоду. Так, мы зрабілі многа. Мы разбілі сцвярджэнне нацыяналдэмакратычных „культурных дзеячоў“, што нібыта без іх справа культурнага росту на Беларусі абрачана на заняпад. Мы давялі перад усімі працоўнымі адваротнае. Мы даказалі, што роля нацдэмаўскіх дзеячоў на культурным фронце была толькі шкоднай і шкодніцкай, што ўсе іх намаганні зводзіліся выключна да тармажэння росту культуры, да таго, каб павярнуць развіццё культуры назад за сотні год ад нашай сучаснасці, каб стварыць сваю буржуазную нацыяналістычную культуру турмы, бізуна і цемры працоўных мас. Мы даказалі, што ўся культурная работа нацдэмаўскіх слупоў была архірэакцыйнай, і шчодра аплачвалася штабамі інтэрвентаў як былых, так і тых што яшчэ мараць аб будучай інтэрвенцыі, а гэта значыць—аб моры крыві рабочых і сялян Беларусі, аб лесе шыбеніц, аб грохаце расстрэлаў, аб рэстаўрацыі капіталізма. Мы даказалі, што толькі ў барацьбе з нацыяналізмам, з нацыяналдэмакратызмам, які стаў галоўнай небяспекай на даным этапе ў БССР—больш шпарка і з большымі поспехамі будзе расці культура (а ў тым ліку і літаратура) нацыянальная па форме і пролетарская, інтэрнацыянальная, социялістычная па зместу. Мы даказалі гэта сваім ростам за гэтыя гады. Аднак, пры ўсім сваім росце і дасягненнях застаецца правільным сцвярджэнне, што мы адстаем ад велізарнейшага гаспадарчага і культурнага росту нашай краіны. Нават па тэматыцы—мы не адказваем поўнасцю на прад'яўленыя нам запатрабаванні. Мы ўзарвалі вясковую абмежаванасць, аднак, у нас вельмі мала твораў на тэмы нашай індустрыі, вельмі мала твораў аб нашых буйнейшых новабудовах (прыгадваюцца толькі „Напор“ Александровіча, „Шоўк“ Даўгапольскага, „Новы горад“ Гурскага, „Каландры“ Броўкі). Нават у вясковай тэматыцы мы не адабразілі работу МТС, палітаддзела МТС. Толькі ў апошні час дзве п'есы—Глазырына і Ільінскага (першая больш поўна і больш глыбока), ды адзін верш Хведаровіча далі некаторы паказ грандыёзнейшай работы палітаддзела па перабудове вёскі і замацаванню калгаснага ладу. Мы далі шмат вобразаў, аднак сярод іх амаль няма глыбокага, поўнакроўнага вобраза рабочага-ўдарніка—цэнтральнай фігуры нашага будаўніцтва. Мы слаба вывучаем гераічную

барацьбу ўдарніка за аўладанне тэхнікай, мы слаба звязаны з рабочымі не толькі на вытворчасці, але і ў быту і на грамадскай рабоце. Гэты прабел у літаратуры павінен быць папоўнен ва што-б то ні стала. Індустрыялізацыя Совецкай Беларусі павінна поўнацэнна загучэць у вершах нашых паэтаў, павінна быць поўнакроўна адлюстравана ў лепшых творах нашых празаікаў, павінна быць маляўніча паказана са сцэны нашых тэатраў.

Таксама слаба, пры ўсіх нашых поспехах, у нас паказаны станоўчы тып чалавека-будаўніка социялізма, у тым ліку перадавіка гэтай будаўнічай фалангі, члена комуністычнай ленінскай партыі. Гэты рахунак мы ў першую чаргу прад'яўляем пролетарскім пісьменнікам комуністам, якім лягчэй адабразіць у мастацкім вобразе лепшых сыноў сваей партыі. Удалыя спробы тав. Чорнага і тав. Крапівы павінны стаць рухаючым фактарам для ўсіх пісьменнікаў у гэтай справе. Залог поспеха не толькі ў назіранні і асмысліванні работы партыі, але ў самай рабоце бок-а-бок, плячо-ў-плячо з лепшымі прадстаўнікамі партыі на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва, на ўсіх участках класавай барацьбы пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, якая з'яўляецца згусткам ўсяго лепшага, што ёсць у рабочым класе, перадавым класе нашай сучаснасці.

Вельмі слаба ў нас з абароннай літаратурай, калі браць яе нават у шырокім сэнсе: мастацкія нарысы і апавяданні Лынькова, Броўкі і Глебкі, вершы Броўкі, паэма Чарота „Сын партызана", „Дрыгва" Якуба Коласа. Для нас пісьменнікаў прымежнай паласы, для нас, якія добра ведаюць інтэрвенціянісцкую дзейнасць беларускіх нацдэмаў, добра ведаючы, што па любому поваду і без повада яны ўзмацняюць шалёную падрыхтоўку напада на Совецкі саюз, вядуць індэалагічную і проста дыверсійную работу, каб адарваць Совецкую Беларусь ад саюза, для нас, якія разам з усёй совецкай грамадскасцю адказваюць за абароназдольнасць краіны—фарпоста саюза на мяжы з фашысцкімі і фашызуючыміся дзяржавамі капітала—для нас такі прабел, такі прарыў удвайне недапушчальны. Мы павінны паказаць нашу чырвоную армію—гордасць і красу працоўных не толькі краіны Советаў, але і ўсяго света. Узброены пролетарыят на варце першай у свеце краіны, якая будуе социялізм, магутнасць і рост тэхнічнага ўзбраення Чырвонай арміі, вялікая любоў да яе з боку рабоча-сялянскіх мас, вялікая выхаваўчая работа Чырвонай арміі—лепшай палітычнай, агульна-адукацыйнай, тэхнічнай і арганізатарскай школы,—усё гэта тэмы, якія павінны быць асвоены ў першую чаргу лепшымі сіламі літаратурнага фронта.

Некалькі слоў аб дзіцячай літаратуры.

Трэба адкрыта сказаць, што і на гэтым участку мы далёка адставалі ад запатрабаванняў і, не глядзячы на праведзеную работу па актывізацыі пісьменнікаў у гэтай галіне (нарада пры Аргкамітэце, пры НКА, соцрахункі школ, бабруйская рабочая канферэнцыя па комуністычнаму выхаванню дзяцей і г. д.)—не маем

мы яшчэ колькі-небудзь заметнага зруху. Праўда, тав. Колас напісаў вершаваную кніжку для дзяцей „Прыгоды Міхася“, тав. Баранавых напісаў аповесць „Пастка“, тав Харык канчае паэму для дзяцей аб Беламорбудзе, тав. Александровіч піша паэму „Грышка-пагранічнік“, пішуць новыя кнігі Якімовіч, Маур, адны з лепшых пісьменнікаў для дзяцей, пішуць тав. Дарожны Шведзік, Ліўшыц і інш. Але тэмпы тых, якія „яшчэ пішуць“, занадта павольныя, а пералік гэтых імён паказвае, як мала пісьменнікаў уключылася ў такую важную сур'ёзную справу. Між тым масавы наплыў халтуршчыны і нават проста шкоднай ідэалагічна літаратуры для дзяцей—паказвае наколькі небяспечны гэты ўчастак і як ласа паглядае (ды не толькі паглядае) на яго класавы вораг. Барацьба за новае пакаленне патрабуе ад нас большай актывізацыі ў гэтай справе—і тут соцыялістычны рахунак трэба давесьці да кожнага пісьменніка.

* * *

Наш артыкул аб беларускай совецкай літаратуры быў-бы зусім не поўны, калі-б мы не закранулі яшчэ двух вялікіх галін літаратуры: драматургіі і літаратуры нацменшасцяй, якія насяляюць БССР.

Драматургія ў гэтым годзе была сапраўды імянінніцай. Пачынаючы ад драматургічнай нарады пры Аргкамітэце і канчаючы тэатральнай нарадай НКА і конкурсам—разгаворы аб драматургіі не сходзілі са старонак газет, з афіцыйных і неафіцыйных нарад. Наперакор агульна-прынятаму правілу, што там, дзе многа разгавораў—там мала толку—справа драматургіі значна пасунулася наперад. Канец года прынёс нам каля 50 п'ес, якія паданы на конкурс СНК БССР. Сярод гэтых п'ес— п'есы напісаныя аўтарамі, якія ўпяршыню ўступілі на літаратурную арэну. Мы ўжо ўпаміналі п'есу тав. Глазырына аб палітаддзеле на матэрыяле Прыуральскай паласы. Тав. Глазырын, правільна праводзячы аналогію паміж барацьбой Чырвонай арміі на франтах грамадзянскай вайны, паміж барацьбой лепшых сіл партыі з узброенай контррэволюцыяй і паміж страстнасцю нашай сучаснай барацьбы з унутранай контррэволюцыяй, са шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы, з рэшткамі недабітага кулацтва на фронце калектывізацыі—даў вобраз начальніка палітаддзела, якога партыя паслала для таго, каб зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. П'еса тав. Глазырына ўдалася і паставіла яго ў рады совецкіх пісьменнікаў Беларусі, добра валодаючых матэрыялам, вобразамі і мовай. Цікавасць п'есы, вытрыманасць фабулы, багацтва, і рознастайнасць вобразаў, рэалістычнае адлюстраванне нашай сучаснасці, вялікая актуальнасць тэматыкі—у многа разоў перакрываюць тыя недахопы, якія маюцца ў п'есе (перагрузка матэрыялам, канцэнтрацыя развязкі не к канцу п'есы, а к канцу другога акта, некалькі лішніх

вобразаў у п'есе, некаторая занадта старанная пагоня за бытавымі сцэнамі, якія,—праўда,—ярчэй падкрэсліваюць асноўную тэму, асноўныя вобразы). Заслугоўвае ўвагі і п'еса „Нашы козыры“ маладога драматурга (пастолькі маладога, што гэта здаецца яго першая п'еса) тав. Траецкага. Стрыжань п'есы—роля працадня ў калгасе, уплыў яго на бытавы бок вёскі. Праўда тав. Траецкаму менш удалося акрэсліць свае вобразы, менш удалося зрабіць фабулу цікавай, аднак п'еса ярка проціпастаўлена ўлюбёнай тэме нацдэмаўскіх пісак „для вёскі“—жаніцьба на дочках кулакоў і інш. У п'есе шмат здаровага юмару, жыццярадаснасці, і, пры пэўнай працы над п'есай, яна будзе нядрэннай п'есай для вясковых нашых самадзейных гурткоў.

Заслугоўвае ўвагі той факт, што гэтыя два гады сцерлі грані паміж драматургам і пісьменнікам другіх жанраў літаратуры. Мы ўжо ўпаміналі аб п'есах „Бацькаўшчына“, „Канец дружбы“, „Сымон Карызна“, напісаных выдатнымі пісьменнікамі, якія да гэтага часу не прымалі ўдзелу ў драматургіі. Іх дэбют у драматургіі быў вельмі ўдалы і гэта павінна падштурхнуць і астатніх нашых пісьменнікаў паследаваць іх прыкладу—у тым ліку Лынькова, Галавача, Мурашку і інш. Аднак, іх дэбют паказаў і тое, што самы лепшы шлях удзельнічаць у драматургіі пісьменнікам-празаікам—гэта не шлях пераробкі ў п'есу сваіх напісаных ужо раманаў, аповесцяй, а шлях напісання новай самастойнай п'есы. Дадатковыя цяжкасці, якія стварае „пераробка“ (яна звязвае пісьменніка зместам, аб'ёмам матэрыяла, вобразамі, развязкай канфліктаў), і якімі яна абцяжарвае п'есу—гавораць за тое, што—поспехі на другім шляху. Само сабой разумеецца, што мы цалкам не выкрэсліваем „пераробку“. Вопыт і „Бацькаўшчыны“ і шматлікіх рускіх п'ес паказвае не толькі магчымасць, але і пажаданасць і такога ўзбагачэння нашай драматургіі.

Як і ва ўсёй літаратуры, так і ў нашай драматургіі—вядучай часткі літаратуры—мы маем безумоўны рост перш за ўсё па лініі ідэйнага зместу і мастацкай якасці. Аб праблемах—глыбокіх і актуальных,—якія паднімае драматургія (а зараз яна паднімае іх—як правіла, а не як выключэнне) мы гаварылі вышэй.

Гаварылі мы і аб новых вобразах, якія дала драматургія і якія не забудуцца ніколі. Дастаткова напомніць вобраз Леапольда Гушкі з „Бацькаўшчыны“, вобразы Мотынскага і Каршэйчыка з „Канец дружбы“, вобраз кампазітара з „Сімфонія гневу“.

І ўсё-ж мы павінны сказаць, што і ў галіне драматургіі мы толькі сталі і прайшлі першыя крокі па шляху, які вядзе да вялікіх поспехаў. Уперадзе вялікая праца, упартая барацьба за якасць, упартая барацьба за драматургічныя творы, вартыя нашай эпохі. Гэтых поспехаў мы дасягнем толькі тады, калі будзем не аслабляючы, а ўсё узмацняючы, весці барацьбу з класавым ворагам, у тым ліку буржуазнымі нацыяналістамі на тэатральным фронце. Нам добра вядома, якую шкоду развіццю тэатральнага мастацтва зрабілі нацдэмы, калі яны панавалі ў НКА, у Галоўмастацтве,

у тэатрах. Вядома, як яны прапагандавалі свае контррэвалюцыйныя ідэі, нават слаба маскуючы іх сімболікай, рамантыкай, сярэдня-вяковай і казачнай тэматыкай, як яны фармавалі праз тэатр патрэбную ім ідэалогію ў гледача і ў актора. Вядома таксама, якім шалёным супраціўленнем спаткалі яны першыя пралетарскія, ідэалагічна нашы, накіраваныя супроць ідэалогіі і практыкі нацдэмаўшчыны—рэчы: „Гуту" тав. Кобеца, „Качагары" тав. Гурскага. З таго часу прайшоў досыць вялікі адрэзак часу. За такі час мы разбілі нацдэмакратызм, ачысцілі тэатр і драматургію ад яго агентуры, разаблачылі метады работы нацдэмаў, ускрылі створаныя імі п'есы і вобразы. Аднак небяспека рэцыдываў нацыяналістычных вылазак і на фронце тэатра не знішчана, як не знішчана магчымасць выпадкаў уплыву ўсялякіх варожых нам элементаў. Фармалістычная ціхая сапа, сабатаж лепшых найбольш вытрыманых п'ес, нацыяналістычныя моманты ў афармленні, у музыцы і, нават, спроба працягнуць нацыяналістычную кантрабанду ў драматургічным матэрыяле—прымушаюць нас яшчэ і яшчэ раз напамінаць аб класавай пільнасці. Тое, што ў час драматургічнай і тэатральнай нарады не было вострай большэвіцкай самакрытыкі з боку самых тэатральных калектываў—ярчэй за ўсё паказвае, што ў гэтай галіне нам патрэбна вялікая яшчэ работа і з драматургамі і з работнікамі тэатра.

Аб нашай яўрэйскай совецкай літаратуры. Працэсы перабудовы, якія адбываюцца ў беларускай літаратуры, уласцівы поўнасцю і яўрэйскай літаратуры БССР. Мы гэта бачым на прыкладах тав. Аксельрода, Кульбака і інш., як аб гэтым неаднаразова гаварылася совецкай крытыкай яўрэйскай літаратуры (т. Бранштэйн і інш.).

Да апошняга часу творчасць тав. Аксельрода насіла на сабе адзнакі дробна-буржуазнай разгубленасці, есененшчыны. Пад уздзейнічаннем комуністычнай крытыкі тав. Аксельрод стаў на шлях творчай перабудовы. Пераход ад „плачу" на тых, якія „не могуць светла глядзець на свет" да тэматыкі Чырвонай арміі, узмацненне эпічна-рэалістычнага элемента ў сваёй творчасці, узмацненне адчування адказнасці перад краінай—вось асноўныя паказчыкі гэтай перабудовы.

На жаль, гэтая перабудова праходзіць яшчэ не без буйных зрываў у бок буржуазнага індывідуалізма і літаратуршчыны (слабая палітычная завостранасць).

Тав. Кульбак—відны яўрэйскі пісьменнік БССР. Яго мінулая творчасць, якая прахадзіла па-за межамі Саюза, была насычана нацыянал-містыцызмам і рэакцыйнай ідэяй пасівізма. Яго вершы ішлі пад знакам ідэалізацыі патрыархальных адносін (вершы „Райсэн") і дробна-буржуазнага радыкалізма.

У БССР ён напісаў кнігу „Зельмяняне", якая асвятляла ў юмарыстычна-лірычным свеце адыходзячы паўпатрыархальны быт. У народніцкім і быалагічным плане смакавання „здаровага

народнага нутра“ паказаны кустары і рабочыя, супроцьпастаўленыя патрыархальнаму быту.

Аднак ёсць рад сцэн, якія падкрэсліваюць пераробку дробна-буржуазных яўрэйскіх мас (кустароў) ва ўмовах совецкай рэчаіснасці.

Гуманна-юмарыстычныя адносіны Кульбака да адыходзячага паўпатрыархальнага яўрэйскага быта далі мажлівасць нацыяналфашысцкаму яўрэйскаму выдавецтву ў Польшчы перадрукаваць гэту кнігу, супроць чаго тав. Кульбак пратэставаў у друку. Апошні твор Кульбака, паэма „Чарльд Гароль з Дзісны“ накіравана супроць яўрэйскай нацыялістычнай дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая ўцякла ў Эўропу да эўрапейскай „цывілізацыі“.

На матэрыяле Германіі і яе культуры, абараняемай юнкерамі, Кульбак дае яскравыя сатырычныя вобразы загнівання эўрапейскай буржуазнай культуры.

Юмарыстычна, а часам сатырычна, падаюцца са значнай мастацкай сілай вобразы „левых“ эстэтаў, якія імкнуцца адыграць ролю „апазіцыі“ супроць „мяшчанскай культуры буржуа“.

Аднак у паэме мала і імпрэсіяністкі павярхоўна паказан рабочы клас, яго культура ў барацьбе супроць культуры загніваючай буржуазіі. Далей звычайнай радыкальнай крытыкі „разложения Европы“ Кульбак амаль што не ідзе. Няма паказа дылемы, што стаіць супроць „эстэтычнай апазіцыі“ „левых“ мастакоў: пад прыкрыццём „левых фраз“ у абдымкі фашызма, альбо з пролетарыятам супроць фашызма. Але што горш за ўсе, дык гэта тое, што там няма паказа фашызма ў Германіі, як быццам яго і не было.

Кульбаку патрэбна чым хутчэй павярнуць свой тэматычны стрыжань у бок сапраўдных працэсаў акружаючага яго соцбудаўніцтва. Цяпер Кульбак рыхтуе 2-ую кнігу „Зельмяняне“.

На чале асноўных комуністычных і пролетарскіх кадраў яўрэйскай літаратуры БССР стаіць І. Харык. Ён займае адно з першых месц ва ўсёй яўрэйскай літаратуры СССР, карыстаецца выключнай папулярнасцю сярод рэволюцыйных і комуністычных яўрэйскіх рабочых за граніцай (Злучаныя Штаты Амерыкі, Аргентына, Польшча, Літва, Румынія і г. д.). Амаль усе яго вершы перадрукаваны ў легальных і нелегальных комуністычных выданнях за граніцай. Яго твор „Кайладыке вон“ (Канвеер дзён) прадстаўляе сабою вялікую патэтычную панараму соцыялістычнага будаўніцтва. Крыжаваным агнём пролетарскай патэтыкі, рэволюцыйна-рамантычнай фантастыкі і рэалістычных бытавых, жанравых зарысовак і пейзажаў, саркастычнай пародыяй і сатырай па адрасу буржуазна-нацыяналістычных элементаў Харык б'е па яўрэйскаму і беларускаму нацдэмакратызму, па старому быту, па раду аўтарытэтаў яўрэйскай буржуазна-нацыяналістычнай літаратуры (супроць Аша, Гейнгорна і г. д.). Гэты твор важны тым, што, пераходзячы да тэматыкі соцбудаўніцтва, Харык не абмяжоўваецца лозунгамі, а захоўвае сваю арганічную сувязь

з соцыялістычнай рэчаіснасцю ў яе нацыянальнай канкрэтнасці (мова, новы фольклор, пейзаж, жанравыя сцэны і г. д.).

Адначасна Харык у апошнія гады вельмі актыўны, як лірык, у радзе вершаў. Усе гэтыя вершы (вершы аб падпольшчыне, аб надыходзячым бясклясавым грамадстве, аб падзеях у Германіі. аб нашай авіяцыі), патэтычныя і ў той жа час насычаны лірычнай цяплынёй, вобразнасцю. У апошні час Харык з поспехам працуе над вялікай рэччу, прысвячанай праблеме нацыяналізма і інтэрнацыяналізма, і закончыў паэму аб Беламорбудзе.

У выніку ўключэння ў мастацкі паказ чысткі партыі Харык заканчвае вялікі лірыка-эпічны твор—паказ большэвіка.

З радоў паэтычнага маладняка вылучаецца група паэтаў: Камянецкі, Тэйф і інш.

Камянецкі нядаўна выдаў кнігу вершаў. Асноўная тэматыка яго вершаў—героіка Чырвонай арміі, соцбудаўніцтва і совецкі быт. У сучасны момант працуе над вялікай паэмай аб 1917 г. (урыўкі друкаваліся). Рыхтуецца яго кніга вершаў у беларускім перакладзе.

Камянецкі дае выключна даступны па сваёй прастаце фольклорна насычаны верш. Баладна-эпічная трактоўка перакрыжоўваецца з лірычнай цяплынёй. Дасканала „абыгрывае" бытавыя дэталі, паказваючы на іх змену пад уплывам соцыяльна-эканамічных фармацый. З апошніх яго рэчаў звярнула на сябе асаблівую ўвагу паэма аб будаўніках, дадзеная ў героіка-баладным плане; твор на пагранічную тэму, дадзены ў форме сатырычнай байкі; вершы аб памершым браце—адзначаныя новымі лірычнымі адносінамі к тэме аб смерці блізкага. Асноўным недахопам Камянецкага трэба лічыць яго „ціхі голас", крэн к інтымнасці і замкнутасці тэмы, недастатковую ідэйна-творчую смеласць для безадкладнага рэагавання на палітычныя падзеі. Недастаткова звязан з практыкай соцбудаўніцтва.

Тэйф выступіў на літаратурную арэну, як комсамольскі рабочы паэт. З 1926 па 1929-30 г. блукаў ідэйна і творча. Знаходзіўся пад моцным уплывам есенінскай лірыкі. Доўгі час маўчаў. Выбыў з комсомола. У 1930 г. з'явіўся ў літаратуру радам арыгінальных у яўрэйскай паэзіі паэтычных рэчаў („Віоланчэль", „Рамантычная ноч" і інш.). Падкрэслівае свае станоўчыя адносіны да рамантызма. Знаходзіцца пад уплывам Гайне, Гофмана і рада іншых буржуазных рамантыкаў. Адначасова моцна насычае свой верш соцыяльнай патэтыкай. Ад Гайне—яго вострасатырычны вобраз „паляўнічага за соцыяльнымі жывёлам", ад Гофмана—рамантычная фантастыка, ідэалістычнае акцэнтаванне ролі мастака ў рэчаіснасці.

Аднак, яго сатыра часам зніжаецца да ўзроўня фельетона, яго рамантызм зводзіцца нярэдка да фармалістычнага манернічання і алегарызма, яго патэтыка—у радзе месц—да голай рыторыкі. Грамадскае значэнне яго сатыры ў значнай меры памяншаецца яго аднастайным і вузкім выбарам аб'ектаў сатыры

(халтуршчык—прыспасабляючыся яўрэйскі „совецкі“ мешчанін). Вышла яго вялікая кніга вершаў.

Патрэбна ўказаць тав. Тэйфу на ідэалагічны зрыў у яго вершы, дзе ён запазычыў у беларускіх нацдэмаў вобраз Каліноўскага ў якасці як-бы рэволюцыянера.

З рабочых ударнікаў вылучаецца сваімі здольнасцямі паэт Рэйзін, які знаходзіцца пакуль пад вялікім уплывам Харыка.

Значна горш абстаіць справа з яўрэйскай совецкай прозай у БССР. У гэтай галіне няма кваліфікаваных работнікаў. Проза Даўгапольскага стаіць на ўзроўні натуралістычных бытавых апісанняў. Даўгапольскі выступае больш трапна ў жанры сатырычнага вершаванага фельетона.

Праяўляе здольнасці малады празаік Э. Каган. У апошні час ён даў рад нарысаў аб Магнітабудзе, аднак яго творчы размах пакуль вельмі абмежаваны бытавымі юмарэскамі.

Празаік з рабочых ударнікаў Кацовіч у апошні час выпусціў кніжку юмарэсак. Актыўна працуюць і растуць пісьменнікі Ліфшыц, Юдэльсон, Платнер, Швэдзік і інш.

Трэба таксама з усёй сілай падкрэсліць, што класавая барацьба на фронце літаратуры і ў яўрэйскай літаратуры мае свой моцны выраз.

Дагэтуль вельмі мала зроблена для таго, каб падняць перад яўрэйскай совецкай літаратурай на належную палітычную вышыню рад праблем ленінскай нацыянальнай палітыкі.

А іменна цяпер у радзе месц заварушыліся яўрэйскія нацыяналісты, якія выступаюць з паклёпам на нацыянальную палітыку ленінскай партыі пад шумок „гора-інтэрнацыяналісцкіх“ гутарак аб патуханні „яўработы“, аб „дэнацыяналізацыі“ і г. д. (выступленні некаторых яўрэйскіх пісьменнікаў на нарадзе яўрэйскай камісіі пры Аргкамітэце СССР).

Скажаючы свядома ці несвядома партыйную сутнасць ленінска-сталінскага вучэння аб росквіце нацыянальных культур, які (росквіт) вядзе ў канечным выніку да адзінай сусветнай комуністычнай культуры, гэтыя пісьменнікі пускаюць у ход стары бундаўскі жупел асіміляцыі, дыскрэдытуючы ўсякі крок, які сцірае грань замкнутасці і нацыянальнай абмежаванасці яўрэйскай літаратуры, адначасова не даацэньваючы росквіта яўрэйскай нацыянальнай культуры. Толькі цяпер зроблены першыя крокі, каб у сувязі з пастановай СНК БССР аб новым беларускім правапісе, падняць на палітычную вышыню пытанні барацьбы супроць нацдэмакратычнай засмечанасці яўрэйскай літаратурнай мовы. Неабходнасць жорсткай барацьбы супроць старых яўрэйскіх „ідзішысцкіх“ (нацдэмаўскіх) традыцый „чыстаты“ яўрэйскай мовы стала ясна для асноўных лепшых кадраў яўрэйскай совецкай літаратуры.

Гэтыя кадры ўжо зразумелі, што „традыцыя“ „облагораживания“ яўрэйскай літаратурнай мовы нямецкімі і старадаўня-яўрэйскімі словамі, пры баязні новых рускіх, беларускіх і ўкраінскіх

слоў, унесеных жыццём ў жывую яўрэйскую мову працоўных мас, з'яўляецца формай наступлення яўрэйскага нацыяналізма.

Нямала таксама трэба зрабіць для канчатковага выкарчоўвання рэштак яўрэйскай нацыянальнай абмежаванасці ў пісьменніцкім асяроддзі, хоць брацкая сувязь паміж яўрэйскімі і беларускімі совецкімі пісьменнікамі мацнее з кожным днём (тут трэба ўказаць, што яўрэйскія пісьменнікі БССР вельмі моцна ўзяліся за сістэматычнае азнаямленне яўрэйскіх працоўных мас з беларускай совецкай літаратурай шляхам перакладаў. Значная заслуга ў гэтай справе т.т. Харыка, Аксельрода, Ліўшыца і інш.)

Значна меншымі дасягненнямі мы можам пахваліцца ў галіне польскай літаратуры. Група маладых пісьменнікаў: Кавальскі, Раманоўская, Гараўскі, Жарскі і інш.—выпусціла свой зборнік, прысвечаны з'езду калгаснікаў, барацьбе за большэвіцкія калгасы і некалькі кніжок. Мы можам аднак адзначыць, што і польская совецкая літаратура БССР зрабіла крок наперад у параўнанні з мінулым годам; тэматыка літаратуры стала больш сучаснай, больш палітычна завостранай і большай мастацкай вышыні (вершы Раманоўскай аб калгасным ураджаі, вершы Кавальскага „Чалавек з Альтоны" аб смерці нямецкага комуніста, „Шымон Свісь"—аб парцізанскім руху, нарысы Жарскага і Гараўскага і інш.) Наступаючы год павінен стаць годам падцягвання секцыі польскіх пісьменнікаў да агульнага ўзроўня беларускай совецкай літаратуры.

Рускія совецкія пісьменнікі БССР далі совецкай літаратуры п'есы „Межбурье", „Контратака" (Курдзін), якія абыйшлі амаль усе тэатры Совецкіх Рэспублік (як і п'еса тав. Кобеца „Гута"). Зараз вельмі ўдалую п'есу аб начальніку Палітаддзела напісаў тав. Глазырын.—Рад актуальных і актыўна-накіраваных супроць класавага ворага чэкісцкіх вершаў даў паэт Шапавалаў. Апрач гэтага Шапавалаў у апошні час канчае аповесць з жыцця пагранічнікаў „Пагранічнікі". Па лініі рускай літаратуры БССР мы маем таксама вялікі прыток маладых пісьменнікаў—работнікаў Чырвонай арміі і літгурткоўцаў-чырвонаармейцаў. Не гледзячы на цякучасць іх складу—у сувязі з дэмабілізацыяй сваіх гадоў—маладыя пісьменнікі далі багаты матар'ял аб жыцці, быце і вучобе Чырвонай арміі.

Трэба сказаць, што справа з маладымі пісьменнікамі ў нас пастаўлена дрэнна, калі гаварыць не толькі аб пачынаючых літгурткоўцах, але нават і выяўленых за гэтыя два гады таварышах, якія пісалі і раней, але асабліва актывізаваліся за час пасля пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 года (Ушакоў, Шынклер, Бужан, Э. Самуйлёнак). Дрэнна таму, што яны знаходзяцца часцяком па-за ўвагай нашай грамадскасці, працуюць без актыўнай дапамогі з боку Аргкамітэта. Праўда, тав. Самуйлёнак значна творча вырас і ў гэтым годзе двумя аповесцямі („Паляўнічае шчасце" і „Тэорыя Каленбрун"), паказаў, што ён

становіцца на ўзровень з больш старым пакаленнем маладых пісьменнікаў—т.т. Мікулічам, Знаёмым, а некаторых і абганяе. Праўда, і тав. Шынклер значна творча падняўся ў сваёй новай аповесці „Запіскі інструктара Томана“ пра конкурс на транспарце, у якой ён некалькі суха, але поўна і праўдзіва паказвае велізарны ўздым працоўнага энтузіязма ў працэсе ажыццяўлення рабочымі чыгуначнікамі пастановы ЦК ВКП(б) аб транспарце, дае трапныя замалёўкі работы ударнікаў. (Трэба сказаць, што і гэта тэма і вобразы не распрацаваны яшчэ у беларускай совецкай літаратуры, а таму работа тав. Шынклера з'яўляецца вельмі карыснай). Слабасць работы з маладымі пісьменнікамі мае сваім рэзультатам тое, што яны з вялікай цяжкасцю перамагаюць труднасці росту па лініі ідэёвай насычанасці свайго твора, па лініі ўдасканалення мовы, па лініі адбора матар'ялаў і кампазіцый твора. Больш старэйшае пакаленне маладых пісьменнікаў (Мікуліч, Куляшоў, Знаёмы і інш.) паказалі значную творчую актывізацыю і рост, як пісьменнікаў. Тав. Мікуліч за гэтыя два гады напісаў аповесці—„Наша сонца“, „Ускраіна“ і першую кніжку рамана „Дужасць“, кніжкі па агульнаму прызнанню вельмі цікавыя, якія спрабуюць адлюстраваць у мастацкай форме баявую работу комсомола на ўсіх франтах нашага соцбудаўніцтва, паказаць жыццё рабочай ускраіны і гераічную работу на новабудоўлі. Асноўная тэма тав. Мікуліча—перавыхаванне чалавека, таму зусім правільна ён імкнецца насыціць свае творы глыбокім псіхалагічным аналізам чалавека. Зрывы ў гэтым разрэзе тлумачацца недастатковым запасам жыццёвага вопыта, а часамі і не зусім усталяваўшыміся поглядамі на нашу рэчаіснасць, бракам марксісцкаленінскага разумення ўсіх складаных пераплётаў класавай барацьбы. Гэта ўласціва і тав. Куляшову, маладому таленавітаму паэту, які напісаў за гэтыя два гады паэму „Аманал“ „Гарбун“, які шчасліва вылучаецца з фалангі маладых паэтаў удумчывай сур'ёзнай работай над сваімі творамі.

Значна слабей і горш становішча з літаратурнымі поспехамі рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру. Неправільная палітыка „захвальвання“ прывяла да зрываў у росце Шаўцова і Бацюшкова, да адсутнасці роста Нортмана, да сур'ёзных памылак у грамадска-палітычным жыцці гэтых таварышоў. Як станоўчы факт, трэба адзначыць выданне некаторымі філіямі—Віцебскай, Магілеўскай (падрыхтавана да друку)—твораў паасобных ударнікаў, выданне альманаха „Ударнікі“, у якім прынялі ўдзел да дваццаці маладых пачынаючых пісьменнікаў, зборніка да комсамольскага юбілея. Наладзіць правільнае поўнае і глыбокае кіраўніцтва творчым і палітычным ростам гэтай групы пісьменнікаў—вось у чым задача на бліжэйшы перыод і Аргкамітэта і рэдакцый нашых выданняў. Гэта задача, як і задача пашырэння масавага літаратурнага руху не толькі на прадпрыемствах, але і ў калгасах, стаіць, як адна з галоўных цэнтральных задач нашай работы.

Нарэшце, аб нашай крытыцы. Да апошняга часу яна адстае ад агульнага росту літаратуры, перабудоўваецца значна цяжэй самой літаратуры, значна павальней выжывае самыя адмоўныя бакі мінулага, нават групоўшчыны. За гэты час мы маем некалькі (але вельмі мала ў параўнанні з нашымі запатрабаваннямі) артыкулаў т. Бэндэ, правільна і востра накіраваных супроць контррэвалюцыйных вылазак нацдэмакратызма, правільна арыентуючых пісьменніцкую арганізацыю ў барацьбе з імі—і ў гэтым, разумеецца, дапамагаючымі і іх творчаму росту. Аднак з боку тав. Бэндэ мы яшчэ не маем канкрэтнай дапамогі пісьменнікам разборам іх сучасных твораў, паказам станоўчых бакоў іх творчасці, якія падлягаюць далейшаму развіццю, паказам на канкрэтных фактах іх зрываў і захаваных небяспек гэтых зрываў. Таксама мала напісана і тав. Кучарам, прычым са значнымі памылкамі (у свой час мы аб гэтым пісалі). Гэтыя памылкі дэзарыентавалі некаторых пісьменнікаў, не гледзячы на станоўчую ў асноўным творчасць крытыка.

Мала напісаў ізноў такі ў параўнанні з нашымі узрослымі запатрабаваннямі да крытыкі і тав. Бранштэйн, хоць ён даў і больш глыбокія ўзоры канкрэтнай дапамогі пісьменніку веданнем спецыфікі літаратуры і палітычна-правільнай арыентыроўкай пісьменніка. Гэта адставанне крытыкі тым больш недапушчальна, што рост пісьменніцкіх кадраў па колькасці, рост літаратуры ў высь, тэмпы роста — патрабуюць значна большай дапамогі, больш канкрэтнай, больш кваліфікаванай і больш упэўненай у правільнасці сваіх палажэнняў крытыкі. Абвастрэнне класавай барацьбы на радзе участкаў (а адным з такіх участкаў з'яўляецца літаратурны фронт) патрабуе большай рэвалюцыйнай пільнасці і з боку крытыкі. Так, напрыклад, мы маем прасочванне нацыяналістычнай контрабанды ў мове Віцьбіча, ў асобных яго вобразах і палажэннях (у аповесці „Лшоно габоо Бірушалайм“, асабліва першы варыянт), дзе побач з мясцінамі, накіраванымі яўна супроць сіяністаў—сама назва аповесці і рад палажэнняў таксама ярка працягваюць яўрэйскі нацыяналізм, што з'яўляецца прыкладам пераўвасаблення беларускага нацыяналізма ў форме яўрэйскага нацыяналізма. Друкаванне гэтай аповесці на старонках „Полымя рэвалюцыі“ паказвае не толькі недастатковасць класавай пільнасці ў дачыненні да нацыяналістычных элементаў з боку рэдакцыі, але і таксама недастатковасць класавай пільнасці і нашай крытыкі.

Гэта яшчэ раз сігналізуе нам аб неабходнасці на справе праводзіць класавую бальшэвіцкую непрымірымасць да малейшых праяў класава-варожай нам ідэалогіі, узмацняць удар па мясцоваму нацыяналізму, як галоўнай небяспецы на даным этапе ў маштабе БССР.

* * *

Совецкая беларуская літаратура і літаратура ўсіх народаў, насяляючых БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б у жорсткіх бойках

з класава-варожымі сіламі вышла на вялікую дарогу актыўнага і дзейснага ўдзела ў соцбудаўніцтве, ужо заваявала рад значных перамог. Перад ёй ляжаць шырокія магчымасці больш шпаркага росту. Для абсалютнай большасці пісьменнікаў ясны перспектывы гэтага росту і сродкі, якімі могуць быць дасягнуты вышыні перамог. Ідучы гэтымі шляхамі, разбіваючы і знішчаючы класавага ворага, зрываючы ўсякія формы маскіроўкі ворага, ідучы яшчэ больш згуртаванымі радамі навокал слаўных сцягаў ленінскай партыі, пад яе кіраўніцтвам, мы праз максімальнае развіццё літаратуры—нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу, пранізанай духам баявога пролетарскага інтэрнацыяналізма, пераможна прыдзем у соцыялістычнае бяскласавае грамадства, а за тым, пры перамозе соцыялізма ва ўсім свеце, у адну агульна-чалавечую культуру з агульнай мовай.

Шлях да яе—праз умацаванне дыктатуры пролетарыята, праз жорсткія класавыя баі, у тым ліку і на фронце літаратуры, пад выпрабаваным кіраўніцтвам нашай ленінскай партыі і яе правадыра т. Сталіна.

---

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# КЛАСАВАЯ БАРАЦЬБА НА МОВАЗНАЎЧЫМ ФРОНЦЕ І РЭФОРМА ПРАВАПІСА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Пастанова СНК БССР „Пра змены і спрашчэнне беларускага правапіса“ з'яўляецца гістарычным дакументам велізарнейшых дасягненняў у справе барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм, з'яўляецца дэманстрацыяй росту беларускай совецкай культуры.

Новы правапіс, рашуча ачышчаны ад шкодных, варожых нам нацдэмаўскіх плыняй, ён бязлітасна ломіць рамкі правінцыялізма, нацыяналістычнай абмежаванасці, ён з'яўляецца магутнейшым штурмам, які актывізуе далейшае развіццё культуры беларускай мовы.

Рэформа правапіса з'яўляецца адным з фактаў тых гіганцкіх перамог, якія заваяваны рабочым класам і калгасным сялянствам у змаганні пад кіраўніцтвам КП(б) за правільнае, паслядоўнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Няма ніякай сілы параўнання сучаснага стану бліскучага соцыялістычнага росквіта нашай краіны з яе дарэволюцыйным жахлівым мінулым.

Былая калонія расійскай імперыі, краіна беспрацоўя, цемры і дзікунства, краіна ланцугоў „эўрапейскага жандара“, краіна соцыяльна і нацыянальна прыгнечаная, меўшая звыш 70 проц. непісьменных працоўных, сёння—

з народжанай і высока развітай соцыялістычнай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай,

з народжанай і высока-развітай соцыялістычнай культурай,

з народжанымі і высока-развітымі творцамі бяскласавай грамады—з'яўляецца магутным фарпостам соцыялістычнага Союза совецкіх рэспублік.

У гуле работ новых фабрык і заводаў, новых электрастанцый, МТС, соўгасаў і калгасаў, новых інстытутаў, школ і клубаў, у гомане каласістага поля калгаснай пшаніцы на былых непраходных балотах—мы чуем сімфонію трыумфа ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі.

Краявід совецкай Беларусі пераіначан. Ён узбагаціўся новай выдатнай панарамай нашых вялікіх перамог. БелДРЭС імя тав. Сталіна, Гомсельмаш, буйнейшыя фабрыкі: „Сцяг Індустрыялізацыі“ і „КІМ“ у Віцебску, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Магілеўская фабрыка штучнага валакна, Магілеўскі трубаліцейны завод, Крычаўскі цэментны завод, Гомельскі шкляны завод і рад

іншых, пабудаваны на базе навейшай тэхнікі і па характару і памерах выпускаемай продукцыі маюць усесаюзнае значэнне. Дзесяткі прадпрыемстваў былі перабудаваны на сучасных асновах прамысловасці, г. зн., што на мейсцы былых майстэрань з некалькімі дзесяткамі рабочых, выраслі новыя заводы.

Буйнейшыя поспехі дасягнуты ў справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Арганізаваны сотні соўгасаў. Палова бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ахоплена калектывізацыяй. Упарта змагаюцца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне, за комуністычныя метады працы, за большэвіцкую сутнасць, за заможнае жыццё 9.184 калгасы.

Векавыя межы-палоскі, узараныя аблітаю потам бярозавай сахой—гэтым сымбалем „ідэатызму вясковага жыцця“, зруйнаваны сталёвай атакай трактарных калон. БССР мае 61 МТС, агульны трактарны парк складаецца з 3200 трактараў. Дзе абшары поля дзікім зараслем пакрываліся, дзе толькі пылам байдосваў вецер— цяпер цаліна паднята калгасамі; за першую пяцігодку пасеўная плошча БССР павялічылася на 500 тысяч га.

Нараджаецца новая соцыялістычная якасць у жыцці калгаснага сялянства. Лепшым ударнікам барацьбы за плённы ўраджай большэвіцкіх палёў, хто шчыра, аддана і ўзорна для іншых працаваў у сваёй вытворчай брыгадзе, таму за яго баявыя працадні—прывозяць збожжа чырвоным абозам і імя гэтага ўдарніка фабрыкі зярна з гонарам атулена таварыскай пашанай.

Выключныя перамогі заваяваны на фронце ленінскай культурнай рэволюцыі. Найвялікшым поспехам з'яўляецца поўная ліквідацыі непісьменнасці ў горадзе да 50 год і ў вёсцы да 45. Мы маем велізарны рост навукова-даследчых, вышэйшых і сярэдніх навучальных установў. Створаны ў БССР дзесятак дзяржаўных тэатраў, беларуская совецкая кінематаграфія за гэты год укладае звыш 3 млн. рубл. на стварэнне новых мастацкіх гукавых карцін. Шырацца кадры і ўключаюцца ў практыку соцыялістычнага будаўніцтва работнікаў выяўленчага мастацтва. У кожным цэху, агрэгаце, на фабрыках і заводах, у кожнай хаце-чытальні мы маем бібліятэку з патрэбным лікам палітмасавай і мастацкай літаратуры, не кажучы ўжо пра школьныя, клубныя і гарадскія бібліятэкі, тым больш пра Дзяржаўную бібліятэку, якая займае выдатнае месца сярод бібліятэк Совецкага Саюза. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі за адзін год выпускае кніг на беларускай мове ў дзесяткі разоў больш, чым за ўсе гады ўсімі выдавецтвамі разам выдадзена на беларускай мове да Кастрычніка.

Адным з перадавых атрадаў на фронце культурнай рэволюцыі з'яўляецца беларуская совецкая мастацкая літаратура. Мы маем творча выяўленых не адзін дзесятак пролетарскіх і совецкіх пісьменнікаў, якія стварылі рад мастацкіх кніг пра гераічны шлях барацьбы пролетарыята, якія дапамагаюць нашай партыі перавыхоўваць масы, мабілізоўваць і арганізоўваць іх на далейшую барацьбу за пабудову бяскласавай соцыялістычнай грамады.

Сямнаццаты год Кастрычніка рабочы клас, калгаснікі і ўсе працоўныя БССР сустрэлі новай велізарнейшай гістарычнай перамогай, пабудаваўшы і ўрачыста адкрыўшы ў Менску помнік генію сусветнай пролетарскай рэволюцыі Владзіміру Ільічу Леніну.

Кожны крок наперад рабочага класа і калгаснага сялянства прыносіць новыя і новыя перамогі, усё вышэй і вышэй уздымаецца наша краіна, пераможна штурмуючы вышыні соцыялізма.

Якім далёкім архаізмам гучаць сёння радкі, поўныя надрыву, беспрасветнасці і роспачы ў вершы Я. Коласа „Наш родны край“

Край наш бедны, край наш родны,
Лес, балота, ды пясок.

Альбо

Край наш родны, бедна поле.
Ты глядзіш, як сірата.
Сумны ты, як наша доля.
Як ты, наша цемната.

На фоне гэтай мастацкай характарыстыкі мінулага яшчэ больш выразней і яскравей вырысоўваецца ўся гордая веліч бурнага росту і перамог нашай краіны, якая абвешчана рэспублікай суцэльнай пісьменнасці, краіны—дзе масы працоўных ахвачаны энтузіязмам непрымірымае барацьбы з класавым ворагам і творчым пафасам гіганцкага соцыялістычнага будаўніцтва.

Нашы гістарычныя заваяванні дасягнуты дзякуючы непасрэднаму кіраўніцтву комуністычнай партыі на чале з тав. Сталіным, дзякуючы правільнаму і паслядоўнаму правядзенню ленінскай нацпалітыкі.

Гісторыя чалавецтва не ведае такога вырашэння нацыянальнага пытання, якое дае праграма комуністычнай партыі, якое дае канстытуцыя СССР, якое з'яўляецца, „сустаўной часткай агульнага пытання аб пролетарскай рэволюцыі, часткай пытання дыктатуры пролетарыята“ (Сталін).

Праз гады усё абвастраючайся класавай барацьбы, праз гераічную барацьбу за паспяховае ажыццяўленне першай пяцігодкі, пры актыўнай дапамозе братэрскіх рэспублік Совецкага саюза,—БССР становіцца перадавой, узорнай, індустрыяльна-калгаснай краінай.

Краіна Советаў уступіла ў перыяд другой пяцігодкі. XVII партканферэнцыя вызначыла генеральнай задачай другой пяцігодкі—канчатковае знішчэнне капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, якія параджаюць эксплаатацыю чалавека чалавекам, знішчэнне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей. Гэты новы перыяд у гісторыі пролетарскай рэволюцыі адзначаецца далейшым яшчэ больш жорсткім абвастрэннем класавай барацьбы. Разгромленыя, але канчаткова недабітыя рэшткі эксплаататарскіх класаў, выбітыя канчаткова з іх пазіцыі—любымі сродкамі і спосабамі, імкнуцца да таго, каб захаваць сваё існаванне, каб падарваць будаўніцтва соцыялізма. Класавыя ворагі не могуць зараз выступаць адкрыта, „у лоб“

супроць дыктатуры пролетарыята, супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі. Яны змяняюць свой твар, формы і тактыку барацьбы, яны сваю контррэволюцыйную дзейнасць імкнуцца праводзіць „ціхай сапай“, яны, замаскаваўшыся, пралазяць у любую шчыліну і шкодзяць на любым участку соцыялістычнага будаўніцтва і ў тым ліку на ідэалагічным фронце.

Асабліва нахабна ахвосце разгромленага, але канчаткова недабітага нацдэмакратызма імкнецца падняць сваю галаву на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Прытупленне, а іншы раз адсутнасць рэволюцыйнай пільнасці, той якасці, „якая асабліва патрэбна цяпер большэвікам“ (Сталін), прывяло да рада грубейшых палітычных прарываў.

Аб'яднаны пленум ЦК і Менскага Гаркома КП(б)Б сумесна з менскім партактывам, што адбыўся ў сакавіку гэтага года, канстатаваў: „Факты, апублікаваныя у газеце „Правда“ (пісьмо настаўніка т. Сцепуры, контррэволюцыйныя нацдэмаўскія вылазкі на літаратурным фронце, факты засмечанасці апарата Наркамасветы нацыяналістычнымі перараджэнскімі элементамі, а таксама дадаткова выкрытыя і выкрываемыя факты скажэння ленінскай палітыкі партыі ў Беларусі)—з усёй відавочнасцю сведчаць, што беларускія партыйныя, совецкія, прафесіянальныя і комсамольскія арганізацыі не вядуць большэвіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізма і ў радзе выпадкаў патураюць буржуазна-кулацкім тэндэнцыям“. А гэтыя тэндэнцыі з'яўляюцца варожымі рабочаму класу і партыі. В. І. Ленін у артыкуле „Нацыянальная, ці інтэрнацыянальная культура“ пісаў: „Буржуазны нацыяналізм і пролетарскі інтэрнацыяналізм—вось два непрымірыма варожыя лозунгі, адпавядаючыя двум вялікім класавым лагерам усяго капіталістычнага свету і выражаючыя дзве палітыкі, болей таго, два светапогляды ў нацыянальным пытанні“. Наша барацьба за стварэнне культуры—соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме разгортваецца пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на шляху, народжаным у гістарычных баях рабочага класа. „Вялікая Кастрычніцкая пролетарская рэволюцыя знішчыла палітыку нацыянальнага прыгнечання і, дзякуючы правільнай ленінскай нацыянальнай палітыцы партыі, адкрыла новую эпоху, эпоху небывалага росквіта моў і пісьменнасці народаў СССР“ (Сталін).

Рост соцыялістычнай культуры праходзіць у надзвычайна абвостранай класавай барацьбе. Будуючы нашу культуру, мы выхоўваем масы ў духу інтэрнацыяналізма. Калі мы гаворым пра будаўніцтва нацыянальнай культуры, мы разумеем, што справа ідзе аб пролетарскім змесце і нацыянальнай форме, гэта значыць, што мы ў барацьбе за пролетарскае інтэрнацыянальнае адзінства не абыходзім „нацыянальныя адрозненні мовы, культуры, быта“ (Сталін). „Росквіт нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры ва ўмовах дыктатуры пролетарыята ў аднэй краіне для зліцця іх у адну агульную соцыялі-

стычную (і па форме і па зместу) культуру з адной агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім свеце і социялізм увойдзе ў быт,—у гэтым якраз і заключаецца дыялектычнасць ленінскай пастаноўкі пытання аб нацыянальнай культуры". Нашы поспехі і перамогі яскрава сведчаць, што комуністычная партыя змагаецца даць поўную магчымасць „нацыянальным культурам развівацца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зліцця іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай" (Сталін).

Контррэволюцыйная работа класавых ворагаў у нашай краіне праводзіцца выразна пад знакам скіравання развіцця БССР з социялістычных рэек развіцця на рэйкі буржуазныя. Гэта значыць— класавыя ворагі імкнуцца адарваць БССР ад СССР, знішчыць дыктатуру пролетарыята і ўстанавіць панаванне буржуазіі, устанавіць капіталістычны лад жыцця і апорай для іх падрыўной дзейнасці, парой прыкрытай фальшыва-нацыянальным сцягам, з'яўляюцца рэшткі капіталістычных элементаў.

Прыпомнім выкрытыя партыяй факты шкодніцтва эсэраўскіх кулацкіх элементаў у галіне сельскай гаспадаркі, выступленне трацкісцкіх элементаў (Рыўлінаўшчына), працягванне бундаўскай кантрабанды ў гістарычных работах (Чарняўскі і інш.), контррэволюцыйныя нацдэмаўскія вылазкі ў галіне літаратуры Сідарэнкі-Пеначкіна, Баранавых, Нікановіча, Лужаніна, праяўленне буржуазнага нацыяналізма ў справе тав. Сцепуры і інш.

Шкодніцтва нацдэмаў з асаблівай сілай праводзілася на мовазнаўчым фронце. На гэты фронт беларуская контррэволюцыя кінула, бадай, ці не самыя лепшыя свае сілы, і мовазнаўчыя ўстановы былі па сутнасці галоўнымі цытадэлямі контррэволюцыйнай работы.

Мова з'яўляецца магутнай зброяй класавай барацьбы, магутным сродкам у руках нашай партыі. Партыя штодзённа і штогадзінна гаворыць з масамі на патрэбнай ёй мове. Моўнае будаўніцтва займае не апошняе мейсца ў агульным будаўніцтве социялістычнай культуры. Мова—ёсць „практычная рэальная свядомасць" (Маркс), „магутны сродак зносін" (Ленін).

Нацдэмы глядзелі на моўны фронт, як на вельмі важны аб'ект сваёй шкодніцкай дзейнасці. У сваіх „тэарэтычных" выступленнях, у практыцы (стварэнне слоўнікаў, правапіса, тэрміналогіі, мастацкай літаратуры) нацдэмы, мабілізоўваючы ўсе свае сілы і сродкі, імкнуліся затрымаць развіццё беларускае мовы, мовы рабочага класа, мовы працоўнага сялянства. „Тэорыі" контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма пра так званы „самабытны" шлях развіцця беларускае мовы—крыюць у сабе выразную антысовецкую сутнасць, імкненне засланіць вочы беларускім працоўным масам нацыяналістычнай атрутай, трымаць масы у цемнаце і праводзіць сваю падрыўную работу супроць дыктатуры пролетарыята, праводзіць сваю інтэрвенцкую буржуазную рэстаўратарскую работу. Нацдэмы, уводзячы ў сучасную беларускую мову

архаізмы з літоўскай метрыкі, з слоўніка Берынды, з розных сярэднявяковых дакумантаў, змагаліся за адрыў мовы ад жыцця, ад гаворак пролетарыята і працоўнага сялянства, рашуча выганялі з мовы элементы інтэрнацыяналізма, змагаліся супроць советызмаў—слоў, народжаных пролетарскай рэволюцыяй, супроць слоў аднародных з рускай мовай. Нацдэмы, паланізуючы мову, змагаліся за ўтварэнне буржуазнай рэспублікі, за падначаленне працоўных савецкай Беларусі фашысцкаму ладу жыцця.

імкнучыся давесці „самабытную“ сутнасць характара сучаснай беларускай мовы, нацдэмы распаўсюджвалі анкету па збіранню моўнага матэрыяла і, каб пазбегчы новых якасцяй у беларускай мове, мове, на якой гавораць будаўнікі соцыялізма, даюць дырэктыву арыентавацца на мову старых непісьменных людзей і на мову дзяцей, якія не вучацца ў нашых советскіх школах.

Што фронту мовазнаўства нацдэмы надавалі асабліва вялікую увагу і тут яднаді свае контррэволюцыйныя сілы, што з гэтага фронта выступалі супроць краіны Советаў,—відаць з праграмнага выступлення махровага нацдэма Лёсіка, які гаварыў, што для іх мова становіць усё: нашу палітыку, эканоміку і наш грамадскі лад жыцця. Гэта відаць і з выступлення другога нацдэма, белагвардзейца Ластоўскага, які прапаведваў, што „калі-б нашу родную, богам нам дадзеную і ўсвячоную беларускую мову закінулі, тагды па ўсіх нас і след загінуў бы на зямлі“.

Хаваючыся за гэтае „богам дадзенае“ назначэнне мовы, нацдэмы выпрацоўвалі планы контррэволюцыйнай работы. Зусім зразумела, што Лёсіку трэба даць працоўным масам такую мову, якая ім не зразумела, каб лаўчэй праводзіць сваю падрыўную работу, і таму ён з усёй кулацкай азвярэласцю на старонках час. „Полымя“ абураўся, што „наша кніжная мова, мова школьных падручнікаў, папулярных народных кніг і асабліва мова штодзённых газет, агулам кажучы, мала падобна да жывой беларускай, або крывічанскай, ці крывіцкай мовы“. Развіваючы гэта антысовецкае палажэнне, Ластоўскі канкрэтызуе, што „трэба дасягнуць таго, каб нашы словы, формы і гукі на пісьме былі адбіццём гісторыі нашай пісьменнасці, гісторыі крыўскага народа“.

На злёце беларускай контррэволюцыі, на так званай „акадэмічнай“ канферэнцыі, нацдэмы поўным голасам выступілі супроць ленінскай палітыкі партыі ў Беларусі. Нацдэм С. Некрашэвіч у дакладзе „Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы“, прапагандуючы ідэі контррэволюцыі, папярэджвае, што, бачыце, трэба быць вельмі асцярожным пры ўнясенні такіх слоў, „як модныя запазычаныя ад рускіх, або складзеныя па ўзору рускіх, славечкі: „Інбелкульт“, „Наркамасветы“, бо „гэтыя“ зладзейскія словы могуць быць і не беларускія, а інтэрнацыянальныя“, а браць у аснову выключна „мову пастухоў, рамеснікаў і рыбакоў“, якая выдзяляецца „першабытнай прастатой і свежасцю“.

На гэтай „навуковай“ базе Некрашэвіч, сумесна з нацдэмам Байковым, выпускаюць слоўнік, у якім засмечваюць мову архаізмамі, штучнымі словамі, ігнаруюць рэволюцыйныя новатворы, арыентуючыся на мову шляхецка-кулацкіх колаў, на мову фашысцкай Польшчы. Замест агульна-прынятых слоў, якія з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі словамі, уводзяць такія, якія невядомы і непатрэбны шырокім працоўным масам. Некалькі прыкладаў: біржа перакладаецца—гелда; балаціроўка—лёсы; анімізм--удухаўленне; суфлёр--падказнік; эксплоатацыя--вызыск; блакада—замык; тэрор—застрашэнне; поршэнь—саўгач; дамкрат--падымач.

З асаблівай нянавісцю нацдэмы адносіліся да слоў, якія маюць выяўлены класавы воблік. Некалькі прыкладаў па Ластоўскаму—Лёсіку—Некрашэвічу і др.: „буржуазия“ перакладаецца „мяшчане“; „пролетарий“—бядота, убоства, бясхатнік, бабыль; „бедняк“—галыш, худак, злыдзень; „крестьянство“—мужыкі, хамы, халопы; „коммунизм“—грамадзейства; рэволюцыя—„пярозрынь“; „баррикада“—загарадка; „пропагандист“—пашыршчык; „трибуна“—моўніца; „обезличка“—бястварка; „диалектика“—пустаслоўе; „великоросс“—маскаль, кацап, кацапюга.

Аб выразнай шкодніцкай рабоце яскрава сведчыць і факт увядзення ў слоўнік вульгарызмаў, грубейшай лаянкі, пахабшчыны, і матывуецца гэтая „каларытнасць“ мовы контррэволюцыйным выпадам супроць краіны Советаў. Некрашэвіч пісаў, што гэтыя словы (пахабшчыну) „патрэбна ўводзіць у слоўнік таму, што такімі словамі надта багата наша мова, і таму, што за гэта гаворыць наша грамадзянскае жыццё“. Але гэтая антысовецкая сцвярджэнне павінна мець і „навуковую“ аргументацыю, таму прафесар Бузук піша: „нам трэба ўводзіць у слоўнік „блатныя словы“, бо гэтыя словы ўрастаюць у нашу мову, сумесна з дэкласаванымі элементамі, якія ўцягнуты ў соцыялістычнае будаўніцтва“.

Контррэволюцыйная нацдэмаўская работа ў галіне мовазнаўства праводзілася і ў мастацкай літаратуры. Успомнім арганізатараў контррэволюцыйнай нацдэмаўскай ячэйкі, так званага літзгуртавання „Узвышша“, Дубоўку, Пушчу, Бабарэку, якія ў мастацкай літаратуры прапагандавалі „тэорыю беларускай душы“ і змагаліся, сумесна з Лёсікамі—Ластоўскімі, за „самабытнасць“ беларускай мовы, уводзілі ў літаратуру архаічныя словы, непатрэбныя правінцыяналізмы, штучна выдуманыя словы як напр. „хто дайлідзіць духу трыклінi“.

У апошнія часы ахвосце разгромленага, але недабітага нацдэмакратызма, дзякуючы прытупленню класавай пільнасці некаторых выдавецкіх работнікаў, змаглі пралезці ў наш друк з рэваншысцкімі контррэволюцыйнымі вылазкамі. Вазьміце твор *М. Лужаніна* „Галасы гарадоў“ (выд. 1933 г.). У гэтым творы Лужанін вытрымлівае контррэволюцыйны стыль „самабытнасці“, ужываючы такія словы, пасля якіх абавязкова трэба даваць самае шырокае тлумачэнне, але ад якіх па Лужаніну вее „перша-

бытнай прастатой і свежасцю“. Напрыклад: *ахір*—г. зн. агонь; *лятуха*—яечня; *дулясьнік*—лямпа; гардзя—гарэлка; троіла—ежа, атарыца—пасаг; кудаса—мяцеліца; сусоніць—пячы; і г. д. Мова ў аповесцях Калюгі—гэта выразная, кулацкая, хутаранская мова і яна арганічна выцякала з кулацкай нацыяналістычнай сутнасці яго творчасці. Мова ў вершах *Таўбіна*—вычурная, штучна-кніжная, жаргапіраваная—таксама арганічна выцякала з буржуазнае сутнасці твораў Таўбіна, гэтага паўпрэда ў літаратуры буржуазнай кулацка-нацыяналістычнай інтэлігенцыі. Пад моцным нацыяналістычным уплывам знаходзіцца паэт Хадыка. Мова яго вершаў перасыпана архаізмамі, не прынятымі ў совецкай літаратуры правінцыяналізмамі, як напр:

Што мокла у маркоце адлець
На глінах правесна жвавых

Альбо:

Я іду праз гэты тлум кастрывы
У шпарах думак сурова паўстае.

Усе гэтыя „перлы“ вынікаюць з тых выразна-нацыяналістычных зрываў, якія ёсць у творчасці Хадыкі і асабліва выяўленыя ў яго апошнім рэакцыйным цыклі вершаў „Грунём“.

Сродкамі архаічнай, штучнай мовы, мовы, ад якой нясе пахам сярэднявяковых палацаў, працягваецца выразная дваранска-нацыяналістычная сутнасць у творчасці Віцьбіча.

У яго аповесці „Ашоно Габоо Бійрушалаім“ (Полымя Рэвалюцыі 1933 г.), зробленай на яўрэйскім „матар'яле“, асабліва выразна працягваюцца ад пачатку да канца, густа, слова за словам, нацыяналістычныя, сіяністкія, клерыкальна-містычныя ідэі. Слёзы па яўрэйскай „патрыархальнай самабытнасці“ і беспрасветнасці разліты па ўсіх старонках аповесці, але Віцьбіг абнадзейвае, дае перспектыву (лозунгам клерыкалаў і раз'юшаных яўрэйскіх нацыяналістаў), якая выказана ў самым загалоўку „Ашоно Габоо Бійрушалаім“, што на дрэўне-яўрэйскай мове азначае „У будучым годзе ў Ерусалім“!

Адзіны фронт нацдэмакратызма ў справе барацьбы „за мову“ ішоў, як бачым, шляхам актыўнай шкодніцкай, падрыўной работы супроць соцыялістычнага будаўніцтва; аднэй з форм гэтай барацьбы было ўжыванне чужой сучаснай беларускай мовы лексіі, правядзенне ізаляцыі ад таго багацця новых слоў, што прынесена ў беларускую мову Кастрычнікам, арыентацыя на мову фашысцкай Польшчы.

Паланізацыю беларускай мовы нацдэмы праводзілі поўным ходам. У слоўніку беларускай мовы давалі замест слоў: „аукцион“— „ліцытацыя“; „заседацель“ — „асэсар“; „всенародный“ — „паспаліты“;—„сход“—„сойм“; „конфискация“—„заскарбаванне“ „огнестрельное оружие“—„пальная зброя“.

З зярынай нянавісцю нацдэмы адносіліся да слоў аднародных з рускай мовай і да слоў рускага паходжання, якія ўліліся

ў беларускую мову ў выніку пераможнага хода пролетарскай рэволюцыі, якія ўвайшлі ў культуру, у быт і сталі інтэрнацыянальнымі словамі, сталі словамі ўсіх народаў Совецкага саюза. Некрашэвіч распінаўся ў змаганні супроць „рускіх, або складзеных па ўзору рускіх славечак", Ластоўскі заклікаў не ўжываць тых беларускіх слоў, якія маюць аднолькавае значэнне і аднолькава вымаўляюцца і ў рускай мове. Калі ў беларускай і рускай мовах ёсць слова „гаварыць", дык Ластоўскі настойваў, каб выключна ўжывалі толькі словы „зюзюкаць, размаўляць, казаць".

Сваю шкодніцкую работу нацдэмы праводзілі і ў галіне стварэння правапіса беларускай мовы, які адпавядаў-бы іх контррэволюцыйным мэтам.

Як у справе стварэння слоўніка, тэрміналогіі, так і ў выпрацоўцы правапіса нацдэмы арыентаваліся на шляхецка-кулацкі характар гаворак, на архаічныя, мёртва-правінцыянальныя формы, на вымаўленне старых непісьменных бабулек, рашуча адгароджваючыся ад жывой сучаснай беларускай мовы. На сваёй „акадэмічнай" канферэнцыі нацдэмы імкнуліся правесці такія формы напісання, якія адкінулі-б цяперашні стан беларускай мовы на некалькі стагоддзяў назад. Нацдэмы прапанавалі перадавацьу напісанні т. зв. дыфтонгі, бо яны з'яўляюцца „асабліва ўласцівымі" „сама-бытнымі" формамі, і пісаць не так, як мы пішам цяпер—вол, люд, мёд, а вуол, люод, мюод і г. д. Выходзячы з гэтых-жа „уласціва-самабытных" меркаванняў прапанавалі пісаць не—яма, юшка, ёж, аб'ём, а праз „ёт"—„іама"; „іушка," іож; аб'іом і г. д. Затым нацдэмы пераходзілі ўжо на „вышэйшую" ступень контррэволюцыйнай дзейнасці, прапануючы перавесці правапіс на лацінскі алфавіт. Беларуская контррэволюцыя ўсімі сіламі і спосабамі імкнулася, арыентуючыся на фашысцкую Польшчу, зрабіць правапіс беларускай мовы недаступным шырокім беларускім працоўным масам, імкнулася стварыць штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі, і пры любой мажлівасці засмечвалі беларускую мову рознымі сярэднявечнымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі.

Правапіс беларускай мовы, якім мы карысталіся да апошняга часа, быў засмечаны нацдэмакратычнымі плынямі, быў вельмі складаны для авалодвання ім і меў цэлы рад блытаных і нарачыта штучных правіл.

Распрацоўваючы задачы спрашчэння і змен беларускага правапіса, улічвалі галоўным чынам спецыфіку вымаўлення сучаснай беларускай мовы, мовы пролетарыята і працоўнага сялянства, здабыткі беларускай совецкай мастацкай літаратуры; адкінуўшы зусім недаступны масам гістарычны прынцып, трапна высмеяны Энгельсам, кіраваліся адзінствам фанетычнага і марфалагічнага прынцыпаў, але не даводзячы элементы фанетычнага пісьма да абсурднай крайнасці. Распрацоўваючы задачы рэформы правапіса, выходзілі з рэволюцыйнай перспектывы далейшага моўнага

будаўніцтва, улічваючы растучую інтэрнацыянальную пролетарскую сувязь усіх народаў СССР. Сучасным правапісам дасягнута лёгкасць вывучэння працоўнымі масамі беларускай пісьменнасці і вызвалена школа ад непрадукцыйнай работы пры вывучэнні правапіса, па сутнасці пакладзен канец здзекам над нашай дзетварой. У чым выявіліся асноўныя змены правапіса?

1. Выкінуты мяккі знак у такіх выпадках, як: *зняць, цвет, свет, снег* і г. д., а таксама і ў такіх словах. як: *з'ява, з'есці*, дзе мяккі знак заменьваецца апострафам.

2. Уведзена напісанне: *гарадскі, грамадства,* замест штучна ўведзенага паланізатарскага напісання праз *дз*.

3. Аб злучэнні іншых зычных з тым-жа суфіксальным *с:* во*лжс*кі, чува*шс*кі, замест волскі, чуваскі.

4. Аб напісанні кольцы, сальце і г. д., замест колца, салца, на ўвядзенні якіх настойвалі нацыянал-фашысты.

5. Аб напісанні *е* пасля ўсіх зычных (апрача *д, т* у словах іншамоўнага паходжання): м*е*тодыка, эстаф*е*та. Ранейшае напісанне абсалютна не адпавядала жывому беларускаму вымаўленню. На гэтай аснове ўстаноўлена і правіла.

6. Аб перадачы іншамоўнага *л* пераважна цвёрда *(клас, кілаграм, даклад, план)*.

7. Аб напісанні *і* пасля *с, з* у словах іншамоўнага паходжання (с*і*стэма, фі*з*іка, універс*і*тэт).

8. Аб напісанні такіх слоў, як барый, пролетарый, алюміній з канчаткам *й*.

9. Аб напісанні ўласных імёнаў і геаграфічных назваў з захаваннем асаблівасцяй тэй мовы, адкуль яны ўзяты (Іосіф, Нікалай) і аб напісанні асабовых беларускіх імёнаў згодна жадання іх носьбітаў (Базыль, і Васіль, і Восіп, і Язэп, і Янка, і Іван).

10. Аб ужыванні форм назоўнікаў роднага склона адзіночнага ліка пераважна з *а* (комунізм*а*, універсітэт*а*).

11. Аб увядзенні форм множнага ліка назоўнікаў з *ам, ах* у давальным і месным склонах множнага ліку не толькі не пад націскам, але і пад націскам (кіраўні*кам,—ах*).

Змены правапіса пабудаваны на прынцыпах сучаснага стану развіцця беларускай мовы. Рэформай правапіса ўлічаны формы, якія прагрэсуюць у жывой мове, напр. дзеяпрыметнікі.

Зразумелая рэч, што ўстанавіўшы правіла аб перадачы іншамоўнага „f" праз *Ф*, замест вульгарнага напісання праз *хв. х, п* мы ўздымаем нашу мову на вышэйшую ступень культурнага развіцця. Якім дзікім сёння для нас з'яўляецца вучэнне такіх „самабытных" форм словабудовы, як *хвабрыка, хвунт, хворма*. Супроць такога вульгарызавання накіравана і правіла аб напісанні ў словах іншамоўнага паходжання канчаткаў *тр* і *др*, скасаваўшы канчаткі *тар, дар* (літр, метр, кадр, а не літар метар, кадар).

Не трэба многа даводзіць, што ўстанаўленне правіла аб напісанні такіх слоў, як комуніст, марксіст без канчатка на *Ы*

(комуніст, а не комуністы) і ў сувязі з гэтым правілам аб іх скланенні па тыпу такіх слоў, як „брат“—мае выразны характар барацьбы з нацдэмаўшчынай. Скланенне комуністы—*АГА—АМУ*—было штучна ўтвораным і ў вялікай меры не адпавядала жывым нашым гаворкам.

Шмат нацдэмы нашкодзілі ў пытаннях „окання“ у словах іншамоўнага паходжання. Такія словы, як „кааперацыя,“ „калгас“, „трактар“ і іншыя, пісалі праз „О“, матывуючы гэта правіла тым, што словы „калгас“, „кааперацыя“ і другія не прыняты беларускай мовай, не ўвайшлі ў быт, што яны па сваёй прыродзе чужыя беларускай мове. Што словы „калгас“ і падобныя ім чужыя і варожыя нацдэмам—гэта зразумела, як і зразумела буржуазна-класавая „апрацоўка“ правапіса нацдэмаўскімі „слупамі мовазнаўства“.

Улічваючы працэс асваення шырокімі працоўнымі масамі слоў іншамоўнага паходжання, мы абавязаны гэтыя словы перадаваць згодна іх вымаўлення, г. зн. праз „аканне“. Так у пастанове СНК аб зменах у правапісу і праведзена.

Інтэрнацыянальна-рэволюцыйныя словы, словы, якія народжаны пролетарскай рэволюцыяй і якія ва ўсіх мовах света пашырыліся, вымаўленнем праз „О“, і ў нашым новым правапісу гэтая рэволюцыйная якасць захована. Словы „комуна“ „комунізм“ „рэволюцыя“. „совет“. „соцыялізм“. „большэвік“. „піонер“. „комінтэрн“, „комсомол“, „пролетарый“ і ўсе ўтвораныя ад гэтых слоў, а таксама слова „профінтэрн“—пішуцца і ў нас праз „О“, г. зн. захоўваецца ў корані іх першакрыніца і гэтым уздымаецца мова на новую вышэйшую ступень развіцця па шляху пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Метадычным запатрабаваннем лёгкасці і рацыянальнасці абумоўлены наступныя правілы:

а) аб яканні толькі ў першым складзе перад націскам, замест ранейшага вельмі складанага правіла, калі даводзілася лічыць склады і ў залежнасці ад таго, што стаяла ў першы складзе перад націскам, пісаць *е* альбо *я* ў другім складзе;

б) аб заўсёдным напісанні *не* і *без*, калі яны пішуцца асобна, праз *е*, незалежна ад галосных у першым складзе перад націскам;

в) аб уніфікацыі вызначэння, пры дапамозе апострафаў, раздзельнага вымаўлення гукаў, не толькі—*аб'ява, пад'ехаць*, але і *з'ява з'есці*;

г) унармавана правіла аб напісанні прыставачнага *в* перад пачатковым *У*, а таксама правіла аб „аканні“ у складаных словах; Спрошчана напісанне такіх слоў, як суддзя, разводдзе.

Аб поспехах новага правапіса сведчыць тая лёгкасць, з якой масы і партыйна совецкі друк перайшлі на яго ўжыванне.

Беларуская мова з пагарджанай стала роўнаправайнай мовай у вялікім Совецкім саюзе. Дзякуючы кіраўніцтву і выключнай клапатлівасці нашай партыі аб фронце мовазнаўства, на фоне агульнага ўздыма соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, разгорт-

ваецца, бурна расце і адточваецца сродак партыі ў барацьбе за соцыялістычнае будаўніцтва—беларуская мова.

Пры дапамозе мовы, гэтага сродка зносін нашай партыі з масамі, выпрацаваўшы просты, лёгкі для ўспрыймання правапіс, партыя яшчэ хутчэй ўздымае працоўныя масы на вышэйшую ступень развіцця, дае ім поўныя магчымасці разгарнуць свае багатыя здольнасці, усе свае патэнцыі на карысць будаўніцтва соцыялізма.

Далейшы рост беларускай мовы абумоўлены:

1) абаснаваным жывой сучаснай гаворкай правапісам;

2) рашучым выкідваннем з мовы архаізмаў, нарачыта штучна створаных нацыяналістычнага тыпа слоў і форм, іх перадачы на пісьме;

3) набліжэннем правапіса беларускай мовы да іншых моў народаў Совецкага саюза;

4) утварэннем рэволюцыйных новатвораў у працэсе пераможнага хода соцыялістычнага будаўніцтва.

Далейшае развіццё беларускай мовы будзе ісці і шляхам сцірання граняй паміж літаратурнай мовай і гаворкамі (ў сувязі з ростам сцірання розніцы паміж горадам і вёскай і ростам культурнага ўздыма працоўных мас), шляхам уніфікацыі прагрэсуючых фанетычных і граматычных з'яў літаратурнай мовы, шляхам адмірання старых, аджыўшых, непрагрэсуючых форм.

Дзякуючы правільнай палітыцы партыі, узняты да грамадска-палітычнага жыцця, да вялікай творчай работы працоўныя ўсіх акраін нашай рэспублікі. Яны, знаходзячыся на ўздыме свайга развіцця, узбагачваюць беларускую мову новым слоўным скарбам Замест панавання ў мове форм выключна Меншчыны і Віленшчыны, як гэта было да апошніх часоў, уліваюцца ў сучасную мову і новыя прагрэсіўныя формы гаворак працоўных усіх куткоў БССР.

Недабітае ахвосце нацдэмаўшчыны на фронце мовазнаўства ўсё часцей і часцей паказвае свае контр-рэволюцыйныя клыкі. У 1932 годзе было выступленне праф. Бузука з яго работай „Кубанскія гаворкі", у якой ён займаўся адкрытай прапагандай пятлюраўскіх, кулацка-нацыяналістычных ідэй, дамагаючыся правядзення гвалтоўнай украінізацыі паўночнага Каўказа. Украінскія і беларускія нацдэмы патрабавалі ўкраінізацыі ўсёй Кубані, значнай часткі ЦЧВ, Далёка-Усходняга края і. г. д., беларусізацыі значных частак Заходняй і Ленінградскай вобласцяй. Праф. Бузук пісаў: „Мы павінны прызнаць, што і такія вобласці Совецкага саюза, як Кубань, ЦЧВ, ДУК і іншыя, павінны прайсці стадыю свайго росквіта нацыянальнай культуры. І калі зусім нядаўна, можа быць сёння, у эканамічных і палітычных цэнтрах такіх мясцовасцяй вядучай была расійская мова, то гэта не можа служыць аргументам супроць правядзення ў такіх вобласцях ленінскай нацыянальнай палітыкі. У бліжэйшым будучым на Паўночным. Каўказе вядучай зробіцца ўкраінская мова".

З гэтай цытаты выразна відаць, як скарыстоўваецца марксісцкая фразеалогія для працягнення пятлюраўскіх контр-рэвалюцыйных тэндэнцый, як праводзілася барацьба супроць ленінскай сутнасці нацыянальнага пытання.

Ужо зусім нядаўна выданы стабільны падручнік „Сынтакс для сярэдняй школы“, частка 2-ая, Пратасевіча і Самковіча. Пры ўкладанні падручніка аўтары, як яны самі заяўляюць у сваёй прадмове, „кіраваліся праграмай, укладзенай НКА Беларусі на 1933-1934 навучальны год“.

Аднак, аўтары падручніка дапускаюць па іх выразу: „некаторыя незначныя адхіленні“ ад праграмы НКА. У ліку гэтых „незначных адхіленняў“, каб пазбегчы „залішняга філазофавання за лік практыкі і ведаў“, прапускаюць раздзел, у якім вучням сярэдняй школы трэба было расказаць пра „стварэнне нацыянальных моў паводле вучэння Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна; ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў галіне мовы, інтэрнацыянальныя словы і працэс іх асваення, рускія словы пасля Кастрычнікаўскага перыяда, якія набылі інтэрнацыянальны характар; Ленін і Сталін аб шляхах стварэння інтэрнацыянальнай мовы“ (праграма НКА, стар. 50). Калі ўважліва азнаёміцца з прыкладамі як у сінтаксе, а таксама і ў іх-жа падручніку „Беларуская мова“, частка 1-я і 2-я,—нам відавочна стане ўся варожая сутнасць гэтых „незначных адхіленняў“, якую ахвосце нацдэмакратызма—Самковіч і Пратасевіч—працягваюць на старонках падручнікаў.

Для нас зразумелым стане і тэндэнцыйны падбор сказаў, і „друкарскія непаразуменні“ прыпісваннем В. І. Леніну чужых выказванняў, і пераробкі вершаваных радкоў (замест „забытае гора“—„здабытае“) і г. д.

Нацыяналістычным пахам нясе з старонак падручніка, назначэнне якога павінна было б быць узбраеннем нашага маладога пакалення марксісцка-ленінскай метадалогіяй.

У сувязі з паяўленнем рэфармаванага правапіса беларускай мовы захлюкала нацыяналістычнае балота, зашушукалася нацдэмаўскае ахвосце.

Сучасны правапіс беларускай мовы з'яўляецца вострай зброяй у руках нашай партыі супроць ворагаў пролетарыята і калгаснага сялянства. Новы правапіс з корнем вырваў і адкінуў нацдэмаўскія плыні, засмечанасць „самабытнымі“ формамі пісьма. Правапіс пабудаваны на асновах жывога сучаснага вымаўлення беларускага слова вуснамі рабочага класа і працоўнага сялянства, на асновах барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм і з'яўляецца лёгкім для авалодвання ім шырокімі беларускімі працоўнымі масамі. Іменна па гэтых якасцях новы правапіс з'яўляецца смяротным ударам па нацыяналістах. У сваіх перадсмяротных усхліпах нацыяналісты з усім сваім кулацкім намаганнем тужацца выступіць супроць развіцця беларускай соцыялістычнай культуры, за адстойванне сваіх буржуазных класавых пазіцый, за

сярэдневяковыя, архаічныя, вульгарныя „традыцыйна-самабытныя“ формы пісьма, як сродак барацьбы за цемнату, уціск, эксплаатацыю і зняволенне працоўных мас буржуазіяй.

Са звярынай ярасцю сустрэлі вестку аб рэформе правапіса беларускай мовы нацыянал-фашысты ў Заходняй Беларусі. Шчыра і аддана выконваючы ўсе дырэктывы і заданні польскага фашызма, скачучы пад яго ў дыфензіве выпрабаваную, ад жахлівага крызісу асіпшую дудку,—нацыянал-фашысты выступаюць з гарой подлых паклёпаў на социялістычную Савецкую Беларусь.

Кожны крок наперад, кожны поспех, кожную нашу перамогу беларускія нацыянал-фашысты сіляцца паказаць перад працоўнымі масамі Заходняй Беларусі ў святле выгадным міжнароднаму фашызму. Але толькі сіляцца, бо засляпіць вочы працоўным масам Заходняй Беларусі, якія пад кіраўніцтвам КПЗБ гераічна змагаюцца за сваё вызваленне, не ўдавалася, не ўдаецца, і не ўдасца. Не ўдасца Луцкевічу і К° нашы поспехі ў барацьбе за бурны рост беларускай савецкай культуры, у прыватнасці мовы, дасягнутыя стварэннем новага правапіса, падаць Заходня-Беларускаму рабочаму класу і працоўнаму сялянству, як акт знішчэння беларускай мовы. Вельмі агідная і не зграбная справа!

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б працоўныя БССР разграмілі ўсю контррэволюцыйную сутнасць т. зв. „акадэмічнай“ канферэнцыі, раскрылі інтэрвенцкі твар гэтага злёту класавых ворагаў.

Гэту канферэнцыю успомніў у сваім фашысцкім „Родным краі“ цемрашал Луцкевіч, калі дачуўся аб рэформе правапіса беларускай мовы. О, гэтая канферэнцыя, лятуценна піша Луцкевіч: „Яна была падрыхтавана з усёй павагай. Запрошаны былі з усіх краёў не толькі беларускія, але і чужаземныя знаўцы беларускай мовы“, а тут гэты новы большэвіцкі правапіс: „як пярун з яснага неба“!

Не маючы перад сабой новага правапіса, як сам фашыст прызнаецца („мы не маем яшчэ ў руках поўнага тэксту дэкрэта“), аднак распінаецца надрыўным крыкам: „Паночкі, ратуйце, большэвікі знішчаюць беларускую мову!“.

Адным словам, як трапна сказана ў вершы Крапівы „З фашыстоўскай падваротні“:

Пёс рахманы ды ласкавы,—
Даць яму вянгліны й кавы:
Пан Луцкевіч—еж, еж,
Будзем гаўкаць лепш!

Не адзін, вядома, „пан Луцкевіч—нюх, нюх“, а таму

Пан Луцкевіч—гаў, гаў
Каб Кіртыкліс даў.

Не, ён гэты фашыстоўскі пёс, не адзін—

А за ім яшчэ паўсотні
З фашыстоўскай падваротні
На працоўных—гір, гір...

З гэтага сабачч'яга аркестру раздаўся голас і на брудных старонках фашыстоўскай „Беларускай крыніцы“. Брэшучы пра „найвялікшыя знакі самабытнасці“, захлынаюцца ў пене шаленства, бач—„рэформа абымае аж 27 языковых асаблівасцяй“! Гэта-ж „чужое „*Ф*“ пастаноўлена перадаваць праз ф: форма, фунт, фабрыка, гэта-ж „наперакор агульным тэндэнцыям беларускай мовы“. Спрадвеку пісалі—хвабрыка, хвунт, хворма, хвайна, хвельчар, а большэвікі: „як гром з яснага неба“ выкідваюць „традыцыйна-самабытнае—„*хве*“!

А які брэх падняты вакол мяккага знака. Жах страшэнны: снег, цвет, свет—ды пісаць без мяккага знака! Брахня гэтая прыгадвае нам гвалт, узняты расійскай чорнай сотняй, калі ў першыя дні пролетарскай рэволюцыі выкінулі „расейскія“ „традыцыйныя“ фіту і яць! Аднак пабрахалі, асіплі і падаліся ў кельнеры фашысцкіх рэстаранаў, а працоўныя РСФСР і ўсяго Совецкага саюза атрымалі лёгкі, даступны правапіс для авалодвання рускай пісьменнасцю.

Няхай-жа брэшуць цяпер і беларускія нацыянал-фашысты з поваду выкідвання „самабытнага“, „традыцыйнага“, „своясаблівага“ „хве“, няхай перад сваім сконам удоваль набрэшуцца. Сабака брэша, вецер носіць..

Рабочы клас і калгаснае сялянства заваявалі выдатныя перамогі на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і на фронце нацыянальна-культурным. Гэтыя гістарычныя перамогі дасягнуты дзякуючы выключнай дбайнасці, клапатлівасці, сістэматычнаму штодзённаму кіраўніцтву ленінскай партыі.

Наша асноўная задача—інтэрнацыянальнае выхаванне мас, усямернае ўмацаванне баявога рэволюцыйнага адзінства народаў СССР—аплота сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

У сваёй рабоце—з чым большай пролетарскай ярасцю будзем выкрываць і граміць беларускі нацыяналізм, які на даным этапе з'яўляецца для нас галоўнай небяспекай, чым вышэй уздымем і загартуем класавую пільнасць, тым з яшчэ большымі поспехамі пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна-Сталіна пойдзем наперад да новых перамог па шляху соцыялістычнага росту і росквіту.

---

АЛ. КУЧАР.

# СТАНОВІШЧА І ПЕРСПЕКТЫВЫ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЕ СОВЕЦКАЕ ПАЭЗІІ

## Паэтычнае мастацтва—зброя класавага змагання

Наша паэзія за гады пасля Кастрычніцкае рэволюцыі выгадавала нямала добрых і таленавітых паэтаў. Совецкая паэзія давяла на справе, што яна ў працэсах класавага змагання з'яўляецца дзейнай сілай пролетарыята ў социялістычным будаўніцтве.

Совецкая паэзія, як адна з складаных і адказных частак літаратурнае справы ёсць і цяпер і надалей будзе з'яўляцца вострай зброяй у тым змаганні, якое праводзіць пролетарыят пад кіраўніцтвам ленінскай партыі супроць сваіх ворагаў.

Відавочна, што творы тых пролетарскіх і совецкіх паэтаў, якія (творы) па сваёй форме з'яўляюцца даступнымі, якія ў сваім змесце насычаны вялікім социялістычным будаўнічым пафасам,— маюць папулярнасць сярод рабочых і сялянскіх мас. Невялікі памерам паэтычны твор—рэволюцыйная песня, калі яна ў сваёй форме, у сваім змесце блізкая мільённым масам працоўных— распаўсюджваецца надзвычайна хутка, падхопліваецца шматмільённымі галасамі нашай краіны.

Зацікаўленасць да пытанняў паэзіі ўсё больш і больш узрастае. Гэтая зацікаўленасць вынікае з тае вялікае ўвагі, якую аддае наша партыя, наш партыйны друк пытанням паэзіі. Яна з'яўляецца не выпадковай, яна выклікана велізарнай функцыянальнай роляй, якую адыгрывае паэзія ў працэсах нашага будаўніцтва. У саміх паэтаў багата ёсць пытанняў, звязаных з сутнасцю паэзіі, неразвязаных, нерасшыфрованых. Нядаўна ў невялікім артыкуле ў „Правде" т. Фадзееў узняў глыбока-прынцыповае пытанне—па якім шляху ісці маладому совецкаму пакаленню паэтаў: ці па шляху так званых „архаістаў"—гэта значыць паэтаў, якія ў ясных і даступных формах паказваюць гіганцкі размах социялістычнага будаўніцтва, ці па шляху тых паэтаў, якія займаюцца пераважна так званым „фармальным удасканаленнем", якія займаюць фармалістычныя пазіцыі ў літаратуры і прыкрываюць фармалізмам буржуазны, варожы нам змест сваіх твораў.

Шмат пытанняў узнікае пра тое, што такое паэзія, якая функцыянальная сіла яе ў класавым грамадстве. Актуальным з'яўляецца пытанне, як мы павінны падыходзіць да кожнага паэта ў паасобку.

Падыходзячы да аналіза паэтычнага фронта беларускае совецкае літаратуры, трэба, перш за ўсё, адзначыць, што цяпер больш, як калі, мы маем росквіт творчых сіл у паэзіі. Не гледзячы на ўсе вялікія хібы твораў, ёсць у БССР шырокі і разгорнуты паэтычны фронт. Ёсць у нас значная колькасць таленавітых паэтаў, якія распрацоўваюць рознастайныя віды паэтычнае творчасці.

Калі мы параўнаем цяперашняе становішча паэзіі са становішчам яе некалькі год таму назад, дык мы ўбачым, што яна правяла, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, вялікае змаганне супроць нацыяналістычных паэтаў, якія для сваіх контррэвалюцыйных нацыяналістычных мэтаў скарыстоўвалі ўсе магчымыя сродкі змагання супроць пролетарскай дзяржавы. І далей наша змаганне супроць буржуазна-нацыяналістычных элементаў будзе працягвацца з неаслабнай энергіяй, і надалей гэтае змаганне супроць нацыяналістычных паэтаў, якія вялі і вядуць паэзію ў тупік, да эстэцкага выраджэння, да рэстаўрацыі буржуазнай культуры, будзе забяспечваць яшчэ больш магутны росквіт паэтычнага соцыялістычнага мастацтва.

На совецкім літаратурным фронце працуе выдатны пролетарскі паэт Міхась Чарот. Міхась Чарот на мінулых этапах і ў цяперашні час паказвае прыклады большэвіцкай паэзіі. Тут можна прыгадаць творы Міхася Чарота, яго паэму „Босыя на вогнішчы", „Комсамолія", якія з'яўляюцца высока-мастацкімі творамі пролетарскае літаратуры. Такія творы Міхася Чарота, як „Суровы прыгавор падпісваю першым", „Сын партызана", з'яўляюцца актывам сучаснае беларускае совецкае літаратуры.

Паэт Андрэй Александровіч сваёй творчасцю адказвае на баявыя, актуальныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва і класавага змагання, ён па-партыйнаму ставіць зброю сваю—мастацкую творчасць—на змаганне з класавым ворагам. Александровіч з'яўляецца адной з асноўных вядучых фігур беларускай совецкай паэзіі.

На перадавых пазіцыях нашай паэзіі стаяць такія паэты, як Крапіва, Пятрусь Броўка, Алесь Зарыцкі, Аркадзь Куляшоў, Пятро Глебка, цэлы шэраг іншых, больш маладых, якія перамагаюць тое старое, зацвілае, мяшчанскае, што доўгі час затрымлівала іх творчы рост.

Павярнулі ў бок соцыялістычнага будаўніцтва, творча актывізуюцца на сучаснай тэматыцы буйнейшыя прадстаўнікі старой літаратурнай інтэлігенцыі Янка Купала і Якуб Колас.

Совецкая паэзія ўсё больш і больш расце, яна папаўняецца маладымі кадрамі з ліку рабочых, калгаснікаў. Таму невыпадковымі з'яўляюцца тыя тэарэтычныя пытанні, якія хвалююць работнікаў літаратуры. Гэта—пытанні пра тое, як мы вызначаем сутнасць паэзіі і адсюль, якое месца мы даем паэзіі ў соцыялістычнай літаратуры. Калі мы падыходзім да гэтага пытання, дык перш за ўсё сустракаемся з рознага роду ідэалістычнымі ацэнкамі

сутнасці паэзіі. Зразумела, мы не можам падзяляць ідэалістычных поглядаў і сутнасці ацэнкі паэзіі такім вялікім прадстаўніком літаратурнай крытыкі, як Белінскі, але мы стараемся ўлавіць тое здаровае правільнае, што было ў гэтай ацэнцы, мы звяртаем увагу на тое, як Белінскі высока цаніў паэзію, якое вялікае месца ён даваў паэтычнай вершаванай творчасці ў літаратурнай і наогул мастацкай дзейнасці.

Для нас зусім зразумела надзвычайна высокая роля паэтычнага мастацтва ў грамадстве. Для нас зразумела, што паэт павінен быць на вышыні свайго часу, гарэць тымі пачуццямі, якімі гарыць перадавы клас чалавечай гісторыі, быць на вышыні філасофіі найбольш рэвалюцыйнага, найбольш перадавога класа. *Мы шмат* патрабуем ад паэта ў справе мастацкай тэхнікі. Паэтычны твор павінен быць дасканалым, апрацаваным да кожнага радка, да кожнага вобраза ўключна. Паэтычная работа надзвычайна сур'ёзная справа і патрабуе шмат здольнасці, энергіі, працы.

У адным з артыкулаў Белінскага ў тых узаемадачыненнях, якія ўстанаўляе ідэаліст Белінскі паміж паэзіяй і жыццём, ускосна выяўлена правільная думка, якая яскрава сфармулявана ў наступным сцверджанні Белінскага пра мастацтва.

„Навука і мастацтва не выдумліваюць новай і небывалай рэчаіснасці, але ў тэй, якая была, ёсць і будзе, бяруць гатовыя матэрыялы, гатовыя элементы, адным чынам, гатовы змест. Мастацтва, беручы ў рэчаіснасці матэрыялы, узводзіць іх да агульнага родавага, тыповага значэння, стварае з іх стройнае цэлае“.

Заўвага Белінскага стасуецца да ўсяго мастацтва і, тым больш, да вершаванага паэтычнага мастацтва. Значыць, апрача зместа, апрача ідэй, філасофскіх поглядаў, прынцыпаў, якія выражае паэт у сваім творы,—сама форма, рытміка, тон паэтычнага твора, агульная гармонія, агульны песенны лад цалкам належаць жыццю.

Прыступаючы да вывучэння паэта, трэба вялікую ўвагу звярнуць на тое асабістае, што адрознівае гэтага паэта ад іншых. Зразумела, кожны паэт выражае ў сваёй творчасці тое, што ўласціва яго грамадству, яго класу, чэрпае матэрыялы з тых абставін, у якіх ён развіваецца, у якіх ён расце, і паэты, што растуць у аднолькавых умовах, што належаць да аднаго класа, будуць мець аднолькавы, ва ўсякім разе падобны змест свае творчасці пры самай рознастайнай і шматвобразнай форме. Мы павінны звяртаць увагу і на змест твора і на тое асаблівае, чым вылучаецца паэтычны твор пісьменніка.

Кожны паэт павінен быць прасякнуты тымі ідэямі, якімі жыве рабочы клас і якімі жыве наша партыя, тымі мэтамі, якімі жыве пралетарыят. Але кожны паэт павінен мець тое асноўнае, што вылучае яго з ліку іншых паэтычных адзінак. Быць вялікім паэтам—гэта значыць быць даступным мільённым масам чытачоў, гэта быць творцам тэй літаратуры для мільёнаў, пра якую марыў і пісаў Владзімір Ільіч Ленін. Быць вялікім паэтам, значыць

паказваць жыццё праўдзіва. Быць вялікім паэтам, значыць паказваць жыццёвыя факты ярка, каб яны вучылі масу чытачоў. З нашага пункта гледжання быць вялікім паэтам, гэта значыць быць актыўным удзельнікам класавага змагання, рабіць сваю творчасць магутным сродкам змагання за ідэалы рабочага класа. Паэзія ўсю сваю сілу павінна накіраваць на змаганне за соцыялізм.

„У творах паэта людзі, якія захапляюцца імі, заўсёды знаходзяць штосці даўно знаёмае ім, штосці сваё ўласнае, што яны самі адчувалі, або няясна і няпэўна прададчувалі, альбо пра што думалі, але чаму не маглі даць яснага вобраза, чаму не маглі знайсці словы, і што, такім чынам, паэт мог толькі выразіць. Чым вышэй паэт, тым прасцей яго творы, так што чытач здзіўлены, як яму самому не прышло ў галаву стварыць што-небудзь падобнае,—гэта-ж так проста і лёгка“.

Такім чынам Белінскі патрабаваў ад паэта: вялікае прастаты, вялікае яснасці і выразнасці думак, патрабаваў, каб паэзія была выражэннем таго, чым жыве чытач, што ён адчувае, таго, што з'яўляецца для яго блізкім. І вось параўнайце з гэтымі патрабаваннямі творы некаторай часткі нашых паэтаў, якія гоняцца за знадворнай складанасцю формы, за вычурнасцю мовы, якія капаюцца ў свеце сваіх уласных адчуванняў, якія пішуць вельмі часта і, бадай, пераважна для сябе, робяць стаўку на свае адчуванні, на свае вузка-асабістыя настроі. Параўнайце гэтыя патрабаванні з тым, што піша ў нашай паэзіі, напрыклад, такі паэт, як Уладзімер Хадыка. Белінскі гэтакім паэтам дае рэзкую і адмоўную ацэнку. Зусім зразумела, калі Уладзімер Хадыка не зможа перабудаваць сваю творчасць ідэалагічна (ідэалагічна паэзія Хадыкі залежна ад буржуазнай і буржуазна нацыяналістычнай паэзіі) і па лініі фармальнай і будзе ісці яшчэ далей па шляху ўтрыраванага псіхалагізма, дык да яго паэзіі мы з поўным правам зможам прыстасаваць тое, што гаварыў Белінскі:

„Творы, у якіх людзі нічога не пазнаюць свайго і ў якіх усё належыць паэту, не заслугоўваюць ніякае ўвагі, як нікчэмнасць“.

Вядома, што цяпер паэзія Хадыкі не з'яўляецца такой, але развіццё яе па гэтым-жа шляху, можа прывесці ў такі тупік, калі тыя суб'ектывістычныя адчуванні, якімі поўны вершы Хадыкі, будуць ісці цалкам у разрэз з пачуццямі і настроямі, якімі жывуць будаўнікі бяскласавага грамадства.

Мы патрабуем ад паэта вялікага пафаса—мы падкрэсліваем, аналізуючы творчасць паэта, што ў першую чаргу нас цікавіць тое агульнае вялікае, што характарызуе паэта, што выяўляе сутнасць яго паэзі, і гэта мы называем паэтычным пафасам. Аналізуючы паэта, мы гаворым не пра асобныя ідэі, ці асобныя пачуцці, якія ён выражае, а пра вялікі паэтычны пафас. Паэт павінен успрымаць жыццё не толькі думкамі або пачуццямі, але і думкамі і пачуццямі—усёй істотай сваёй, усім сваім пафасам, гэта значыць, з нашага пункта гледжання, паэт павінен мужна і з сілай, агнём і полымем узрошчанай, ставіцца да нашае соцыялістычнае рэчаіснасці.

Тым больш мы гэтага магутнага пафаса павінны патрабаваць ад нашых сучасных паэтаў, якія жывуць у такую гераічную і выключную па змесце эпоху. Мы павінны патрабаваць пафасу будаўнічага. Уся краіна цяпер жыве лозунгам, высунутым правадыром большэвіцкай партыі тав. Сталіным—пафасам засваення новай тэхнікі, новых фабрык і заводаў. Ці-ж будаўнічы пафас і пафас засваення не павінен стаць пафасам нашых паэтаў? Безумоўна, павінен стаць. А, між тым, многія нашыя творы пра соцыялістычнае будаўніцтва, бледныя, нияркія, прасякнуты агульшчынай, лазунговымі фразамі. У кожным невялікім творы паэт імкнецца гаварыць на сусветныя тэмы. Творы многіх пісьменнікаў кампазіцыйна-раскіданыя, а галоўнае—у іх не адчуваецца вялікай сілы любові да людзей нашага класа і нянавісці да нашага ворага, вялікай сілы пафаса будаўніцтва, які павінен ахапіць паэта, што працуе ў нашу эпоху. Не адчуваецца ў многіх паэтаў шчырых дачыненняў да будаўнікоў соцыялістычнае грамады.

Няхай тэма, факт, падзея, якую распрацоўвае паэт у сваім творы, будзе не сусветнага маштаба, няхай яна на першы погляд будзе і нязначная, але падзею, факт паэт павінен выключна ведаць, выключна пераажыць, перапакутваць, пераадчуць і з вялікай сілай пафаса выразіць, каб невялікая падзея, факт узрос да сусветнага значэння. Вазьміце класікаў. Вазьміце класічнага прадстаўніка паэзіі Гайне. Кожны твор яго поўны пэўнай думкай, пэўным пачуццём, пэўнай ідэяй, а нашыя многія творы поўны, але толькі агульшчыны і хадульнасці.

Але ёсць у нас цэлы шэраг твораў, якія сведчаць, што паэзія наша ўзнімаецца на вышыню сапраўднага рэволюцыйнага пафаса. Гэта творы нашых лепшых пролетарскіх, совецкіх пісьменнікаў.

Хаця кожны паэт у любую эпоху мае багаты матэрыял для сваёе творчасці (зразумела, паэт, які звязвае свой лёс з лёсам прагрэсіўнага рэволюцыйнага класа), аднак-жа паэты мінулых пакаленняў былі абмежаваны ўмовамі тае рэчаіснасці, у якой яны жылі. Рэчаіснасць убогая, бедная скоўвала і абмяжоўвала творчыя мажлівасці паэта. У якіх умовах жыў і працаваў такі выдатны паэт—рэволюцыянер, як Гайнрых Гайне? У лепшыя часы свае творчае дзейнасці, калі Гайне быў звязаны з рэволюцыйнай барацьбой на барыкадах у 1848 годзе, у дні свае дружбы з Марксам, Гайне ўзнімаўся на вялікую паэтычную вышыню. Але Гайне абкружала нянавісная яму бюргерская, мяшчанская, тупая Германія. Гэта дало права Пісараву пра ўмовы работы Гайне пісаць наступнае:

„Перад вамі стаіць жывапісец. На палітры яго гараць фарбы нябачанай яркасці, ён узмахнуў пэндзлем, і праз дзве хвіліны вам усміхаецца з палатна, або нават проста са сцяны, цудоўная жаночая фізіяномія, на вас глядзяць дэманічна страстныя вочы агіднага сатыра... Потым усё замазана чорнаю фарбаю, і сам мастак аглядаецца і глядзіць на вас з выключна сумнай усмешкай... Вы пытаеце ў мастака з паважлівай разгубленасцю, нашто

ён губіць сваё ўласнае надзвычайнае стварэнне і нашто ён пры ўсім выключным таленце гуляе і дурэе фарбамі, замест таго, каб узяцца за вялікую і моцную работу.

— Няма чаго рабіць,—адказвае вам мастак;—няма сюжэтаў,— растлумачвае мастак. Разгубленасць ваша павялічваецца, і вы шчыра пярэчыце, што сюжэтаў усюды і заўсёды можна знайсці безліч...

— Сюжэтам,—кажа ён з дакорам, выразна падкрэсліваючы кожнае слова,—я называю такую думку, якая ўладае ўсёй маёй істотай і не дае мне супакою ні днём, ні ноччу да тых пор, пакуль я не вырву яе з сябе і не прыкую да палатна. Такіх сюжэтаў я не бачу і не адчуваю ў атмасферы, што акружае мяне". Якія вялікія, трагічныя ўмовы жыцця і працы былі ў Гайне, калі ён казаў: „няма чаго рабіць".

Гледзячы на нашу выключна гераічную і выключна багатую эпоху, смешна ўспамінаць тыя часы, калі мастак гаварыў, што няма сюжэтаў. Якое багацце тэм, ідэй, сюжэтаў, фарбаў, вобразаў для мастакоў нашага часу! Яны найшчаслівейшыя з пісьменнікаў света. У гісторыі чалавецтва ні адзін з пісьменнікаў не меў такіх спрыяльных, такіх выключных умоў для вялікае творчае работы, якую маюць совецкія пісьменнікі. Вось чаму нам трэба змагацца за тое, каб паэзія была магутнага зместа, каб паэты выкарыстоўвалі ўсё багацце тэм, ідэй, фарбаў, сюжэтаў, якімі поўна совецкая рэчаіснасць. Вось чаму нам трэба змагацца супроць голага агітатарства, супроць эстэтызма, сантыментальнасці рознага рода. Нам патрэбна паэзія выключна баявая, выключна ўзброеная на бязлітаснае змаганне супроць ворагаў пролетарыята.

Як Гайнрых Гайне ацэньваў сваю ролю паэта:

„Я сапраўды не ведаю, ці варты я таго, каб мне калі-небудзь упрыгожалі труну лаўровым вянком. Паэзія, як ні любіў я яе, была для мяне заўжды толькі святой цацкай, або святым сродкам для нябесных мэт. Я ніколі не прыдаваў вялікай цаны славе паэта, і хваліць або ганіць будуць мае песні, мяне гэта мала трывожыць. Але я жадаю, каб на труну маю паклалі меч таму, што я быў храбрым салдатам у вайне за шчасце чалавецтва".

Совецкім паэтам трэба імкнуцца зрабіць сваю паэзію такой, каб яна была вострай зброяй, вострым мячом у змаганні за лепшую будучыню чалавецтва. Наша паэзія павінна быць вострай зброяй у змаганні за тыя ідэалы, што вызначаны чалавецтву класікамі марксізма-ленінізма—Марксам, Энгельсам, Леніным, Сталіным. Нашыя паэты павінны быць храбрымі салдатамі ў барацьбе за комуністычнае грамадства.

## Некаторыя моманты пaслякастрычніцкага развіцця беларускае паэзіі

Што мы мелі ў беларускай паэзіі некалькі год таму назад? Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі пачаўся шпаркі і інтэнсіўны рост літаратуры і мастацтва. Кастрычніцкая рэволюцыя ўзняла пласты

рабочых і сялян да вялікае творчае работы. Кастрычніцкая рэволюцыя высунула багата новых талентаў з асяроддзя працоўных. Пасля Кастрычніцкае рэволюцыі найбольш буйным пролетарскім паэтам, які быў узгадаваны ў змаганні за Совецкую Беларусь, у змаганні супроць імперыялістычных акупанцкіх банд, з'яўляўся Міхась Чарот. Творы Міхася Чарота поўны пафасу змагання эксплаатуемых мас за пролетарскую рэволюцыю на фронтах грамадзянскай вайны. Творы Міхася Чарота паказвалі ўсё пакутнае мінулае, чым была старая Беларусь, і як яна ў бойках, у віхурах з лапцюжнай Беларусі ператварылася ў Беларусь рэволюцыйных паўстанняў, у Беларусь партызанскага руху, у Беларусь, што змагалася супроць белапольскіх і нямецкіх акупантаў, у Беларусь, што вяла змаганне з унутранай прадажніцкай нацыяналістычнай контррэволюцыяй. Міхась Чарот у сваёй паэме „Комсамолія" ў баявых і мужных радках адлюстроўвае гераізм, самаахвярнасць, з якой комсамольцы вёскі ідуць на змаганне за маладую соцыялістычную рэспубліку. Пачатак паэмы дае вобразы вясковых хлапцоў у зрэбных світках, якія здольны на вялікі гераізм:

„Вёска дрэмле: вечар ліпнёвы[1]
Толькі вуліцы звонкі смех..
У лапці абутыя з ліп новых
Едуць яны на начлег.

І вось комсамольцы-партызаны загарэліся помстаю на тых, хто перажкаджае ім будаваць маладую рэспубліку:

„Загарэліся хлопцы помстаю,
Калі гэтак—адплата не грэх,
Хто з касой, хто з сякераю востраю.
Вышлі ў пушчу на новы начлег.

Звоніць пушча зноў рэзудалымі,
Зноў шугае на вогнішчы корч,
Калі трэба, то раз ударым мы.
Ты маўчы, чорнавокая ноч.

Чаму мы так высока цэнім гэтыя радкі Міхася Чарота? Таму што ў іх Чарот пранікнуты вялікай сілай любві да комсамольцаў-партызанаў, вялікай сілай адданасці да тае гераічнае справы, якую робяць комсамольцы-партызаны, таму, што гэтыя радкі поўны вялікага паэтычнага пафасу.

Міхась Чарот пасля Кастрычніцкай рэволюцыі быў не адзіны. Нараджаецца новае пакаленне маладых рэволюцыйных паэтаў. За Міхасём Чаротам выступае Паўлюк Трус, Андрэй Александровіч, Крапіва. Паўлюк Трус, пішучы пра грамадзянскую вайну, ішоў па тэй-жа паэтычнай лініі, па якой ішоў і Міхась Чарот. Творы яго пра партызанаў, пра юных арлянят-комсамольцаў, пра іх адвагу і сілу ў змаганні.

[1] У большасці вершаваных вытрымак парушана аўтарская разбіўка радкоў.

Александровіч унёс ў маладую паэзію дынаміку гарадскога жыцця, паказаў моманты жыцця пролетарыяту горада, што асабліва вылучала яго сярод іншых паэтаў. Творчасць Крапівы на этапе аднаўленчага перыяда, адыграла вялікую ролю ва ўсталяванні новых культурных форм жыцця на вёсцы, у змаганні супроць сілы рэлігійнага ўплыву, супроць п'янства і інш. Крапіва паказаў сябе моцным, вострым і кваліфікаваным сатырыкам. Маладая рэволюцыйная літаратурная плынь правільна супроцьстаўляла свае погляды буржуазна-нацыяналістычным поглядам старога пакалення беларускай літаратуры. Яны, рэволюцыйныя паэты, у мастацкай форме змаглі разбурыць тое статычнае, цягучае, лірычна-сантыментальнае, што характарызавала горшых прадстаўнікоў старой беларускай літаратуры.

Маладая рэволюцыйная літаратурная плынь правяла велізарнае змаганне, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, супроць паэтычных прадстаўнікоў нацыянал-дэмакратызму, супроць паэтаў тыпа Дубоўкі, Пушчы, якія ў сваёй творчасці культывавалі старыя літаратурныя каноны горшых прадстаўнікоў дарэволюцыйнай літаратуры. Асноўным зместам творчасці буржуазна-нацыяналістычных пісьменнікаў з'яўлялася тэма „роднай краіны“, „бацькаўшчыны“ ў нацыяналістычным разуменні яе. Гэтыя пісьменнікі ўсе мажлівыя прыёмы і метады выкарыстоўвалі для сваіх контррэволюцыйных нацыяналістычных мэт, для нацыяналістычнай прапаведзі. Увесь свой сарказм нацыяналістычныя „рыцары“ накіроўвалі на высмейванне заваёў дыктатуры пролетарыята. Гэтыя праявы контррэволюцыйнага буржуазнага нацыяналізма, нацыяналістычныя настроі маюць яшчэ месца і цяпер на паэтычным фронце. Нельга тут не прыгадаць такіх нацыяналістаў у паэзіі, як Лужанін, Таўбін, Астапенка, Астрэйка. Гэтыя паэты карысталіся найбольш формамі маскіроўкі ў сваіх творах. Контррэволюцыянер Астрэйка піша паэму пра Бенгалію. У ёй літаральна спісвае з антысовецкіх паэм Дубоўкі і, апрача таго, алегарычна пад умовы капіталістычнае эксплаатацыі і прыгнёту ў Бенгаліі падстаўляецца... Совецкая Беларусь. Так кулацкі абаронца Астрэйка пераліцоўвае творы кулацкага абаронцы Дубоўкі, ужываючы форму маскіроўкі, характэрную для цяперашняга этапа змагання класавых ворагаў супроць пролетарскай рэволюцыі. А вазьміце такіх паэтаў, як Лужанін, Таўбін, Астапенка. Ці-ж не хавалі яны за эстэтызм буржуазнага тыпа, за голы фармалізм, за голую фразеалагічную паэзію свае варожыя класавыя мэты? Зразумела, што рэшткі нацыяналістычных тэндэнцый і нацыяналістычных праяў будуць выяўляцца на літаратурным фронце і надалей, і нам трэба быць пільнымі, паказаць як за рознымі фармалістычнымі выкрунтасамі хаваецца буржуазны нацыяналізм, расшыфроўваць класавага ворага. Удар па рознага рода нацыяналізмах павінен быць нанесен моцны і сакрушальны. Паэтычны фронт павінен быць узброены, каб самым рашучым чынам вырваць і вымесці са свайго асяроддзя

буржуазных нацыяналістаў, каб з усёй сілай змагацца з нацыяналізмам, як з самай ганебнай спадчынай мінулага. Паэт, які хоча працаваць на карысць соцыялізма, не павінен рабіць ніводнае ўступкі нацыяналізму, а наадварот—павінен усю сілу, увесь свой тэмперамент накіраваць на змаганне з праклятай спадчынай буржуазнага нацыяналізма.

## Далейшы рост паэзіі

Сёння наша паэзія куды больш багатая па сваіх колькасных памерах і якасці, ніж некалькі гадоў таму назад. Наша паэзія, якая расла ў класавых бойках, увесь час мужнела і ўдасканальвалася. Наша паэзія ў працэсе свойго роста крытычна скарыстоўвала ўсё тое лепшае, што ёсць у старой дарэволюцыйнай паэзіі; нашы паэты вучыліся, набывалі новыя формы, новыя творчыя асаблівасці. Цяпер ёсць у нас разгорнуты і вялікі паэтычны фронт. Колькасць нашых паэтаў, зразумела, не вымяраецца пяццю, шасцю асобамі, як гэта сцвярджае т. Глебка ў дыскусійным артыкуле, надрукованым у газеце „Літаратура і мастацтва". Маем узросшую і па якасці і па колькасці паэтычную прадукцыю. Але справа іншая, што гэтая прадукцыя нас цалкам задаволіць не можа. Эпоха грандыёзная, а якасць паэзіі адстае ад эпохі. Асноўныя недахопы нашае паэзіі вынікаюць з таго, што яна недастаткова глыбокая, што яна часамі поўная агульных фраз, у ёй часта мала канкрэтнае распрацоўкі пэўнае тэмы, пэўнага жыццёвага факта. Форма нашых паэтычных твораў вельмі і вельмі недасканалая, а сустракаюцца і зусім непісьменныя творы. Эўфанічны, гукавы, рытмічны бок паэтычнага мастацтва распрацоўваецца слаба, мова паэтычных твораў часта неахайная. Мала ў нашай паэзіі вялікіх пытанняў, вялікіх кардынальных праблем нашага часу.

Тав. Глебка ў сваім артыкуле падзяляе нашу паэзію на чатыры кірункі. Цяжка зразумець, што тав. Глебка кладзе ў аснову гэтага падзела. Тыя адзнакі, пра якія ён гаворыць, больш стасуюцца творчага аблічча кожнага з паэтаў, бо, як вядома ўжо, кожны паэт мае сваё, асабліваe, адменнае, што адрозніваe яго ад іншых. Менавіта гэта Глебка зблытаў з пытаннямі кірунка ў паэзіі. Напрыклад, адзін з кірункаў, вызначаных Глебкам, у прадстаўнікі якога ён залічае Андрэя Александровіча і Пятруся Броўку, вызначаецца, на думку Глебкі, „актуальнасцю тэматыкі, насычанасцю трывогамі і радасцямі нашых дзён, простым і прачулым падыходам да рэчаіснасці".

Але які-ж гэта паэтычны напрамак? Гэтыя якасці павінны быць якасцямі кожнага паэта нашага часу.

Перад намі творчасць пролетарскага паэта Андрэя *Александровіча*. Паспрабуем разабрацца, чым-жа сапраўды характэрна яна і якія асноўныя якасці вылучаюць яе з ліку іншых твораў паэзіі. Найбольш цікавым творам у Александровіча, з'яўляецца

паэма „Цені на сонцы“. У паэме яскрава вызначыліся рысы творчасці Александровіча, якія забяспечаць мастацкае, поўнае развіццё паэта. Гэты твор—вострая сатыра на нашых ворагаў. Ён кожным сваім радком высмейвае, б'е „цені“, што падпаўзлі на совецкае сонца. Уся нянавісць паэта накіравана супроць ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва. Александровіч рэдка шаржуе ворага, наадварот, ён паказвае ворага поўна, усебакова. Александровіч піша ў паэме верш у духу добрага старога эстэтызма, каб праз гэты верш выявіць паэта буржуазнай школы. Ён паказвае той знадворны бляск, знадворную слоўную акрасу, за якую „цені“ хаваюць сваю шкодніцкую і нацыяналістычную дзейнасць. Сіла гіроніі, сіла сатыры з'яўляецца вялікай зброяй у літаратурнай дзейнасці Андрэя Александровіча. У гэтым дадатная якасць паэмы „Цені на сонцы“. Там, дзе Александровіч гаворыць лірычным вершам пра нашае будаўніцтва, пра нашыя творчыя палёты, атрымліваецца таксама пераканальна. Наогул форма паэмы „Цені на сонцы“ выразная і ясная. Уступ да паказа агідных „ценяў“ у паэме пачынаецца адлюстраваннем тых вялікіх будаўнічых працэсаў, што адбываюцца ў краіне Советаў:

Краіна родная, совецкая краіна,
Табе я ў песнях сэрца аддаю.
Ты красуеш ростам рыштаванняў
Творчай працы гартаваных сіл.
Ты ў агні шчаслівага світання,
Быццам раніцай на небе небасхіл.

Гэтыя паэтычныя радкі ясна фармулююць тую думку, якую Александровіч хоча выразіць. Гэта шчырыя лірычныя дачыненні да нашага соцыялістычнага будавання. Твор „Цені на сонцы“ па сваёй фармальнай, кампазіцыйнай пабудове ясны, просты.

Да ліку лепшых твораў Андрэя Александровіча належаць яшчэ такія творы, як „Фабрыка смерці“ (апошняя рэдакцыя), верш „Сасна“ і з драматычных твораў п'еса „Напор“. Што-ж найбольш характэрнае для ўсіх гэтых твораў Александровіча? Характэрная рыса гэтых твораў, як і ўсёй творчасці Андрэя Александровіча, што паэт сваю творчасць самым шчыльным чынам звязвае з тымі актуальнейшымі праблемамі, якія высоўвае на кожным этапе будаўніцтва пролетарыят, партыя. Александровіч сваю творчасць уключае ў працэсы змагання супроць класавых ворагаў пролетарыята. Творы Александровіча дапамагаюць нашай партыі ў яе змаганні за соцыялістычнае будаўніцтва. Асноўныя творы паэта характэрны таксама і простасцю формы і менавіта таму яны знайшлі сабе шматлікага чытача сярод працоўных мас. Александровіч ёсць адна з асноўных вядучых фігур паэтычнага фронта, і таму мы да творчасці яго падыходзім з вялікімі патрабаваннямі. Дадатным у творах Александровіча з'яўляецца вялікі пафас, з якім паэт ставіцца да рэчаіснасці, яснасць і стройнасць паэтычнай формы. Вазьміце для прыклада верш

„Фабрыка смерці". У вершы вялікая сіла нянавісці да фашыстоўскіх эксплаататараў, да фашыстоўскіх „цывілізатараў":

Краіна родная! Дарогі крыжавыя!
Гудзеце гоманам нахмураных прысад:
Польшча сёння, як царская Расія,
Краіна смерці, краіна цёмных крат.

Творчасць Александровіча, яе палітычную актуальнасць мы высока ацэньваем. Але ў радзе твораў Александровіча выяўляюцца моманты фармалізма, і пра гэта трэба проста і адкрыта сказаць паэту, асабліва ў паэме „Хлебная зіма".

Больш дасканалым і мастацкім з'яўляецца твор Александровіча „Пагранічная вясна". Найбольш яркія і мастацкія моманты ў паэме тыя, дзе Александровіч у простай, яснай, песеннай, дынамічнай форме заклікае:

І чуе сэрца гул падземны:
Сей агонь,
Падымайся пад'ярэмны,
Сей агонь!
У далінах Віслы, Шары
Сей агонь!
Край збярэ ўраджай пажараў,
Сей агонь!
Больш агню—запалу болей,
Сей агонь!
Воля родзіцца ў падполлі,
Сей агонь!

Аднак, і ў гэтай паэме ёсць лішняя цвятлівасць, знарок ужыта багата эпітэтаў, метафар, якія толькі перашкаджаюць агульнаму развіццю паэмы.

Мастацка-пераканальнай і ўдалай трэба лічыць п'есу „Напор", хаця яна са сцэнічнага боку мае шмат недахопаў. У п'есе „Напор" правільны падыход да нашае соцыялістычнае моладзі. Асноўныя супярэчнасці, выяўленыя Александровічам у асяроддзі нашае моладзі, характэрны і для іншых п ес пролетарскай драматургіі. У прыватнасці „Дзяўчаты нашай краіны" украінскага драматурга Мікітэнкі пабудаваны на тых-жа канфліктах, як і п'еса „Напор". Цяжкасць задачы, якая стаяла перад Александровічам у п'есе „Напор", была ў тым, што асноўныя канфлікты трэба было вырашыць у вершаванай форме. Мы павінны цаніць п'есу Александровіча яшчэ і таму, што ў ёй Александровіч упяршыню, бадай, сур'ёзна ўзяўся за распрацоўку рабочае тэматыкі, тэматыкі пра нашу вытворчую заводскую моладзь, пра комсамол.

Мы завастраем увагу на тым адмоўным, што ёсць у творчасці Андрэя Александровіча таму, што творчасць Александровіча папулярная сярод рабочых і сялянскіх мас. На прыкладах творчасці Александровіча вучыцца наша паэтычная моладзь, вось чаму мы павінны клапаціцца пра тое, каб гэта моладзь

вучылася на тым дадатным, што ёсць у творчасці Александровіча, а не на тых горшых прыкладах яго творчасці, якія трэба паэту перамагаць.

За прыклад таго, як тэму соцыялістычнага будаўніцтва трэба асэнсоўваць на канкрэтным і рэальным матэрыяле нашага часу, можна ўзяць верш Міхася Чарота „Сын партызана". Гэты верш таксама можа служыць за прыклад, як трэба будаваць кампазіцыю паэтычнага твора. Зразумела, гэты верш Міхася Чарота мае значныя хібы. Але ў ім гучыць той сапраўдны чаротаўскі паэтычны голас, які мы з такою любоўю слухаем у паэме „Босыя на вогнішчы" і „Комсамолія". Верш „Сын партызана" разгортвае жыццё маладога комсамольца з дня яго нараджэння да першых гадоў сталае і свядомае будаўнічае работы. Гэта гады прызыва ў Чырвоную армію. Малады комсамолец паказаны ў змаганні за калгас, раней яшчэ паказаны дзіцячыя яго гады, успрыманне ім факта смерці ў партызанскім атрадзе бацькі. Першая частка гэтага верша канчаецца там, дзе сын партызана ўпершыню свядома ідзе змагацца за тую справу, за якую памёр яго бацька:

Я, партызан, заветы помню
Геройства крок іх быў вялікі,
Для іх найлепшы будзе помнік—
У бой іспі, як большэвік.
Мы зломім ворага калоны
Пераплывем крывавы вір...
Непераможны стан чырвоны,
Ваюем мы за вечны мір.

Можна было-б прывесці і слабыя мясціны з гэтага верша. Але асноўным з'яўляецца тое, што гэты верш напісаны ў простай, яснай і даступнай форме. Верш паказвае, што паэзія Чарота мае вялікія магчымасці для свайго развіцця.

Кампазіцыйная выразнасць твора, вастрыня і яркасць вобразаў, прастасць і даступнасць формы з'яўляюцца момантамі вельмі важнымі ў паэтычным мастацтве. За прыклад, як трэба верш будаваць на канкрэтным матэрыяле рэчаіснасці, можна прывесці верш Кандрата Крапівы, напісаны да 1 мая 1930 г. Якія канкрэтныя факты кладзе Кандрат Крапіва ў аснову свайго верша. Першая страфа ў яго вершы пабудавана на гастрыні, кантрастнай гастрыні слоўнага вобраза:

Зелень з чырванню ў размове,
Май да нас прышоў у госці.
Недарэмна й вы, панове,
Зелянееце—ад злосці.

Крапіва для свайго верша скарыстоўвае ліст калгаснікаў Баброўні да пана Бернацкага. Парабкі пана Бернацкага напісалі такі ліст, ад якога пан Бернацкі ажно вые. Кантрастнасць і сатырычная гастрыня слоўнага вобраза выяўляюцца асабліва ярка *там, дзе Кандрат* Крапіва гаворыць пра папу Пія, „намесніка

бога“, які „мовай маўзера святога абяцаў нам рай нябесны“ Вось што піша пра папу Крапіва:

Не малыя-ж мы ўжо й самі,
Рай будуем свой без папы
І паслалі папу к... маме,
Прэч ад нас святыя лапы!

Другі верш Кандрата Крапівы „Праметэй“, што прысвечаны барацьбе працоўных Заходняй Беларусі супроць сваіх ворагаў, у сэнсе канкрэтнасці і выразнасці пабудовы паказальна для нашае паэзіі.

Але адным з выдатных вершаў Крапівы з'яўляецца верш, накіраваны супроць нацыянал-фашысцкіх гандляроў лёсам Заходняй Беларусі—Луцкевіча і Астроўскага. Мала ў нас такіх ясных, сатырычных вершаў, накіраваных супроць нацыянал-фашыстаў. Крапіва будуе свой верш на зусім натуральнай алегорыі: ён называе Луцкевіча і Астроўскага нацыяналістычнай сукай польскага фашызма. Можа для некаторых эстэтаў ад паэзіі гэта будзе за груба. Але на наш погляд Крапіва робіць правільна. Ён называе Астроўскага, Луцкевіча іхнымі натуральнымі заслужонымі імёнамі. Гэтыя шчырыя служакі фашыстоўскіх банд, Астроўскі і Луцкевіч, зруйнаваны сілаю Крапівінае сатыры. Вось пра Луцкевіча:

Ён на кухню ваяводы
Дасканала знае ходы:
Пан Луцкевіч гаў, гаў,
Каб Кіртыкліс даў.
Ваяводу ён дагодзіць:
Так на задніх лапках ходзіць,
Так лісліва, віль, віль...
„Пан Луцкевіч, піль!“

Пан Кіртыкліс такі злітаваўся над гэтым „рахманым псом“, які так старанна прадае інтарэсы рабочых і сялян Зах. Беларусі:

Пёс рахманы, ды ласкавы,—
Даць яму вянгліны й кавы!
Пан Луцкевіч еж, еж,
Будзеш гаўкаць лепш.
Вось яшчэ кілішак вудкі.
А цяпер пашоў да будкі.
Пан Луцкевіч, ляж, ляж!
— Я, паночак, ваш!

Але грозна гучыць прысуд Крапівы над гэтымі нацыянал-фашысцкімі псамі:

Ланцугі аднак-жа рвуцца:
Будзе пану, будзе й сучцы.
Будуць суку біць, біць,
Будзе з панам выць.

Крапіва знішчае сілай свае сатыры нацыянал-фашыстаў—Луцкевіча і Астроўскага. Гэты верш Крапівы ў працоўных мас Заходняе Беларусі будзе выклікаць агіду і нянавісць да нацыянал-фашысцкіх сук.

## Пра жанры і віды нашае паэзіі

Цікавы працэс адбываецца з жанрамі і відамі паэтычнае творчасці. Совецкая паэзія распрацоўвае два асноўныя віды паэтычнага мастацтва: лірыку і эпас. Асаблівую ролю набывае ў апошнія часы эпас. Эпічныя віды творчасці хвалююць і ўсё больш і больш зацікаўліваюць нашых паэтаў. Лірыка ў совецкай паэзіі мае тры асноўныя кірункі. Абстрактная павярхоўная лірыка, якая знайшла на пэўны час месца ў совецкай паэзіі, цяпер памірае, выжываецца з паэтычнага асяроддзя. Лірыка індывідуалістычная, псіхалагічна-утрыраваная—з'яўляецца справай невялікае колькасці пісьменнікаў—буржуазных эстэтаў. Але нарадзілася і нараджаецца ўжо новая лірыка—лірыка соцыялістычная, якая па-новаму асэнсоўвае праблемы жыцця, смерці, дружбы, кахання і інш. Такая лірыка мае вялікія перспектывы. Жанры паэзіі, якія развіваюцца ўнутры асноўных двух відаў паэтычнае дзейнасці—лірыкі і эпаса, перацярпелі вялікую якасную змену. Жанры ў старым сэнсе гэтага слова: паэма, вершаваная аповесць, вершаваная эпапея, альбо з невялікіх памераў—верш па сутнасці прынялі зусім іншы выгляд і ўзор. Многія-ж з жанраў паэзіі, што раней былі распаўсюджаны, цяпер паміраюць, але адначасова нараджаюцца новыя паэтычныя жанры. Напрыклад, вельмі распаўсюджанай за апошнія часы стала нізка вершаў на пэўную тэму.

Вялікую якасную змену перацярпелі і такія асноўныя віды паэтычнае творчасці, як эпас і лірыка. І эпас і лірыка не развіваюцца ўжо самаізалявана, адгароджана адно ад другога. Мы маем зусім выразны працэс перакрыжавання эпаса і лірыкі.

Асноўнымі характэрнымі адзнакамі эпічнае паэзіі былі: выражэнне ідэі твора праз сістэму персанажных вобразаў, праз дзейных асоб, праз пэўныя сюжэтныя канфлікты, змаганне вобразаў, ідэй і г. д. Ідэя твора выяўлялася ў працэсе аналіза ўсіх гэтых складаных частак вершаванага паэтычнага твора. Эпічная паэзія гадамі выпрацавала свой арыгінальны тон, свае манеры.

Асноўнымі-ж характэрнымі адзнакамі лірычнае паэзіі было: паэт сустракаецца з светам, з рэчаіснасцю, з светабудовай сам-на-сам. Сам паэт усёй сваёй істотай выяўляе сваё дачыненне, свае адносіны да света, да людзей, да прыроды, да соцыяльных працэсаў, па сістэмы сведабудовы. Паэт гаворыць сваім уласным лірычным голасам пра нашу эпоху.

І вось цяпер мы бачым, што ні лірыка і ні эпас у чыстым сваім выглядзе не існуюць, бадай, у нашай паэзіі. У эпічныя творы ўносяцца моманты лірыкі. Адбываецца перакрыжаванне эпаса і лірыкі. Эпічны паэтычны твор вельмі часта перапыняецца лірычным адхіленнем ад імя самога паэта. У эпічны твор уносяць моманты лірычнай паэзіі дзейныя асобы твора. Адбываецца і адваротны працэс: у лірычных творах выкарыстоўваецца тон і манеры твора эпічнага. За прыклад можна прывесці верш

„Хаўтуры“ Аркадзя Куляшова. Верш па сваёй форме лірычны, але самы тон і манера разгортвання верша ўзяты з эпічнае паэзіі.

Вышэй ужо гаварылася, што за гады пасля рэволюцыі адбылася вялікая якасная змена ў жанрах паэзіі. Бадай зусім памірае такі жанр лірыкі, як ода. Рэволыцыя наша, соцыялістычнае будаўніцтва не патрабуе голай одычнай хвальбы. Нам патрэбна глыбокая лірычная паэзія. Маякоўскі быў найбольш выдатны прадстаўнік гэтага жанра і на працягу доўгага часу яшчэ культываваў рэволюцыйную оду, але цяпер ода ўсё больш і больш адмірае. Эпас, лірыка маюць вялікія перспектывы для свайго развіцця. А ўнутры гэтых відаў паэтычнай творчасці на развіццё маюць тыя жанры вялікую перспектыву, якія найбольш глыбока і найбольш пафасна адлюстроўваюць соцыялістычнае будаўніцтва. Наогул-жа, мы не павінны ігнараваць ні аднаго з тых жанраў, якія існуюць у нашай паэзіі. Наадварот, усё больш і больш развіваць іх. Соцыялістычны рэалізм не ігнаруе ні аднаго з жанраў паэзіі, пачынаючы ад вялікай паэтычнай эпапеі і канчаючы песняй, эпіграмай. З новых жанраў паэзіі ў нас нараджаецца лірыка-патэтычная паэзія, творы, што спалучаюць глыбокую лірычнасць з патэтыкай (якая часткова ідзе нават ад оды, праўда, мае іншы выгляд і новую якасць). Прадстаўніком лірыка-патэтычнай паэзіі ў расійскай літаратуры з'яўляецца паэт Уладзімір Лугаўской, а ў беларускай совецкай паэзіі Пятрусь Броўка.

Асноўнай дадатнай якасцю творчасці Пятруся Броўкі з'яўляецца тое, што ў апошніх сваіх творах ён тэму асэнсоўвае канкрэтна, пачуццёва, вобразна. У Пятруся Броўкі—лірычныя дачыненні да чалавека, што перабудоўвае свет. Пятрусь Броўка верыць у творчыя мажлівасці гэтага чалавека, ён захапляецца ім, любіць яго, радуецца за яго перамогі і сумуе яго сумам. У Пятруся Броўкі, асабліва ў апошніх яго творах, ёсць страстнасць і мужнасць, якая гэтак патрэбна многім нашым паэтам. Лірычныя дачыненні да будаўніка соцыялізма перакрыжоўваюцца ў паэта з нянавісцю да нашых класавых ворагаў, сілай пратэста супроць здзекаў над ахвярамі фашыстоўскага тэрора, паэтычнай сілай любові да чырвоных партызан, чырвонагвардзейцаў, чырвонаармейцаў, загартаваных у бойках грамадзянскай вайны. З ліка вершаў пра першае мае верш Пятруся Броўкі вылучаецца як лепшы. Пятрусь Броўка на канкрэтных людзях паставіў праблему інтэрнацыянальнай еднасці паміж living рознымі нацыянальнасцямі Совецкага саюза. У дзень першага мая—беларус, грузін, украінец, туркмен—кожны з іх горды за свае рэспублікі—рэспублікі магутнае соцыялістычнае будоўлі, рэспублікі магутнае сельскае гаспадаркі, рэспублікі радасці, кветак, сонца. Аднак, верш гэты пры ўсіх сваіх дадатных паэтычных якасцях зроблены далёка недасканала. Дрэнным у вершы з'яўляецца тое, што ў ім усе прадстаўнікі розных нацыянальнасцяй хваляцца, бадай, адным што іх краіны багаты: дзяўчатамі, садамі, песнямі, акрамя экзатычных асаблівасцяй кожнай краіны паасобку. Зразумела, ёсць

пэўная ненатуральнасць і ў самой кампазіцыі верша. Але гэта ўсё з'яўляецца другарадным у параўнанні з асноўнай ідэяй твора.

Бядняк Грузіі, які пакутваў над кітменем, які павінен быў ісці да кулака ў кабалу, цяпер выпрастаў свой стан, цяпер можа пэўна сказаць, што Грузія—яго.

Рабочы і селянін—украінец, беларус, туркмен, што працавалі ў мінулым на памешчыка, капіталіста, кулака—цяпер выпростваюць свой стан і могуць пэўна сказаць—Украіна, Беларусь, Туркменія належыць ім.

Чым-жа была паэзія Броўкі раней? Пятрусь Броўка прайшоў складаны шлях у сваёй творчасці. Ад прымітыўных, абстрактных, беспачуццёвых, „звышіндустрыяльных“ вершаў на першых этапах свае творчае дзейнасці—да лірыкі новага чалавека. На мінулых этапах свае творчасці ў Пятруся Броўкі побач з рабочай тэматыкай, якая сваімі карэннямі ўрастала ў фабрыкі, заводы,—панавала выключная схема, беспадстаўнае захапленне „молатамі“, „сталлю“.

Мне сонца сёння домна,
А цэх мая радзіма.
Бі, молат шматтонны,
Бі, молат, без спачыну.
Кавадла, будзь гартованым,
Крушыся, сталь, вужакаю.
Да выхаду гатовы мы.
З касілкамі, жняяркамі.

Чым характэрны такія вершы, якія Пятрусь Броўка пісаў некалькі год таму назад? Тым, што ў іх выключная ідэйная пустата, тым, што ў іх на ўсе лады дэкламуецца „кавадла гартаванае“, „сталь вужакаю“, тым, што ў іх беспадстаўнае захапленне домнамі, молатамі, і за гэтымі домнамі, молатамі пісьменнік не бачыць людзей, што твораць новы, выключны па сваіх маштабах і грандыёзнасці, соцыялістычны свет.

Мы цвёрдымі калонамі
Рабіць прышлі не жартамі.
Хай дым і гар заслонамі,
Працуйце, вентылятары.

Што перашкаджала творчаму росту Пятруся Броўкі на тым этапе? Адсутнасць паэтычнае культуры, упартае вучобы, павярхоўнасць і неглыбокасць светапогляда. Адсюль і ішло гэтае голае „заводскае“ фіксатарства, адсюль і ішла такая бесклапотнасць у дачыненні да рабочых, што працуюць на заводзе, у дачыненні да працэса вытворчасці. Паэту, бачыце, усёроўна: „Хай дым і гар заслонамі, працуйце, вентылятары“. Пры тым узроўні паэтычнай культуры і светапогляда, на якім стаяў Пятрусь Броўка, такія вершы былі для яго зусім натуральнымі. Яшчэ зусім нядаўна Пятрусь Броўка ў вершы „Цэхавыя будні“ прагульшчыка характарызаваў так:

І ходзіць вясёлы, як сцелька п'яны,
Ноч прамільгнулася паўлітроўкай.
Кліча гудок, прагульшчык не ўстане.

Адкуль бралася ў Броўкі тут сістэма такой грубай локальнасці вобразу, што ён дагаварваецца аж да таго, што, „Ноч прамільгнула паўлітроўкаю“. Гэтая грубая локальнасць вобраза ішла ад узкага ўзроўня паэтычнае тэхнікі, паэтычнае культуры. Тое, што адсутнасць паэтычнае тэхнікі, паэтычнае культуры вельмі і вельмі перашкаджала расці такому таленвітаму паэту, як Пятрусь Броўка, на гэтае паказвае адзін з добрых вершаў Пятруся Броўкі, гэта - верш „Гады, як шторм“. Вось у гэтым лепшым вершы Пятруся Броўкі багата нелагічных і нават непісьменных мясцін. Напрыклад, Броўка піша: „сэрца забілася ў тысячы зор“. Альбо пра Леніна: „стаў мільёнаў надзейны матор“. Альбо: „Мы вышлі ўсе вінтоўкаю і ломам пабудаваць жыццё і даглядзець“. Гэты вобраз неарганічны, няправільны, які скрыўляе сэнс тае думкі, якую хацеў выразіць паэт. Калі жыццё пачаць даглядаць ломам, дык не вельмі здарава будзе для самога жыцця.

Пятрусь Броўка больш, ніж іншыя паэты, упарта працаваў, каб перамагчы абстрактнасць, агульшчыну, непатрэбную і лішнюю індустрыяльшчыну, што гэтак панавала ў яго ранейшых творах. Пятрусь Броўка, без пявялічэння можна сказаць, вырас як паэт удвойчы. Пятрусь Броўка, адкідаючы непатрэбную агульшчыну і схему, паводле якой ён будаваў свой верш, пакінуў сабе рабочую тэматыку. І гэта дадатная з'ява ў яго творчасці. Пятрусь Броўка, адкідаючы ўбогасць формы сваіх ранейшых вершаў, пакінуў сабе актуальнасць і баявізм верша. Пятрусь Броўка набыў лірычны голас і перакрыжаваў гэтую сваю лірычнасць з патэтычнай мужнасцю і страстнасцю.

Паэт гаворыць пра зямлю. Яна паўстае перад ім, як жывая, яна стаіць на каленях, яна хоча раджаць багатыя ўраджаі. Зямля просіць укласці яе грудзі цёплым гноем, „каб жар у грудзёх не пагас“. Праз гэтую суб'ектыўную сустрэчу паэта з зямлёю ён хоча мабілізаваць увагу калгасніка, работніка соцыялістычнага земляробства на добрую дасканалую апрацоўку зямлі. Ён як-бы разам з зямлёю просіць новага ўладара, новага чалавека, што прышоў на соцыялістычныя палі, зразумець зямлю, даглядаць яе, любіць яе, каб з яе-ж скарыстаць вялікі плён.

І чалавек, новы гаспадар зямлі, зразумеў голас зямлі:

Мы-ж цябе зразумелі, зямля,
Кормім гноем цябе,
Кормім каліем,
Каб ты кожнае лета цяжарнай была
Не адным, а трыма ўраджаямі.

Гэты верш трэба лічыць за лепшы лірычны твор. І калі параўноўваеш верш Броўкі „Зямля“ з вершам, дзе ён абстрактна ўсхваляе кавадла, каваля, молат, дык бачыш выключны рост Пятруся Броўкі як паэта.

Пятрусь Броўка робіць вялікую і карысную работу ў нашым партыйным друку. Пятрусь Броўка сістэматычна супрацоўнічае там. Пятрусь Броўка піша творы на актуальнейшыя тэмы соцыя-

лістычнага будаўніцтва і класавага змагання. Гэта творы пра пасеўную кампанію, пра ўборку ўраджаю, пра жніво, творы, што паказваюць актывізацыю класава-варожых, кулацкіх сіл на вёсцы. У творах Пятрусь Броўка паэтызуе, усхваляе тое дадатнае, што ёсць у нашым грандыёзным будаўніцтве на вёсцы. Да ліку такіх вершаў належыць цыкл вершаў Пятруся Броўкі „Вясна і людзі". Вершы гэтыя тэхнічна апрацаваны. У вершах „Вясна і людзі" Пятрусь Броўка бярэ канкрэтных герояў веснавое сяўбы, якія, перамагаючы недаверлівасць многіх калгаснікаў, перамагаючы кулацкую хлусню, вышлі на змаганне за звышранню сяўбу, вышлі на змаганне за соцыялістычны ўраджай. Сярод гэтых людзей—першым Байлук Сцяпан. Байлук Сцяпан шмат гора бачыў, таму ён не можа ўсім сэрцам, усімі сваімі пачуццямі, істотай не любіць новы соцыялістычны лад:

Байлук Сцяпан! Ці помніш ты
Хаду Бярозай і Дзвіной?
Па рэчцы сумна йдуць плыты,
І ты скілееш за кармой.
Байлук Сцяпан, ты гора знаў:
Ці раз у дарозе цябе град біў?

Гэты, пакрыўджаны ў мінулым, чалавек, пайшоў за новым соцыялістычным ладам. Ён з'яўляецца адным з перадавых змагароў за веснавую сяўбу. Пятрусь Броўка з паэтычнай шчырасцю і любоўю ставіцца да Сцяпана Байлука, таму, што паэт не стаіць у баку ад тае справы, якую робіць Байлук Сцяпан, таму, што ён сам кроўна зацікаўлены ў перамозе таго лада, якому гісторыяй прызначана весці чалавецтва наперад.

Так ад краю да краю
Неабдымнымі гонямі,
Склаўшы сілы упартыя
І магутныя сродкі,—
Мы ішлі трактарамі,
Мы праходзілі конямі
Праз вясну
Пераможнай другой пяцігодкі.

Такія вершы на актуальнейшыя тэмы нашага будаўніцтва Пятрусь Броўка сумленна апрацоўвае. І гэта надзвычай важна, бо нам патрэбны вершы на актуальнейшыя тэмы соцыялістычнага будаўніцтва выключнай мастацкай вышыні.

Самым, бадай, лепшым вершам апошняга часу ў Пятруся Броўкі трэба лічыць верш „Праз горы і стэп". Гэты верш з'яўляецца лепшым таму, што ў ім выяўляецца страстнасць, пачуццёвасць, сіла любові да чырвонаармейцаў Самарскай дывізіі, якія праз горы і стэп, бураны, тыфус, белыя банды—правеслі выключную адданасць справе пролетарскай рэволюцыі. Патэтычнасць, узнёснасць гэтага верша апраўдвае сама тэма гераічнага змагання каля Мінеральных Вод чырвонаармейцаў Самарскай.

Паэт патэтыкай любові гарыць да гераічных чырвонаармейцаў і патэтыкай нянавісці да іх ворагаў:

Дзе ты, лепшы наш доктар і брат, Бандарэнка?
Помніш ты, помніш ты,
Камандзір эскадрону, таварыш Сізоў
Голы выскачыў з шабляй на аснежаны пляц,
Праклінаючы ўсіх і чарцей і багоў
У непрытомнасці зваў ваяваць.

Гэтыя паэтычныя ўспаміны абвеяны сумам па загінуўшых на фронце таварышах, паказваюць гераізм, самаахвярнасць, на якую былі здольны рэволюцыянеры-чырвонаармейцы:

Помніш ты, як Войнаў у трызненні глыбокім
З ложка кінуўся вобзем і расплюшчаным ніц,
Плакаў дзіцем, што недзе далёка
Сямірэчча пылае ў агні.

Аднак, нават і гэты лепшы твор Пятруся Броўкі гаворыць пра тое, што трэба загастрыць увагу паэта на яшчэ большае аўладанне паэтычнай тэхнікай, на яшчэ больш дасканалую апрацоўку кожнага радка, кожнага слова, кожнага вобраза паэтычнага твора. А мясцін ненатуральных, паэтычна слаба апрацаваных, недасканала напісаных з боку паэтычнае тэхнікі багата і ў вершы „Праз горы і стэп". От, напрыклад, узор таго, як вобраз будуецца ненатуральна, нежыццёва, а штучна, выдумана:

Едзеш, чуеш трывожны таварыша голас:
— Я на дзікія скалы ўжо больш не хадок.—
Скажа так і пакоціцца труп яго долу...

Альбо: „вецер грае разлучыну шалёным тустэпам". Гэты тустэп, калі ён пераносіцца ў абставіны бою, з'яўляецца абсалютна не на месцы. Нельга тустэп з мяшчанскага асяроддзя пераносіць у абставіны гераічнай і пераможнай барацьбы.

Вялікім недахопам гэтага твора з'яўляецца яшчэ і тое, што ён кампазіцыйна надзвычай раскіданы і нястройна пабудаваны. Цікава, што тыфус, як ён трапляе ў чырвонаармейскія рады, паказваецца ў гэтым, параўнальна невялікім, вершы Броўкі, аж два разы. Прытым у другі раз ён паказваецца слабей, ніж у першы раз. Зразумела, што гэта паслабляе толькі паэтычны паказ. Ёсць яшчэ ў гэтым вершы частка вобразаў штучных, з выкрутасамі, і гэтыя штучныя вобразы перашкаджаюць мастацкасці твора. Гэты верш Броўкі павінен быў быць максымальна скандэнсаваны, максымальна кампактны, а ён, на жаль, залішне раскіданы і расцягнуты.

Нядаўна надрукован урывак з паэмы Пятруся Броўкі пад назвай „Тысяча дзевяцьсот чатырнаццаты". Не будзем дэталёва ўваходзіць у разгляд гэтага новага твора Пятруся Броўкі. Зварачаем увагу толькі на адну новую якасць, якая выяўлена ў гэтым творы Пятруся Броўкі. У нашых многіх паэтаў багата агульшчыны і рытарычнасці, але вельмі мала канкрэтных чала-

вечых вобразаў. Стварэнне канкрэтнага чалавечага вобраза— задача актуальная не толькі для прозы, а і для паэтычнай вяршаванай мастацкай творчасці. Пятрусь Броўка робіць спробу ў гэтым творы паказаць жывы, канкрэтны, пачуццёвы вобраз абрубка імперыялістычнай вайны і паказвае яго надзвычайна ярка, так што мы гэты вобраз уяўляем, бачым, успрымаем яго ўсімі нашымі пачуццямі.

Усе гэтыяададатныя якасці творчасці Пятруся Броўкі паказваюць, што ён стаіць на шляхах правільнага творчага роста.

### Узаемаадносіны эпаса і лірыкі

Эпас і лірыка з'яўляюцца асноўнымі відамі паэтычнай мастацкай творчасці, і ў рамках эпаса і лірыкі развіваюцца жанры паэзіі.

За апошнія часы зацікаўленасць да эпаса ў паэтаў усё больш і болаш узрастае. Калі мы пэўны час пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі і, асабліва, у часы грамадзянскай вайны, мелі вялікую зацікаўленасць да рамантычнай паэзіі, да сваясаблівых рамантычных од, якія ў абстрактнай форме, у абстрактных вобразах усхвалялі перамогу рэволюцыі, ставілі нават перспектывы для перамогі рэволюцыі ў маштабе ўсяго космаса, дык у працэсе нашага соцыялістычнага будаўніцтва ўсё больш пачынае займаць важнае месца лірыка, лірыка-патэтычная творчасць, і за апошнія часы вялікае месца бярэ эпас. Гэта зусім натуральна. Наша паэзія настолькі ўзрасла і акрэпла, яна столькі накапіла фармальнага вопыта, ідэёвага вопыта, што можа сапраўды стварыць вялікі эпічны вершаваны твор пра эпоху.

Мы не маем яшчэ вялікіх эпічных твораў пра соцыялістычнае будаўніцтва, у якіх-бы у чалавечых вобразах праз выяўленне шматгранных пачуццяў і настрояў людзей, праз барацьбу пачуццяў, праз сюжэтныя канфлікты выяўлялася складанасць нашага будаўніцтва.

Аднак зацікаўленасць да эпічнае паэзіі ўсё ўзрастае, і гэта дае нам падставы лічыць, што ў бліжэйшыя часы мы будзем мець вялікі эпічны твор пра соцыялістычнае будаўніцтва. Зацікаўленасць узнікае ў паэтаў да фабульнасці, да сюжэтных твораў. Але справа ў тым, што паэты гэтак, як і празаікі, дрэнна ўмеюць будаваць сюжэт, фабулу твора. Зазвычай нашы празаікі і паэты не ўладаюць мастацтвам адбора найбольш характэрных тыповых фактаў і канфліктаў для мастацкага твора. Усё, што напісана ў кампазіцыйна-настройнай форме, уключаецца ў твор. Вельмі мала яшчэ твораў у паэтычнай творчасці кампазіцыйна добра пабудаваных, сюжэтных і фабульных.

Разам з зацікаўленасцю да эпічнае паэзіі пачынае ўсё больш і больш у паэзію ўваходзіць мова гутарковая. Гэта ў совецкай паэзіі з'ява не новая. Можна прывесці прыклады з твораў Маякоўскага, Сельвінскага, у іх мова гутарковая паэтызуецца, і яны

дасягнулі пэўнае мастацкае вышыні ў распрацоўцы мовы гутарковай. Гэта з'ява не адмоўная, калі яна будзе адбывацца разам з ростам лірычных элементаў ў паэзіі. Некаторыя нават прабуюць скарыстаць тон старагрэцкага класічнага эпаса. І, зразумела, неарганічнасць паміж праблемамі, ідэямі, якія выражае паэт, з формаю, з тонам твора, выяўляюцца яскрава.

Адсюль зразумела, што тон і манеры старых эпапей нельга выкарыстаць да новых ідэй і новага матар'яла совецкае рэчаіснасці, а таксама неадпаведнасць паміж зместам і тонам эпаса выяўляецца часамі ў Аркадзя Куляшова.

У многіх паэтаў эпас пачынае займаць галоўнае месца. Але і другі працэс адбываецца, і мы ўжо пра гэта гаварылі вышэй. Гэта—перакрыжаванне эпаса і лірыкі. У працэсе перакрыжавання эпаса і лірыкі, у працэсе паэтызацыі мовы гутарковай выяўляецца адна вельмі важная пагроза для эпічнае паэзіі. Гэта пагроза звядзення эпаса да звычайнае жыццёвае празаічнае размовы.

Культываванне эпаса ёсць найбольш у такіх паэтаў, як Аркадзь Куляшоў і Алесь Зарыцкі. Гэтыя два маладыя паэты ўнеслі дадатныя якасці ў беларускую совецкую паэзію.

У Аркадзя Куляшова арыгінальная рытміка, арыгінальны склад верша, у Куляшова арыгінальна і па-новаму распрацоўваецца тэма. Асноўным-жа для творчасці Куляшова з'яўляецца тое, што паэт гаворыць сам-на-сам з прыродай. Паэзія Куляшова ідзе ад лясоў, палёў, густых парэчкавых рашчын, вялікага голаса жывое прыроды. Нельга сказаць, каб гэтыя пазіцыі Куляшова былі цалкам правільнымі. У многіх сваіх частках паэзія Куляшова з'яўляецца біялагічнай, імкнецца абыйсці, абмінуць грамадскія чалавечыя працэсы, грамадскія адносіны. На Куляшова вялікі ўплыў мела ранейшая творчасць Эдуарда Багрыцкага. Усё гэта яскрава выявілася ў паэме „Крыўда". А паэма „Крыўда" была ў творчым развіцці Аркадзя Куляшова важным крокам. Наогул, да паэмы „Крыўда", Куляшова, як паэта, не існавала, а ў паэме Аркадзь Куляшоў знайшоў сваясаблівы тон, манеру творчасці, непадобную на манеру творчасці іншых паэтаў. Але тое, што Куляшоў у сваёй творчасці імкнуўся абыйсці грамадскія працэсы чалавечае дзейнасці, весці свае вобразы ад прыроды, ад зямлі, ад усяго таго, чым жыве свет, так званы, непасрэдны і „незакуты ў рамкі грамадскіх працэсаў", гэта было вялікім палітычным зрывам у творчай дзейнасці Аркадзя Куляшова. Гэта прывяло да таго, што „Крыўда" па сутнасці стала творам пацыфічным.

„Крыўда" паэма пра імперыялістычную вайну, паэма пра жахі імперыялістычнай вайны. Куляшоў паказвае пераважна гэтыя жахі вайны, не як жахі, што ідуць ад соцыяльнага лада капіталістычнай сістэмы, а як жахі, што ідуць ад самае прыроды. Людзям адрываюць ногі, рукі, атручваюць вочы газам, людзі прыдуць пакалечанымі дахаты, яны не змогуць даглядаць свае гаспадаркі, скаціну не змогуць выйсці „роснымі раніцамі за плугам на поле". Адсюль трагедыя чалавека. І ён помсціць,

переважна, за гэтую сваю біялагічную крыўду, за тое, што ў яго адабралі яго прыродную мужнасць і загартаванасць. І вось, у наіўным разуменні паэта, калекі, па сутнасці бездапаможныя, сабраліся, каб пайсці помсціць „усім генералам“, што адарвалі ім рукі, ногі, што газам пакалечылі ім вочы. Нам вядома, што здаровы і мужны клас чалавечай гісторыі—пралетарыят знішчыў той лад, які параджаў вайну. Яго сама гісторыя паклікала разбурыць увесь той паганы лад, што ўсталяваны капіталістычным грамадствам. А Аркадзь Куляшоў наіўна верыць, што гэтыя пакалечаныя вайной людзі могуць адпомсціць „усім генералам“.

Але-ж паэма „Крыўда“ мае багата выключных па лірычнай сіле мясцін. Менавіта, лірычных мясцін, у эпічным творы. Тут мы якраз падыходзім да факта перакрыжавання эпаса і лірыкі. У Аркадзя Куляшова выявілася яна найбольш яскрава. Тонам эпаса ў паэтычным творы ён дае значныя ўзоры лірыкі.

Аркадзь Куляшоў піша пра людзей пакалечаных, якія цягаліся ў дзесяцярох па свеце, хадзілі аж да Кіцяжа-града, шукалі паратунку, але нідзе не знайшлі яго:

Жыццё іх сумнейшае за лістапад—
Бязногія, бязрукія, сляпыя.
Ляжалі яны ў лазарэтах і больніцах,
Кульгалі яны па дарогах знаёмых
І цела кіямі сваё падпіралі.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Ляжалі яны на шляхох і вылі пад
Ветрам, пад снегам, пад дымам, пад пылам.

Усю трагедыю людзей, пакалечаных капіталістычным светам, Куляшоў адчувае ярка і паэтычна. Эпічнай сілай і размахам вее ад яго радкоў пра калек, што ідуць і шосты, і сёмы, і восьмы тыдзень, каб толькі адпомсціць людзям, што зрабілі іх калекамі. Адчуванне смерці, жудасць перад смерцю пакалечанага вайной чалавека ў мастацкіх паэтычных вобразах паказвае Аркадзь Куляшоў.

Цемень.. Цемень... Сонца дзе?
Сонца няма, сонца ў крыві...
Маці! Маці! Прынясі свой светлы дзень
Ад лясоў блакітных і чыстых крыніц.
Маці! Напаследак сыну,
Прынясі вады і кудзеры пагладзь...
Будзе рад вачам тваім ён сінім...

Лірычная шматкаляровасць, паэтычная шматадчувальнасць, разуменне чалавечае псіхалогіі характарызуе гэтую паэму Аркадзя Куляшова.

Нядаўна вышла з друку паэма Аркадзя Куляшова „Аманал“. Замысел паэмы правільны і актуальны. У паэме Аркадзь Куляшоў хацеў паказаць класавае змаганне на вёсцы. Два перыяды ў развіцці НЭП'а. Першы перыяд, калі капіталістычныя элементы мелі некаторую, праўда абмежаваную, мажлівасць для

свайго развіцця, і другі перыяд НЭП'а—рэканструкцыйны перыяд соцыялістычнага будаўніцтва, калі палітыка абмежавання эксплаататарскай мажлівасці кулака перайшла ў палітыку ліквідацыі кулацтва, як класа. Куляшоў паказвае, як на вёсцы і ў горадзе адбываецца актывізацыя класава-варожых элементаў. У паэме Куляшоў паказвае кулака, які пралез у калгас на працу за бухгалтара. У паэме багата арыгінальнага, пачынаючы ад рытмікі і канчаючы другараднымі праблемамі і пытаннямі, што закрануты ў паэме. Арыгінальным у паэме з'яўляецца паказ жыцця і лёсу настаўніка, што скончыў жыццё самагубствам, паказ гандляра, юнака, шкодніцтва ў данбасаўскіх шахтах, у эпічных строфах паказана ярка і пераканальна. Але як мастацкае цэлае гэта паэма Аркадзя Куляшова з'яўляецца няўдалай. „Аманал" паэма кампазіцыйна і фабульна раскіданая, нястройная, у паэме багата наіўнага, непераканальнага і, галоўнае, у ёй выявілася небяспека, якая мае простае дачыненне да ўсяе эпічнае паэзіі. Гэта залішняе захапленне празаізмамі, што часамі прыводзіць паэзію да звычайнае гутарковае празаічнае мовы. Аднак тут-жа павінен заявіць, што не згодны ні са сцверджаннямі Глебкі, ні Маракова пра тое, што, быццам-бы паэзія Куляшова і Зарыцкага „разбурае дашчэнту спецыфічную розніцу паміж вершамі і прозай". Наадварот, тое, што Аркадзь Куляшоў і Алесь Зарыцкі культывуюць празаічную гутаркавую мову ў паэзіі, тое, што яны ў сваіх вершах выкарыстоўваюць элементы мастацкай прозы, гэтым яны ўзбагацілі нашу паэзію, пашырылі яе кругагляд і мастацкія сродкі. Але зразумела, што нават добрая справа, калі перахапіць меру, можа пераходзіць у сваю процілегласць. А тое, што празаічная гутарковая мова, якая адыгрывае агулам станоўчую ролю ў паэзіі Куляшова, часамі разбурае паэтычнасць і лірычную сілу страфы, гэта з'яўляецца зусім правільным. Вось прыклад з паэмы „Аманал".

Ён адразу прызнаў галоўнага,
Як сярод чарцят прызнаюць д'ябла,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Вы будзеце ў іх за арганізатара?
— Так, якая ў вас да мяне патрэба?
— Бачыце, мы думаем наладзіць заўтра
Антыбабтыцкі дыспут, нам трэба
Мець супрацоўніка...

Гэтае наўмыснае звядзенне паэтычнае страфы да звычайнае гутарковае прозы, гэтае наўмыснае адмаўленне ад рыфмы і бадай ад рытму, ад вобразаў, эпітэтаў, метафар, параўнанняў сапраўды разбурае, у гэтым выпадку, спецыфічную розніцу паміж паэзіяй і „жыццёвай прозай".

Паэма „Аманал", якая з'яўляецца ў цэлым творам наіўным і няўдалым, мае асобныя мясціны паэтычнай сілы і пафаса. Чытач можа прыгадаць момант смерці настаўніка, які здрадзіў свайму найлепшаму таварышу Міколе і пашоў у ворагі рэво-

люцыі. Гэты чалавек, які не верыць у сілы рэволюцыі, які ўвесь час кажа, што „чуе голас патайны, голас з-пад Эйфелевай вежы, што мы рэволюцыю прытаптталі і на мапе света тыя-ж межы", гэты чалавек, які здрадзіўшы рэволюцыі, падставіў пад ворагаў кольт рэволюцыянера Міколу,—скончыў жыццё самагубствам. Паэтычна Куляшоў паказвае смерць Міколы, якога „адпявалі рагатыя трубы, рассыпаючы сумнай медзі дождж". Найлепшая-ж апошняя частка паэмы, дзе паказваецца, як Юнак, Зоталь Агут, Маладосць капаюць фасфарыты, як яны становяцца тварам у твар з прыродай і перамагаюць яе.

Аркадзь Куляшоў уладае добра мастацтвам паказа дэталі. Паказ дэталі, часткі, паэтызацыя асобнае невялікае з'явы з'яўляецца справай цяжкай і патрабуе вялікага паэтычнага вопыта. Якраз многія нашы паэты ярка паказаць дэталь з'явы альбо рэчы не могуць. У паэме „Аманал" дзядок просіць трактарыста Зоталя засвяціць „трактарава вока". І паэт так апаэтызаваў трактар, столькі сілы, любасці ўклаў у гэтую машыну, якая па соцыялістычнаму перарабляе вёску, што ён, трактар, паўстае перад намі як жывы са сваім сумным „бычыным вокам". Нашы домны гадуюць трактараву сталь, караблі плывуць па акіянах і сваім грубым акіянскім голасам пераклікаюцца з трактарамі"—гэтак паэтычна Куляшоў паказвае дэталь рэчы або з'явы. У новай няскончанай паэме Куляшова „Гарбун" звычайны самавар, акружаны шклянкамі, настолькі апаэтызаваны, што ён сапраўды паўстае, як жывы. Мы адчуваем, як ён дыхае гарачай парай. Мастацтва паказваць дэталь, асобную з'яву, павінна стаць справай кожнага сапраўднага паэта.

Прасторам, сілай, вее ад тых асобных момантаў у паэме Аркадзя Куляшова „Аманал", дзе Куляшоў сапраўды спалучае лірыку з эпічнасцю:

А на радзіме Калюжнага пачыналася жніво.
Пахла зямля коласам, кмінам, кропам.
А па небе не плыло аблачыны ніводнай.
І стары дзядок складаў снапы ў копы.
Праз поле бег ласіны табун, ён бег адтуль,
Дзе лес стаяў стары самотны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А стары дзядок не дагнаўся за імі,
Спатыкнуўся і паваліўся торчма,
Ад зямлі пахла кропам...
І тады заплакаў ён дзяцінымі слязмі.
Згадваючы дзяцінства нейкую дробязь.

Захапленне голасам жывое прыроды, звярамі, дзіччу лясоў, палёў, балот, глыбокае адпуванне сілы прыроды, характэрнейшая адзнака паэтычнага таленту Куляшова. Але гэтая адзнака небяспечная ў тым сэнсе, што яна прыводзіць часамі паэта да ігнаравання света соцыяльных працэсаў і класавых дачыненняў у грамадстве. Нават у новай паэме Куляшова „Гарбун" гэтая прыроднасць вельмі часта перакрывае сутнасць тых вялікіх пра-

цэсаў, якія паказваюцца ў паэме. Гэтак якраз характарызуюцца 13 сялян, што злучыліся ў комуну, каб працаваць на калектыўнай зямлі, каб адпомсціць сваім ворагам-кулакам, эсэрам. На чале з Гарбуном яны ідуць у дождж, у непагоду:

Расла навала, як дзікун.
Гром рагатаў над Сожам,
Пад ім скакаў рыбак-гарбун
Крычаў:—Мы пераможам.
Як хлыне-ж раптам роспач з траў,
Як сцісне сэрца крыўда...
Да мяккай купіны прыпаў
І доўга, дзіка выў там.
Вар'яцеў бацька яго—Сож,
Шалела завіруха,
Маланкі бліскалі, а дождж,
А град аб горб біў глуха.

Але не гледзячы на гэту залішнюю прыроднасць вобразаў паэзіі Куляшова, яна, па-першае, мае мастацкую сілу, а па-другое, у гэтай паэме Куляшоў адышоў ад фармалістычнасці і непатрэбных слоўных выкрунтасаў, якія былі характэрнымі для яго паэмы „Аманал“. Форма паэмы „Гарбун“ ясная, стройная, даступная для чытацкіх мас.

Мы гаварылі вышэй, што мастацтва паказа дэталі вялікая справа. Куляшоў дасягнуў пэўных дадатных вынікаў у мастацкім паказе дэталі, з'явы. І ў гэтым ён вучыцца ад класікаў паэзіі, якія выдатна маглі апаэтызаваць кожную дробязь свае рэчаіснасці. Ці-ж нашы паэты не могуць навучыцца высока паэтызаваць дэталі нашага будаўніцтва, якое мае сусветна-гістарычнае значэнне? Могуць і павінны.

Адменнай ад творчасці Аркадзя Куляшова з'яўляецца паэзія Алеся Зарыцкага. Звяртаем увагу на дадатнае значэнне тэматыкі творчасці Алеся Зарыцкага. У Алеся Зарыцкага тэматыка соцыялістычнай вытворчасці. Эпас і лірыка, што перакрыжоўваюцца ў паэзіі Зарыцкага, не „індустрыяльна-чыгунныя“. Лірычнасць Алеся Зарыцкага пабудавана на веданні соцыялістычнай вытворчасці, адданасці і глыбокай любові да будаўніка соцыялізма. Алесь Зарыцкі, пранікнуты пачуццём пашаны да старога парткомаўца латыша, да старога большэвіка на вытворчасці, да маладога комсамольца, якія ў вею, у сцюжу, у холад, у мароз не пакідаюць свайго баявога вытворчага паста. Алесь Зарыцкі ведае людзей соцыялістычнай вытворчасці, гаворыць пра гэтых людзей сваім адменным паэтычным голасам, і кожны з гэтых людзей пра нашу эпоху гаворыць таксама сваім адменным голасам. Алесь Зарыцкі не ідэалізуе вобраз старога рабочага, ён паказвае яго такім, які жыве ўсімі пачуццямі, адчуваннямі жывога чалавека эпохі. Стары большэвік Піліп Андрыянаў, які разам з „Кругасветным“ працаваў у мароз, у сцюжу, калі сталь да крыві ўядалася ў рукі, уначы, як малое дзіця, трызніць, і яму здаецца,

што каманда кліча старога салдата ў бой. Ён чуе словы каманды. Гэта вытворчасць кліча яго да сябе, гэта завод кліча яго ў бой.

За прыклад лірычнасці, якая ўрываецца ў эпічны верш пра „Дзень індустрыялізацыі“ можна прывесці наступнае;

І вецер плыў па чалавечай лавіне
Паўдзёнкы, шчаслівы, ад шыры і моцы.
І рамшчыкі, слесары, апырсканыя пілавіннем,
Цяклі і цяклі да прамоўцы.
Петэр Лейшэ, хмуры латыш,
Ён словы кладзе, як гіры на шалі,
Ён трыста сэрцаў да апошніх вышынь
Узнімае адзін простым сказам.

Некалькімі радкамі ствараецца тут жыццёвы чалавечы вобраз парткомаўца-латыша. У кожным слове гэтых радкоў мы бачым, адчуваем гэтага парткомаўца, бачым яго выгляд, паводзіны. Самае дадатнае ў паэзіі Алеся Зарыцкага тое, што ён не фетышызуе завод, не фетышызуе машыну, ён бачыць тых рэальных людзей, якія кіруюць гэтымі машынамі, якія з'яўляюцца больш мудрымі, чым машыны. Паэт хвалюецца ўсім тым, што хвалюе лепшых прадстаўнікоў нашай соцыялістычнай вытворчасці. Ён адчувае сябе, як роўны сярод роўных у асяроддзі рабочых. Рабочая моладзь у паказе Зарыцкага жыве не толькі вытворчасцю, яна марыць і пра рыбацкі ветразь, і пра сваю маладосць, і пра „зорны касцёр“, але ўсё гэта непадзельна звязана з роднай для іх і блізкай соцыялістычнай вытворчасцю.

Да дому едзем мы ўтрох:
Таганкін прыкархнуў,
Пацей мармоча пра рыбацкі ветразь,
І аўтобус урываецца ў густую масу ветра,
У неўтрапенне зmoраных дарог.
Я думаю пра сваю маладосць і ліцпё
І кранты ліцейні ў вушшу 'шчэ грымяць.
І падае неабдымная ноч на зорны касцёр—
Цёплая і простая, бы каханае імя.

Мы мелі такія ўзоры вершаванай творчасці, калі, пішучы пра вытворчасць, паэты імкнуліся паказаць моманты так. званай „лірычнасці“. Але як гэта „лірычнасць“ дасягалася? Паэт, напрыклад, браў для вырашэння „тэму вытворчага кахання“. Рабілася гэта наступным чынам: ставіліся два „варштацікі“. За адным стаіць „ён“ і апрацоўвае дэталь, за другім стаіць „яна“ ў чырвонай хусцінцы. Яны пераміргваюцца з-за „варштацікаў“. Што атрымлівалася. Атрымлівалася звычайная пашляціна, мяшчанская „паэзія“. У Алеся Зарыцкага лірычнае дачыненне да завода паказана іншым чынгм. Яго рабочы жыве поўным жыццём, шматгранным і шматбаковым, як сапраўдны ўладар новага света. Вось той самы стары рабочы Пілip Андрыянаў, які трызніць, як

дзіцё. Ён сапраўды камандарм вытворчасці на заводзе, а вось дома ён паказаны, як „вялікае бездапаможнае дзіцё“.

І жонка, як дзіцю, казала яму:—спі, спі, спі.
Гэта сівер гудзе, гэта ѓудуць слупы,
Гэта ад марозаў трэскаюцца парканы.
Спі, Піліп Андрыянаў, спі, спі, спі!
Я знаю, Піліп, што было з табой,
Гул слупоў, ні пры чым, і гул марозаў ні пры чым:
Старому салдату часта сніцца бой,
І ён спрасоння словы каманды крычыць.

Алесь Зарыцкі не кананізуе старое паэтычнае формы, ён шукае новых форм паэтычнага выяўлення. Алесь Зарыцкі карыстаецца арыгінальнай рытмікай, строфікай для свайго эпічнага верша, ён багата выкарыстоўвае, і, трэба сказаць удала, гутарковую мову. Вось прыклад, як у вершы былы беспрытульны размаўляе з пісьменнікам, што прыехаў на завод:

Я электрык Мікола Ярош, разумееце?
А за тое, што быў я раней уркачом,
Беспрытульным бадзягай шал·ўся па свеце,
За гэта завуць мяне 'шчэ Кругасветным.
І можа быць ёсць у вас закурыць?
Я свае сігарэты выпадкова пакінуў дома.

Такую гутарковую мову эпічныя прадстаўнікі нашае паэзіі павінны абавязкова выкарыстоўваць, уводзіць у свае паэтычныя творы, таму, што яны ўносяць паэтычную рознастайнасць у верш і шматвобразнасць.

Вышэй гаварылася пра адменныя якасці паэзіі Алеся Зарыцкага ў параўнанні з Куляшовым. Але ў Алеся Зарыцкага і ў Аркадзя Куляшова ёсць багата агульнага. Агульнае выяўляецца ў паэтызацыі мовы гутарковай, другое ў эпічных прыёмах творчасці, і трэцяе ў аднолькавых дачыненнях да прыроды. Вось прыклад з верша „Вясна 1929 г.“, дзе дачыненні да прыроды ў Алеся Зарыцкага з'яўляюцца падобнымі да такога ў творах Куляшова.

І няма ўтрапення. Вясна і з ваўчыных яроў
Цягне пахам вільготным зямлі і каліны.
І шырокаю паймай, праз грывы і кручы Дняпро
Бурлячымі кольцамі ідзе да Украіны.

Але не толькі дадатнымі якасцямі характарызуецца творчасць Алеся Зарыцкага. У Алеся Зарыцкага багата непатрэбнага фармалізму, фармалістычных выкрунтасаў. Возьмем, напрыклад, верш „Чыгунная труна“. Алесь Зарыцкі піша пра сына Блішчэцкага, які прышоў у заўком, каб па-новаму, па-пролетарскаму пахаваць свайго бацьку, што далёка ў дарэволюцыйныя гады быў жывым пахаваны ў растопленым чыгуне. Фармалізм перашкаджае Алесю Зарыцкаму вытрымаць гэты верш у адным плане да самага

канца. У сярэдзіне верша аўтар перапыняе развіццё тэмы і пачынае, як ён піша сам, „смактаць аловак“ і прасіць у верша:

Паўзходзь—хаця чвэртку слова.
Паўзходзь—асьмушку ўсмешкі.
Верш маўчыць, ён сквапны на сонца,
І разгон метафар грызе знямога,
І буры ў ім зусім недастатковы процант.

Гэта фармалістычнасць не дапамагае, а затрымлівае ідэйнае развіццё верша, з‘яўляецца непатрэбным дадаткам да верша.

Год таму назад Алесь Зарыцкі напісаў цыкл лірычных вершаў пра каханне. Гэтыя лірычныя вершы на тым этапе развіцця нашай паэзіі мелі пэўнае значэнне, бо яны па-новаму паказвалі заежджаную ўсімі мяшчанамі тэму пра каханне. Зарыцкі напісаў шэраг вершаў пра комсамол, пра фізкультурнікаў, вершаў, якія паказвалі здаровасць, моцнасць маладога пакалення, што будуе социялізм. Гэта моцнае і здаровае пакаленне маладых большэвікоў мае права моцна кахаць і моцна ненавідзець. Такая асноўная думка паэта.

Падагульваючы тэму ўзаемаадносін эпаса і лірыкі, трэба адзначыць, што эпічная паэзія мае вялікія перспектывы для свайго развіцця, і яшчэ большыя перспектывы на сваё развіццё мае эпас у спалучэнні з лірыкай.

## Лірыка

У лірыцы пісьменнік гаворыць сваім уласным непасрэдным голасам пра эпоху, пра грамадскія дачыненні, пра класавае змаганне, пра космас, пра светабудову, пра ўсё тое, што з‘яўляецца аб‘ектам чалавечага пазнання і вывучэння. Гаварылася ўжо, што адбываецца працэс пранікнення лірыкі ў эпас і эпаса ў лірыку. Так у лірычнай паэме Янкі Купалы „Над ракою Арэсай“ ёсць багата элементаў эпаса, уведзены нават дзейныя асобы. І ўсё-ж такі гэта паэма лірычная. Паэт-лірык павінен глыбока па філасофску і класава-правільна ацэньваць факты рэчаіснасці. Асабістыя настроі паэта-лірыка павінны супадаць і адпавядаць аб‘ектыўнаму ходу рэчаіснасці. Пранікаючы глыбока ў сутнасць з‘яў, паэт-лірык павінен паказваць фарбы, рысы, адценні душы будаўніка бяскласавага грамадства. Паэт-лірык павінен быць, як і кожны літаратар, па выдатным выразе правадыра партыі тав. Сталіна, „інжынерам чалавечых душ“.

Мы павінны змагацца супроць буржуазнай лірычнай паэзіі, якая замыкае паэта ў свет сваіх асабістых суб‘ектывісцкіх адчуванняў і настрояў, якія з‘яўляюцца далёкімі тым людзям, што гераічна перабудоўваюць свет. Нам патрэбна не лірыка буржуазная, ідэалістычная, нам патрэбна лірыка пролетарская, класавая, насычаная пачуццём любові да нашых таварышоў па класе і пачуццём нянавісці да класавых ворагаў. Усе адчуванні жывое істоты, што будуе социялізм, павінны адлюстроўвацца паэтам-лірыкам.

Паэт-лірык павінен глыбока прадумаць свае думкі і настроі, якія ён перадае праз паперу. Паэт-лірык, калі ён хоча служыць вялікай ідэі соцыялістычнага будаўніцтва, не можа гаварыць, што яго асабістыя складаныя настроі не супадаюць з ходам рэчаіснасці і таму яго лірыка мала даступная масам. Такі паэт не можа служыць пролетарскай рэволюцыі. Паэт-лірык павінен выяўляць тыповыя рысы сваіх настрояў, тыповыя думкі, і гэтыя думкі і настроі павінны адлюстроўваць думкі і настроі пролетарыята.

Метад буржуазнай ідэалістычнай лірыкі заключаецца ў тым, каб багатую жывую рэчаіснасць, шматгранную і шматвобразную, у паэзііператварыць у такую, каб гэта, нібыта „новастворaная“, рэчаіснасць не была падобнай на рэчаіснасць соцыя*лістычную*. Гэта той-жа буржуазна-фармалістычны метад „отстранения“.

Пазіцыі буржуазнай ідэалістычнай лірыкі вельмі характэрны для паэзіі Уладзімера Хадыкі. Яны, гэтыя пазіцыі, яшчэ і да гэтага часу палоняць творчасць Хадыкі.

У Уладзімера Хадыкі—складанасць формы, складанасць пачуццяў. Але Хадыка яшчэ больш імкнецца утрыраваць складанасць сваіх пачуццяў. Уладзімер Хадыка гоніцца за складанымі вобразамі, за такімі вобразамі, якія-б былі незвычайнымі, за такой думкай, якая-б была незразумелай. Уладзімер Хадыка знарок робіць кампазіцыю сваіх твораў разарванай, раскіданай. Ён знарок устанаўлівае складаную лагічную сувязь паміж асобнымі строфамі, вобразамі. Усе гэтыя характэрныя рысы фармалістычнай, буржуазна-ідэалістычнай лірыкі адмоўна характарызуюць паэзію Уладзімера Хадыкі.

Мы павінны папярэдзіць Хадыку, што шлях, на якім ён стаіць цяпер, вядзе ў тупік буржуазнага эпігонства. У творах Хадыкі ўсё,—і складанасць мовы, і складанасць вобразу, і складанасць думкі, і складанасць пачуцця—разлічана на вузкую касту чытачоў, буржуазных эстэтаў. Разам з перабудовай свайго творчага метада перад Хадыкам стаіць вялікая задача перамагчы сваю залежнасць ад буржуазнага светапогляда, ад буржуазна-нацыяналістычнай паэзіі. У гэтым сэнсе перад усёй паэзіяй задача вельмі важная—дапамагчы Хадыку выйсці з залежнасці ад буржуазна-нацыяналістычных пазіцый з тым, каб Уладзімер Хадыка цалкам адышоў ад варожых нам пазіцый. Перад намі задача па-большэвіцку рэзка крытыкаваць буржуазна-ідэёвыя погляды ў паэзіі Хадыкі.

## Узаемаадносіны ў паэзіі разумовага і пачуццёвага

Мы змагаемся за паэзію вялікіх думак і вялікіх пачуццяў. Мы змагаемся за паэзію разумную, у якой адлюстроўваліся-б вялікія філасофскія ідэі нашага часу, якая была-б на вышыні лепшых здабыткаў сусветнае навукі, сусветнае культуры. Вялікі розум павінен быць укладзены ў мастацкі паэтычны твор. Дэвіз, што „паэзія павінна быць дурнаватай“, даўно памёр. Вялікая

разумовая насычанасць павінна пранікаць пролетарскія паэтычныя творы. Але Белінскі ў свой час сказаў, што „не выгадна таксама для таго паэтычнага твора, пра які можна сказаць: разумна, глыбока, але празаічна".

Значыць, не выключна розумам творыцца вялікая мастацкая паэтычная рэч. Патрэбна яшчэ пачуццё, магутны пафас.

У сувязі з пытаннем пра ўзаемаадносіны разумовага і пачуццёвага ў мастацкім творы нас цікавіць паэтычны метад Пятра Глебкі.

У Пятра Глебкі рэзка-рацыяналістычны падыход да сваёй тэмы. Глебка не пачуццёва асэнсоўвае факты і падзеі рэчаіснасці. Паэмы Пятра Глебкі „Арка над акіянам" і „Арлянка" актуальныя па сваёй тэматыцы, правільна кампазіцыйна пабудаваны, нават стройныя, закончаныя, але ў іх рэзка рацыяналістычны разумовы паказ жыццёвых фактаў.

У „Арцы над акіянам" Пятро Глебка паказвае, як адбываецца крушэнне ідэалаў старой буржуазнай інтэлігенцыі і як нараджаецца новая інтэлігенцыя з вялікімі будаўнічымі палётамі. Пятро Глебка ў „Арцы над акіянам" узяў надзвычай сур'ёзную і вялікую тэму нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Замысел гэтае паэмы ставіць прагнозы на будучыню, на гіганцкае развіццё тэхнікі і будаўнічае справы ў бліжэйшыя часы. Але ўсе гэтыя вялікія праблемы былі-б сапраўды паказаны вялікімі толькі ў спалучэнні з паэтычным пафасам. А гэтага якраз не хапае Глебку. Альбо вазьмеце прыклад з паэмы Пятро Глебкі „Арлянка". Гэта твор пра гераічную грамадзянскую вайну. Здавалася-б, што твор павінен быць вялікай страстнасці, прасякнуты сілай пачуцця, а між тым, акрамя асобных мясцін, гэты выключна пісьменны актуальны твор пазбаўлен патрэбнае сілы пачуцця. Ідэя паэмы „Арлянка" вельмі важная і вялікая. У „Арлянцы" падкрэсліваецца класавая еднасць усіх нацыянальнасцяй у змаганні за Совецкую Беларусь. „Арлянка" даводзіць, што змаганне за Совецкую Беларусь ішло наперакор ворагам тыпу Рацкага, якія хацелі раз'яднаць інтэрнацыянальнае адзінства нацыянальнасцяй былой царскай імперыі.

Нашае сцверджанне пра рэзкую рацыяналістычнасць паэзіі Пятра Глебкі нельга прымаць, як абсалютнае. Зразумела, у Пятра Глебкі ёсць багата вершаў, і гэта адчуваецца ў многіх мясцінах паэмы „Арлянка", дзе выяўляецца пафас гераічнага змагання ў дні грамадзянскай вайны, пафас соцыялістычнага будаўніцтва. Акрамя гэтага асноўнай, дадатнай якасцю творчасці Пятра Глебкі з'яўляецца тое, што творы яго пісьменныя, нават пісьменныя да педантычнасці, да кожнай кропкі, да кожнай коскі. А гэта справа ў наш час вельмі важная. І многім паэтам пісьменнасці верша трэба вучыцца ў Глебкі. Паэзія Глебкі за апошнія часы, як тэматычна, так і з мастацкага боку, значна вырасла, і дарма наш друк гэтак мала крытыкуе і разглядае творы Глебкі.

Вялікая большасць твораў паэта напісана пра грамадзянскую вайну, пра нашу соцыялістычную вытворчасць, пра інтэлігенцыю. Сярод гэтых твораў ёсць такія, якія вылучаюцца вялікай пачуццёвасцю і страстнасцю („Трывожны сігнал“).

Паглядзім-жа, чым была паэзія Пятра Глебкі некалькі год таму назад? Глебка пісаў у сваіх вершах „Хада падзей“ пра змены падзей у прыродзе, пра ўдарнікаў, пра прарыў на фронце вытворчасці, але гэтыя вершы ў большасці абстрактныя і неглыбокія.

Зрушана рытміка працы,
Носіцца скогат і скрып.
Б'ецца няроўна пульсацыя
Дзесці трывога, прарыў.

Гэтыя творы Пятра Глебкі па сутнасці былі ідэёва спустошанымі, складаліся яны з агульных лазунговых фраз пра наша будаўніцтва. Другая катэгорыя твораў складалася з рамантычна-сантыментальных дачыненняў да прыроды, да змен падзей у прыродзе. Гэтыя найбольш слабыя бакі творчасці Пятра Глебкі яскрава выявіліся ў паэме „Эма“, паэме пра калектывізацыю. Самая тэма твору на наш погляд наіўная. Маленькая дзяўчынка гадавала сабе карову з цяляці. Выгадавала сваё ўласнае, і вось да гэтага ўласнага не так прыкавана сама Эма, як яе маці, якая ні за што не хоча аддаць карову ў калгас. Тут Эма становіцца энтузіясткай, лепшай ударніцай і прыводзіць карову ў калгас. Акрамя наіўнасці самае тэмы, у паэме багата абстрактнага лазунговага, непераканальнага.

Бо мы гневам змагання гарым,
Сілай мужнай ударнай дэкады,
А ўсмешкай вясновай зары
Усміхаецца наша радасць.

Для кожнага відавочна адсутнасць пэўнае думкі ў гэтай страфе, „усмешкай“ тут усміхаецца „радасць“. І так акрамя гэтае пустое ўсмешкі, якой усміхаецца радасць, ніякае думкі ў страфе няма. Альбо ў другім месцы:

І вось пяцігодкі крок,
Першы яе гудок
Кінуў над краем кліч
Працаўнікам зямлі.
Сілай мільённых мас
Рушым у бой за калгас..,

У Пятро Глебкі ўсё гэта вынікала з адсутнасці вялікага пачуцця, з няведання жыццёвых фактаў, з адсутнасці глыбокае думкі. Адсюль браліся словы найлягчэйшыя і што першымі пападаліся пад руку—мас—калгас. Абстрактнасць і адсутнасць глыбокае думкі і ў Глебкі вельмі часта даходзіла да выключных памераў:

Вывесці вёску на шлях
Светлай калгаснай зары.

Галоўнае, што тут ні слова пра самы калгас, нічога тут няма пра той сапраўдны працэс соцыялістычнае пераробкі, які адбываўся ў вёсцы, а тут гаворка пра нейкую абстрактную зару. І вось калі мы з такімі творамі параўноўваем апошнія творы Пятра Глебкі, паэму „Арка над акіянам", „Арлянка", дык мы бачым, што паэт і ідэйна і мастацкі вырас. Найбольш-жа моцнай у творчасці Глебкі з'яўляецца яго паэма „Трывожны сігнал". Гэтую паэму нельга папракнуць у адсутнасці вялікае сілы пачуцця і пафасу. У паэме „Трывожны сігнал" вялікае драматычнае напружанне. Паэма гэта з'яўляецца адным з лепшых твораў пра грамадзянскую вайну.

У ЧЭКА даведаліся, што белыя адрэзалі шлях для адыхода абоза чырвоных войск. Вялікае хваляванне ў арміі, і вось тут камісар-чэкіст у акружэнні людзей, што варожа глядзяць на яго ў гэты момант, вядзе праз мост цягнік, прычым у яго ёсць весткі, што мост узарваны. Але другога шляху няма. Выключная сіла драматычнасці моманта перадаецца Глебкам яскрава. Традыцыі паэмы „Трывожны сігнал" Глебку трэба працягваць у сваёй творчасці.

У апошнія часы з'явіліся два новыя творы Пятра Глебкі „Пра вясну і рэволюцыю" і „Дваццаты год".

Асноўным недахопам верша „Пра вясну і рэволюцыю" з'яўляецца тое, што ў вершы ўзяты стары вобраз пакінутае маці, вобраз, які па сутнасці ідзе ад нацыяналістычнай паэзіі. Гэтая „здань" пакінутай маці з'яўляецца і ў іншых многіх творах Пятра Глебкі. Нельга гэта лічыць за дадатнае ў творчасці паэта. Па-першае, самы вобраз выспеваны рознымі паэтамі на розныя лады, па-другое, вобраз гэтае сантыментальнае маці з'яўляўся культам для розных нацыяналістычных паэтаў. Праз вобраз сантыментальнае маці ў вершы „Пра вясну і рэволюцыю" губляюцца ўсе мастацкія якасці твору. Вось узор гэтае сантыментальшчыны.

Сынку, сынку, ты пішаш „мужайся"
Абяцаеш вярнуцца дваццатай вясной.
Пакуль тая паводка—
Паводкаю жалю
Захлынецца жыццё мае,
Добранькі мой.

Верш-жа „Дваццаты год" поўны агульных фраз і зноў-жа ў ім гэты сантыментальны вобраз старой маці. У вершы багата непатрэбных голых агітацыйных кантрастаў. Песні, што кампазіцыйна ўплецены ў верш, ствараюць уражанне штучнасці і з'яўляюцца неарыгінальнымі.

За прыклад агульшчыны і непераканальнасці можна прывесці такія радкі:

Каб былі шчаслівы нашы дні,
Я пашоў рэспубліку бараніць,
І не будуць ворагі панаваць,
Пакуль з плеч не скоціцца галава.

Альбо:

Пад музыку плачу,
Праклёны і лямант,
Пад крыкі нядолі,
Пад стогны і енк
Едуць малойчыкі,
Едуць уланы,
Белая армія валіць пад Менск.

Пятру Глебку трэба перамагаць агульшчыну, абстрактнасць, неперакананальнасць, адсутнасць пафасу, халоднасць верша і сантыментальны вобраз пакінутае маці.

Пятру Глебку трэба набываць вялікую пачуццёвую паэтычную сілу, арыгінальнасць і свежасць вобразаў і формы.

## Пра натуралістычнае адлюстраванне рэчаіснасці

Зазвычай, некаторыя пісьменнікі кажуць: „нельга паказваць натуралістычную рэчаіснасць“, „нельга натуралістычна падыходзіць да жыццёвых фактаў“. У наш час пытанне пра „натуралістычную рэчаіснасць“, пра „натуралістычнае адлюстраванне рэчаіснасці“ паўстае зусім у іншым святле. Наогул, няправільнай з'яўляецца думка, быццам-бы існуе нейкая натуралістычная рэчаіснасць. Зразумела, могуць быць пісьменнікі натуралісты, але натуралістычнай рэчаіснасці не існуе. І пытанне пра натуралістычнае адлюстраванне рэчаіснасці ў час магутнага будаўніцтва соцыялізма паўстае зусім у іншым выглядзе. Сапраўдны мастак слова, калі ён зразумеў, палюбіў соцыялістычную рэчаіснасць, не можа адлюстроўваць яе натуралістычна, бо ў кожным кавалачку савецкага будаўніцтва ад Палескіх балот, дзе адбываецца соцыялістычная рэканструкцыя, да магутных волатаў Кузбаса, Днепрабуда закладзена вялікая, сусветна-гістарычнага значэння, ідэя. Будаўніцтва соцыялізма адбываецца ў кожнай часціне рэчаіснасці. Вось чаму праўдзівы паказ кавалачка гэтае рэчаіснасці перарастае ў сусветнага значэння ідэю. У сувязі з гэтым пытаннем нас цікавіць новая паэма Янкі Купалы „Над ракою Арэсай“.

Лепшыя рэволюцыйныя творы Янкі Купалы, і ў прыватнасці яго паэма „Над ракою Арэсай“, з'явіліся ў выніку велізарнейшых поспехаў на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, дасягнутага рабочым класам пад кіраўніцтвам партыі бальшэвікоў, у выніку ўпартага змагання большэвіцкае партыі, усяго літаратурнага фронта супроць буржуазных нацыяналістаў, якія сваю варожую дзейнасць хавалі за буржуазныя метады літаратурнае творчасці. Гэтыя буржуазныя нацыяналісты імкнуліся спекуляваць часамі і імем Янкі Купалы. І вось паэма „Над ракою Арэсай“ з'явілася ў выніку вялікай пераможнай барацьбы ленінскай партыі супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыяналізму. Паэма „Над ракою Арэсай“ з'явілася ў выніку рэзкай крытыкі з боку партыі і пролетарскай грамадскасці нацыяналістычных памылак Янкі Купалы. Паэма „Над ракою Арэсай“

з'явілася ў выніку стварэння з боку партыі і пісьменніцкае грамадскасці найлепшых і найспрыяльных умоў для творчага развіцця Янкі Купалы.

На прыкладзе паэмы мы бачым, наколькі ідэёва і мастацкі вырас Янка Купала і менавіта таму, што ён павярнуўся да багатай і шматграннай рэволюцыйнай соцыялістычнай рэчаіснасці.

Асноўныя рысы творчасці Янкі Купалы выявіліся ў яго лепшых рэволюцыйных творах, што напісаны ім пасля рашучага павароту ад буржуазнага нацыяналізма да соцыялістычнага будаўніцтва. Якія гэта рысы творчасці Купалы? У лепшых рэволюцыйных творах Янкі Купалы ёсць шырыня ахопа і выражэння людскіх пачуццяў, вялікі паэтычны размах, лёгкасць і даступнасць формы. Гэта можна бачыць у такіх творах Янкі Купалы, як „Сыходзіш вёска з яснай явы", „Суд ідзе", „А ў Вісле плавае тапелец". Але найбольш гэтыя рысы творчасці Янкі Купалы выявіліся ў яго паэме „Над ракою Арэсай". У паэме „Над ракою Арэсай" звяртаюць на сябе ўвагу асаблівасці формы. Тут рытміка народных твораў, лірычнасць, пачуццёвая песеннасць. У патрэбных мясцох Янка Купала ўмее даць і грозную рытмічнасць. Паэма адсвечвае ўсімі адценнямі пачуццяў і думак паэта: тут і лірычная песеннасць, і мужнасць, і ціхі гумар, і выкарыстоўванне, дарэчы, народных шаблонізмаў.

Характарызуючы палітычную і ідэёвую якасць паэмы, трэба сказаць, што яна з'яўляецца новым, вышэйшым этапам у творчым развіцці Янкі Купалы ў параўнанні з яго ранейшымі творамі. Янка Купала паказвае, як на балотныя нетры Палесся ідзе соцыялізм. Янка Купала паказвае, як адвечныя балоты, што паланілі розум селяніна-паляшука, перарабліваюцца мужнасцю і гераічнасцю большэвікоў. Янка Купала паказвае, як новая комуна і соўгас, што ўзраслі на Мар'інскіх балотах, пройдуць у стагоддзі гісторыі. Янка Купала малюе цяжкую, але гераічную работу „па пахі ў вадзе" дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, што аб'ядналіся ў комуну. Паэт паказвае малюнкі побыта, смерці, радасці, гора,—усе чалавечыя перажыванні комунара-соўгасаўца. Янка Купала паказвае вобраз большэвіка Адзярыхі, які „не вучыўся ў ВТУЗ-ах", але праклаў чыгунку ў балотных нетрах.

Мядзведзь смокча лапу ў бярлозе санлівай,
Лось высунуў храпу, шукае спажыву.
Дзік ходзіць з дзічыхай, за ім табун воўчы,
Усялякага ліха ў дзень белы і ўночы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Праз леты і зімы паданне ішло ў векі,
— Паляшукі мы, а не чалавекі.

Янка Купала пачынае з мінулага Палесся. Вобраз каршуна, што глюгу звесіў над згніўшай калодай, нагадаў яму старое Палессе, абрабаванае царскімі чыноўнікамі, бескультурнае, цёмнае, якое жыло паданнямі, дзікімі легендамі, забабонамі. Людзі Палесся праз вякі звалі сябе не людзьмі, а паляшукамі.

Але на непраходныя абшары палескіх балот ступіла нага большэвіка, а раз „ступіў тут большэвік, ён зменіць гэты край“. Дзесяткамі год царскі ўрад у асобе розных генералаў Джэлінскіх біўся над праблемай асушкі балот, і нічога зрабіць не мог, а большэвіцкая энергія, большэвіцкая ўпартасць у адзін-два гады змяніла ўвесь край, багну ператварыла ў пладавітую глебу, на непраходных балотах пабудавала комуну і соўгасы. Янка Купала спявае песню большэвіцкай упартасці і мужнасці:

Зашумела, загуло, бы землятрасенне.
На палескае сяло найшло утрапенне.
Люду хмара наплыла, покліч птушшы ўзвіўся.
Нбам сіняя імгла, скуль яны ўзяліся?
Украінцаў тут гурма й старобінцаў—нашых
Набрыло, як на кірмаш, на бағнаву пашу.

Паэма Янкі Купала „Над ракою Арэсай“ паказвае ў першую чаргу на тое, што сапраўдны мастак слова не можа натуралістычна пісаць пра падзеі і пра факты, якія маюць сусветна-гістарычнае значэнне. На першы погляд паэма „Над ракою Арэсай“, нібыта, рэч натуралістычная, яна паказвае крок за крокам шлях і жыццё комуны і соўгаса на Мар‘інскіх балотах. Але гэта толькі знадворнае ўяўленне, бо самыя факты тае рэчаіснасці, пра якую апавядае нам Янка Купала, настолькі грандыёзныя, што яны самога паэта ўзнімаюць на вялікую ідэёвую вышыню.
Змяняюцца палескія балоты, змяняецца і край. Новыя дачыненні да працы стварылі новыя пабытовыя дачыненні, новыя працэсы і з‘явішчы ў жыцці комунараў. Калі комунары развіталіся з пяцёркай чынгарцаў—гультаёў і лодыраў, пачынаецца далейшая будаўнічая работа. Але для маладое комуны нечага не хапае. Комунары агледзеліся, што жанчын ім не хапае. І на прапанову ехаць кожнаму дахаты і набыць сабе жонку, адказалі:

Трэба, трэба,—стагалосна
Загучэла гулка маса,
Ажно рэха пайшло ў соснах,
Ад тэнораў і ад басаў.

Адно з самых выключных мясцін паэмы,—паказ смерці комунара Барысёнка. Урывак пра смерць комунара Барысёнка напісан выключна ў народных лірычных танах. І Янка Купала дасягае вялікае шчырасці і мастацкае сілы. Над магілай Барысёнка, што загінуў за комунарскі лад, прамову кажа старшыня:

Спі, наш Барысёнка, комунарскі сын!
У сям‘і у нашай быў ты не адзін.
Арміі Чырвонай верны быў салдат,
Полк з цябе быў рады і начальнік рад.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сыпнулі зямлёю на сасновы гроб,
Грабарок уважна курганок нагроб.
Комунаркі з боку плакалі няўзнак,
Свайго комунара шкадавалі так.
Ды йшчэ галасілі бабулі наўмор:
На каго-ж пакінуў, а нашто-ж памёр.

Сілай лірычнае любові да загінуўшага комунара пранікнуты строфы Янкі Купалы. Простасць, яснасць, даступнасць масам формы паэмы робяць яе вялікім укладам у беларускую совецкую паэзію. У Янкі Купалы ў творы няма фармалістычнага мудрагельства, няма фармалістычных выкрунтасаў. Народная рытміка, правобразнасць, лірычная сіла і шчырасць да комуністычнае работы характарызуюць твор Янкі Купалы.

Вялікай лірычнасцю пранікнуты радкі Янкі Купалы пра соўгас, што ўзрос на Мар'інскіх балотах:

Сосны мае, сосны, сягнулі далёка,
Хоць расці над багнай было вам нялёгка.
Выраслі-ж вы буйна ўсяго за тры годы,
Горда узняліся, забуялі горда.

Вышэй гаварылася, што паэма Янкі Купалы „Над ракою Арэсай“ з'яўляецца паэмай лірычнай, не гледзячы на тое, што ў ёй ёсць і дзейныя асобы і значныя элементы эпаса. Але паэт так будуе свой твор, што ў першую чаргу высоўвае свае асабістыя дачыненні да рэчаіснасці, і дзейныя асобы ў творы па сутнасці маюць другараднае значэнне. Звяртаем увагу на тое, што Янка Купала побач з лірычнымі мясцінамі свайго твора ўмее па-майстэрску ўводзіць у паэму элементы эпаса, элементы гутарковае мовы. Можна прывесці такія прыклады, дзе ў паэтычных строфах гутарковая мова ў Янкі Купалы гучыць зусім натуральна, як у жывой мове:

З усіх вашых прамоў, мне ясна тут адно:
З комуны трэ' было іх выключыць даўно,
Але, як проста кажуць, лепш позна, як ніколі...

Альбо:

Аж тут абазваўся громка Адзярыха:
— Будзем мець чыгунку, хай мне будзе ліха.

Такім чынам майстэрствам увядзення ў лірычны твор эпічна гутарковае мовы Янка Купала валодае дасканала. Дасканала Янка Купала ўмее паказаць вобраз чалавека ў лірычнай паэме. Асноўнай ідэяй гэтага твора Янкі Купалы з'яўляецца сцвярджэнне, што комуна і соўгас праходзяць у стагоддзі гісторыі.

Але значныя палітычныя, ідэёвыя і мастацкія промахі ёсць у паэме Янкі Купалы „Над ракою Арэсай“. Асноўным палітычным недахопам паэмы „Над ракою Арэсай“ з'яўляецца тое, што рост комуны і соўгасу не паказаны ў ёй у сувязі са змаганнем супроць капіталістычных элементаў вёскі. Кулацкая актывізацыя ў змаганні супроць новага соцыялістычнага лада ў паэме не адлюстравана. Не паказана, як камуна і соўгас знішчалі ў баі гэтую кулацкую актывізацыю. Адмоўным ў паэме з'яўляецца і тое, што, не гледзячы на вялікую лірычнасць паэмы, у самой форме ёсць адзнакі пасівістычнасці ў дачыненні да рэчаіснасці. Паэт, як-бы ён і не ўдзельнік таго будаўніцтва, што адбываецца ў краіне, а просты сузіральнік, які лірычна і шчыра ставіцца

да гэтага будаўніцтва. Ёсць у паэме элементы пасівістычнай бесклапотнасці ў самым рытме, у самай форме твору.

Хоць паэма цалкам ніяк не з'яўляецца творам натуралістычным, але асобныя мясціны натуралістычныя ёсць тут. Гэта тычыцца тых момантаў, дзе паэт дае, бадай, інвентарны пералік усяго таго, што набыў соўгас за гады свайго існавання. Апрача таго, ёсць шэраг мясцін з мастацкага боку далёка недасканала апрацаваных і проста слабых. Напрыклад:

Як супроць ідучы цяжкасцяй трывожных
Вышлі на шлях роўны, вышлі пераможна.

Агульныя лазунговыя фразы гучаць дысанансам лірычнаму характару ўсяго твора. Гэтыя агульныя фразы з'явіліся ў выніку недастатковай апрацоўкі паэтам асобных мясцін твора. Ёсць мясціны ў паэме празаічныя, неперакананьныя, немастацкія. Напрыклад:

І слова ўзяў і кажа так:
„Тут не прыстанішча ў нас\
Для гультаёў і для гуляк
А месца для працоўных мас".

Такія радкі нікога не могуць пераканаць, бо яны не маюць глыбокага сэнса, пазбаўлены вобразнасці. Між іншым заўважым, што часта, імкнучыся да найбольшае простасці, яснасці і выразнасці літаратурнага вобраза, Янка Купала бярэ празаічныя вобразы. Месца ў паэме, дзе паказваецца выключэнне пяцёх чынгарцаў, найбольш слабае і мала пераканальнае, менавіта таму, што там многа агульна-фразеалагічных прамоў, пазбаўленых вобразнасці і глыбокае думкі. От, гаворыць адзін з комунараў:

Як вам не сорам, як не стыд,
Сябе так весці між братвы!

Пэўнай неперакальнасцю і фразеалагічнасцю грэшыць уступная частка да паэмы „Над ракою Арэсай".

Падагульваючы, трэба сказаць, што паэма Янкі Купалы „Над ракою Арэсай" з'яўляецца вялікім паказчыкам таго, як паэта, што становіцца тварам у твар з вялікай будаўнічай работай эпохі, што шчыра захоплены будаўнічым размахам,—сама эпоха, рачаіснасць ўзнімае на вялікую мастацкую вышыню. Жыццёвы матэрыял нашага часу з'яўляецца ўдзячным для стварэння вялікіх эпапей, вялікіх мастацкіх палотнаў.

## Соцыялістычны рэалізм у паэзіі

Энгельс пісаў: „Рэалізм мае на ўвазе акрамя праўдзівасці дэталяй, правільнасць перадачы тыповых характараў, тыповых абставін".

Гэта сцверджанне Энгельса мае простае дачыненне і да савецкае паэзіі. Агульнае наша патрабаванне да літаратуры, якое стасуецца і да паэзіі, гэта пісаць праўду пра соцыялістыч-

ную рэчаіснасць. Праўдзіва паказваць тыповыя рысы і тыповыя характары эпохі.

Соцыялістычны рэалізм дае права на ўсебаковае развіццё ўсіх жанраў, усіх відаў мастацкае творчасці. Але трэба, каб усе жанры, усе віды мастацкае творчасці былі напоўнены філасофскімі ідэямі часу, думкамі і пачуццямі, якімі жыве перадавы клас чалавечае гісторыі—пролетарыят. Лірычная паэзія мае асабліва вялікія мажлівасці развіцця. Трэба толькі, каб паэты-лірыкі не адыходзілі ў свет асабістых утрыраваных адчуванняў і настрояў, а каб іх думкі і пачуцці былі тыповымі для эпохі. Трэба, каб іх думкі і пачуцці супадалі з думкамі і пачуццямі будаўніка соцыялізма. Соцыялістычны рэалізм патрабуе тыповасці рысаў і дэталяй не толькі ідэйнага боку твора. Соцыялістычны рэалізм патрабуе тыповасці рысаў і дэталяй у рытме, у рыфме, у вобразах, у форме паэтычнага твора. Гаварылася ўжо, што форма паэтычнага твора належыць жыццю, рэчаіснасці, і таму паэт павінен браць для свайго паэтычнага твора такую форму, якая з'яўлялася-б найбольш тыповай і якая-б найбольш правільна паказвала нашу рэчаіснасць. Нам трэба змагацца за форму ясную, простую, выразную, за форму мастацкага твора, даступную мільённым масам чытачоў соцыялістычнай краіны. Гэта і будзе перадача тыповых рысаў і тыповых дэталяй жыцця. Стварэнне літаратуры, даступнай мільёнам, за якую змагаўся Уладзімір Ільіч Ленін, будзе ісці побач з развіццём вялікае творчае інтэнсіўнае дзейнасці кожнае паэтычнае адзінкі. Эпоха соцыялізма ёсць такая эпоха, якая дае права на найбольш поўнае, на найбольш глыбокае развіццё асабістых здольнасцяй, пачуццяў і настрояў чалавека. Але ўсе гэтыя асабістыя здольнасці і настроі чалавека з'яўляюцца момантам яго грамадскай чыннасці, яго грамадскіх дачыненняў. Змагаючыся за літаратуру, даступную мільёнам, трэба змагацца і за новую форму выяўлення новага зместа мастацкага твора. Нельга ў форму старой элегіі ўкладаць новыя ідэі, новыя факты жыцця. Вось чаму нам патрэбна вялікая эксперыментатарская работа паэтаў у галіне формы. Разам з тым трэба змагацца супроць тых фармалістаў, якіх так удала ахарактарызаваў Энгельс: „пасрэднасць імкнецца схаваць шаблонны характар фабулы награмаджэннем штучных дэталяй і ўпрыгожванняў“. Змагацца за сапраўды народную літаратуру, за сапраўды народную паэзію, гэта змагацца за такую літаратуру, якая-б не была справай групкі інтэлігентаў-эстэтаў, а была-б сапраўды справай агульна-пролетарскай. Змагацца за літаратуру даступную мільённым масам, гэта змагацца за метад соцыялістычнага рэалізма ў літаратуры.

### Масавасць паэтычнага фронта, хваробы творчага роста паэтаў

Паэтычны фронт беларускае савецкае літаратуры—масавы фронт. Ён не вымяраецца тэй колькасцю паэтаў, пра якую гаварылася ў гэтым нарысе. На паэтычным фронце працуе некалькі

дзесяткаў паэтаў, большасць з іх, як паэты, маладыя, але дасягнулі пэўных дадатных вынікаў у творчай рабоце. Маладыя паэты перамагаюць горшыя бакі сваёй творчасці, перамагаюць схематызм, перамагаюць мяшчанства, абыватэльшчыну, перамагаюць усё тое, што характарызуе ўплыў буржуазнае паэзіі на совецкую паэзію. Не ўсе творы паэтычнай моладзі аднолькавай якасці. Многія маладыя паэты знаходзяцца ў працэсе творчага роста, і таму іх творы па якасці яшчэ нізкія. Многія здольныя паэты зрываюцца з правільнага шляху развіцця і ўпадаюць у лёгкадумнасць, у лазунговасць, у рытарычнасць. І нарэшце, некаторая частка паэтаў найбольш слаба-кваліфікаваная, не ад таго, каб і пахалтурыць у паэзіі. Супроць гэтых людзей мы павінны весці жорсткае змаганне.

Вялікія адмоўныя якасці, якія выяўляюцца ў творчасці паэта Міколы Хведаровіча, патрабуюць звярнуць на сябе ўвагу. Няма чаго гаварыць пра тое, што сёняшнія вершы Хведаровіча не параўнальны з вершамі 1926-27 г. Але цікавы такія абставіны. У канцы 1932 г. Мікола Хведаровіч выпусціў кніжку „Вайна за мір“. У гэту кніжку ўвайшла частка старых вершаў Хведаровіча. І вось уся кніжка агулам стварае надзвычайна дрэннае ўражанне. Адзін толькі з вершаў гэтае кніжкі з'яўляецца лепшым. Гэта верш „Вялікі паход“. Рэшта вершаў слабыя, а многія нават непісьменныя, пазбаўленыя логікі і сэнса. А між тым Хведаровіч піша тут вершы на вельмі адказныя тэмы, на тэмы абароны краіны. Вось узор верша на тэму абароны краіны, напісанага без сэнса і яшчэ ў форме мяшчанскага раманса:

І ў гэты наструнены час,
Нацяты бікфордавым шнурам,
Спакой, на муштроўку адчай.
У гэты наструнены час...

Хто каго „ў гэты наструнены час“ вывеў на муштроўку так не зразумела, ці спакой—адчай, ці адчай—спакой. Сэнсавая бязглуздзіца, паэт не думае пра якасць свайго верша.

А вось другі прыклад:

Варожыя сілы нас клікалі ў бой
Галодных асілкаў прызыўнай трубкой.

Чаму тут „варожыя сілы клічуць нас у бой“, калі на справе наш-жа клас—пролетарыят клікаў нас у бой. А ў другім месцы самаахвярнасць паэта пераходзіць усялякія межы здаровай логікі:

І мы пакляліся, мой дружа, ізноў,
Галаву з бою аддаць з табой.

Не раз ужо растлумачвалася паэтам, якія пішуць пра грамадзянскую вайну, нічога не ведаючы пра яе, што мудрасць складаецца не з таго, каб абавязкова скласці галаву ў *баю*, і яшчэ клясціся, што ні ў якім разе галаву з бою не прынясеш, наадварот мудрасць складаецца з таго, каб і галаву захаваць і перамагчы.

Ёсць у гэтай кніжцы Міколы Хведаровіча голае, пустое рыфмацтва:

Помніш вады глыток, ізноў у рашучы бой,
Сэрца грыміць трубой, строй падпірае строй.
І мы—мы Макар з табой, сённячы мы Сталінстрой.
Сённячы мы Волхаўстрой, сённячы мы Вахстрой,
А заўтра мы Гомельстрой, і заўтра за гмахам гмах
І заўтра за дахам—дах.

Ці-ж можна такую блытаніну ствараць з гэтым „сённячы" і „заўтрачы", ці-ж можна паэту самахвальна абвяшчаць сябе „пупам света".

Непісьменнасць аўтара прыводзіць да таго, што ён піша:

Толькі байцу не спаць,
Трэба байцу відаць.

Палітычная малапісьменнасць аўтара робіць тое, што рашучасць паэта ў адных месцах, пераходзіць у выключную ліберальнасць у другіх месцах. Так, Хведаровіч аднекуль выкапаў тэорыю, што балахоўцы павінны абавязкова каяцца ў сваіх пагромных дзеяннях:

Айда, братва, дамоў,
За вошта мы (пагромшчыкі—А. К.) лілі невінна кроў.
Ах слёзы, слёзы, слёзынкі.

Гэта балахоўцы лямантуюць пасля пагрома і грабяжа.

Такіх прыкладаў можна было-б прывесці вельмі многа. Але мы былі-б не зусім справядлівымі, калі-б па гэтых творах ацэньвалі сучасную паэтычную дзейнасць Хведаровіча. Новы верш Хведаровіча „Радзіўся чалавек" дадатны ў параўнанні з яго ранейшымі вершамі тым, што ён мае пэўную думку, пэўную ідэю. Аднак з уласцівай для Хведаровіча манерай пераймаць іншых паэтаў ён і на гэты раз ідзе на вялікую залежнасць ад паэзіі Хадыкі. Падабенства з творчасцю Хадыкі выяўляецца ў слоўным матэрыяле, у рытме, у манеры пісьма:

Як мор захопніцтва сцяло
Гарачую узнесласць зрокаў.
Сціскалася тужэй сіло
Прадажных дзедаўскіх аброкаў.

У гэтым-жа творы Хведаровіча шмат незразумелага, нелагічнага, а часамі ёсць просты набор слоў, якія ніяк адно з другім не звязаны:

Яму не ў цям праліты пот
І чэмер дзён жыццёвым бродам.
*Юліць на словах абармот,*
*Карціць тваёю нагародай.* (? — А. К.)

Шпарка вырастае новая паэтычная моладзь. Яна выяўляе здольнасці, яна аваладвае паэтычнай тэхнікай. Але на гэту паэтычную моладзь часам уплываюць паэтычныя каноны, гатовыя паэтычныя схемы і шаблоны. Да ліку такіх паэтаў, якія выяўляюць паэтычныя здольнасці, але якія знаходзяцца ў залежнасці ад паэтычнай схемы, шаблона,

належыць Зяма Півавараў. Яго верш „Голад і цывілізацыя“ вылучаецца з ліку іншых сваёй канкрэтнасцю, сюжэтнасцю. Аднак у ім паэта піша пра тое, чаго ён ніколі не бачыў і не ведае. І атрымліваецца дробная сантыментальшчына і ілжывасць перадачы фактаў. Вось марыць беспрацоўная дзяўчына Нямеччыны:

Аб гэтым мажліва толькі ціханька марыць,
І ціханька насіць у сэрцы,
Што яна чалавек і малодзенькая мэдхен,
Аб гэтым дазваляецца толькі ціханька марыць,
І ціханька насіць у сэрцы.

Ілжывая старая сантыментальшчына, супроць якой нам трэба змагацца.

Іншыя патрабаванні ў нас, зразумела, да такіх паэтаў, як Валеры Маракоў. Валеры Маракоў не першы год працуе на літаратурным фронце. Маракоў мала прадумвае свае творы і вельмі часта атрымліваюцца творы нелагічныя, блытаныя. Нацыяналістычныя моманты ў творчасці Маракова прымаюць выгляд упадніцтва, паклёпніцкіх выпадаў на рэчаіснасць. Акрамя таго, старыя традыцыі мяшчанскай лірыкі, упадніцтва і песімізм яшчэ і да гэтага часу палоняць В. Маракова.

Шляхам адмаўлення ад мяшчанскае паэзіі ідзе творчая перабудова паэта Кляшторнага. У паэме „Сляды дарог“ Кляшторны грозна выступае супроць нацдэмаўскага атрэп'я, якое разводзіла тэорыі пра тое, быццам-бы ў Беларусі не было паноў, капіталістаў. Нацыянал-дэмакратам, якія сваталі рабочым і сялянам „дружбу і мірнае сужыццё“ з кулаком, з нэпманам, з памешчыкам і капіталістам, Кляшторны кажа:

Вы шмат, панове, захацелі.
Ці не ад вашае рукі,
Яшчэ шрамы на нашым целе.
. . . . . . . . . . . . . .
На скрыжаванні тых дарог,
Як гоман даўніх перасудаў,
Мы пазнаем вас па слядох,
Нацыянальныя іуды.

Гэтае яркае выступленне супроць нацыянал-дэмакратычных рыцараў у паэме „Сляды дарог“ найбольш важны момант творчае перабудовы Тодара Кляшторнага. Творчая перабудова Кляшторнага адбываецца з вялікімі цяжкасцямі і суправаджаецца вельмі часта творамі нізкай якасці. Асабліва гэта тычыцца верша пра Чалябінскі трактарны завод. Часта бывае, што сэнс паэтычная страфа ў Кляшторнага губляе таму, што паэт літаральна не думае пра тое, што піша. Кляшторны піша, што партызан „успамінае пра боль уласных ран, якія не паспелі загаіцца“. Як-жа ён можа гэты партызан у с п а м і н а ц ь пра боль уласных ран, калі яны не паспелі загаіцца.

Вельмі яскравым з'яўляецца творчы рост за апошнія часы групы маладых паэтаў комсамольцаў з ліку рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру.

Для гэтых паэтаў характэрна арганічнае ўключэнне ў тэматыку соцыялістычнага будаўніцтва, веданне рабочага жыцця, псіхікі рабочага. Іхнія бадзёрыя песні пра перамогі на вытворчым фронце, пра магутную радасць перамогі ў соцыялістычным спаборніцтве, ударніцтве, комсамольскія песні пра нашу Чырвоную армію, флот.

З ліку гэтае комсамольскае паэтычнае моладзі асабліва вылучаюцца Андрэй Ушакоў, Р. Жалязняк, Б. Могоўскі.

Тон, рытміка вершаванага твора павінны адпавядаць ідэёваму зместу, павінны быць у поўнай адпаведнасці з тэй ідэяй, якую выяўляе паэт. Калі паэт бярэ фальшывы тон, альбо выкарыстоўвае няправільны рытм, ён гэтым самым губіць свой мастацкі твор. Вось прыклад з верша Дарожнага пра хлебанарыхтоўкі і змаганне з кулацтвам. Да новага зместа верша Дарожны ўзяў матыў... „Лявоніхі".

Мы спрачаліся, як кожны можа з нас.
Як пачаць сваю работу трэба нам,
Як адпор дамо зацятым кулакам...

Калі чытач сумняваецца, ён можа сам сабе праспяваць на матыў „Лявоніхі" гэтыя 3 радкі. Так вытрыманы рытм усяго верша.

Мы бачым, што форма верша гэта момант самого зместа. Рыфму, рытм, мелодыю, тон трэба браць з жыцця адпаведна ідэі твора.

У С. Шушкевіча ёсць цэлы шэраг неблагіх вершаў. Але ў апошнім сваім вершы ён узяў вельмі адказную тэму пра Чырвоную армію і тэму гэту сапсаваў. Шушкевіч узяў дынамічны рытм і верш пабудаваў на гукавой асацыяцыі, не клапоцячыся вельмі пра змест, пра сэнс. Таму і атрымліваецца ў яго:

Будзе бойка, будзе рэзь.
Банда белая, не лезь.

Альбо:

Ідуць партызаны, хлопцы маладыя,
Эй люлі, эй люлі.
Хто там на советы ашалела вые,
Эй люлі, эй люлі.

Выключная несур'ёзнасць, паэтычная бесклапотнасць. Гукі прыведзены ў пэўны лад, а пра сэнс паэт і не думае клапаціцца.

Небяспечнай з'яўляецца невялікая катэгорыя „маладых" і „старых" людзей, якія на ўсякую тэму пішуць гладкія беспачуццёвыя вершы. Гэта так званая „рабоча-сялянская гладкопісь". Да ліку гэткіх людзей належыць Нортман. Ён піша пра завод наступным чынам:

Дэталь падганяю, змяраючы скобай.
Націснем, таварыш, кажу я сябру,
Хто лепей і болей,
Давай-жа, паспробуй і г. д. без канца.

Зусім іншы характар, ніж у разгледжаных вышэй паэтаў маюць зрывы ў паэме Алеся Дудара „Вайна за мір". Вядома,

з якіх пазіцый Дудару даводзіцца пераўзбройвацца. Дудар на вялікім этапе сваёй творчасці быў выразнікам ідэй і настрояў нацдэмаўскай контррэволюцыі. Пасля такіх пазіцый, на якіх стаяў Дудар, перабудавацца надзвычай цяжка. Вось чаму ўсякія промахі і памылкі ў творчасці Дудара мы павінны рэзка крытыкаваць. Галоўнейшым зрывам паэмы „Вайна за мір“ з'яўляецца тое, што ў ёй па сутнасці няма паказа нашай рэчаіснасці, а ёсць пэўная схема, догма, для абгрунтавання якой прыцягваецца матар'ял рэчаіснасці.

У старым грамадстве было пашырана п'янства—мы абвяшчаем вайну п'янству; кулацтва ашалела супраціўляецца соцыялістычнаму будаўніцтву—мы абвяшчаем вайну кулацтву. Капіталізм парадзіў мяшчанскі ўласніцкі свет—вайна мяшчанскаму ўласніцкаму свету. Вось асноўная схема паэмы Алеся Дудара „Вайна за мір“. Цэлы шэраг вялікіх пытанняў, якія маюць самастойнае значэнне, скомканы, звернуты ў адно ў гэтай паэме. А галоўнае ў паэме не хапае шчырых дачыненняў да нашай рэчаіснасці. і гэта кажа, што Дудар яшчэ не вызваліўся ад нацыяналізма. У паэме выключная сухасць, і аголена выступае ідэёвая схема.

## ВЫВАДЫ

Не гледзячы на мастацкую і ідэёвую слабасць пэўнай часткі нашых паэтаў, з усяго таго, што вышэй гаварылася, ясна: беларуская совецкая паэзія, перамагаючы класавых ворагаў, нацыяналістаў, халтуршчыкаў, перамагаючы нядобрасумленныя адносіны часткі паэтаў да сваёй справы, выростае ў магутную сілу, у дзейную зброю класавага змагання пролетарыята супроць сваіх ворагаў.

За што павінен надалей змагацца наш паэтычны фронт? Паэтычны фронт беларускай совецкай літаратуры павінен змагацца за агітацыйную паэзію, якая-б спалучала ў сабе вялікую лірычнасць з актуальнасцю праблемы, тэмы. Совецкая *паэзія павінна* адлюстраваць вобразы герояў нашага будаўніцтва, вобразы будаўнікоў соцыялізма, каб на ўзоры гэтых людзей вучыліся мільённыя масы змагароў за соцыялізм. Совецкім паэтам трэба змагацца за лозунг, які высунуў правадыр нашай партыі тав. Сталін. Гэта лозунг пафаса засваення вытворчых працэсаў. Совецкая паэзія павінна быць глыбока-лірычнай, павінна жыць усімі тымі пачуццямі, усімі тымі настроямі, якімі жыве будаўнік бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Наша паэзія ў поўнай адпаведнасці з задачамі, якія ставіць перад ёю соцыялістычнае будаўніцтва, на аснове метада соцыялістычнага рэалізма, павінна развіваць усе жанры, усе паэтычныя прыёмы, але так развіваць і толькі ў такой меры, каб гэтыя паэтычныя прыёмы не становіліся самамэтай, не ператвараліся ў голую фармалістычную гульню, каб яны былі адпаведны зместу. Трэба ў нашай паэзіі ставіць усе праблемы эпохі: паказ-

ваць людзей, што будуюць соцыялізм, адлюстроўваць змаганне супроць ворагаў, распрацоўваць праблемы інтэлігенцыі, праблемы фізічнай дужасці маладога пакалення. Паэт павінен памятаць пра той лозунг, які тав. Сталін высунуў перад комсамольцамі на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў: „Менш агульнай балбатні, а больш канкрэтнай справы“. Сапраўдная паэзія, страстная паэзія, мужная паэзія—павінна адлюстроўваць усе працэсы будаўніцтва. Тэмай совецкай паэзіі павінна стаць і перабудова на соцыялістычных асновах балотных нетраў Палесся і росквіт будаўніцтва ў Кузбасе і пабудова гіганта Днепрабуда. Тэмай нашай паэзіі павінна стаць вялікая будаўнічая і творчая работа, якая ідзе на фабрыках і заводах, вялікая будаўнічая і творчая работа, якая вядзецца інтэлігенцыяй, вынаходства, рэволюцыйна-рамантычныя палёты ў будучыню і інш.

Нам трэба ўзмацніць змаганне супроць розных эпігонаў фармалізма, „псіхоложнікаў“, голых агітатараў. Нам патрэбна паэзія вялікага пафаса, пафаса ўсіх думак, усіх пачуццяў. Паэт павінен гаварыць сваім уласным лірычным голасам пра эпоху. Ён не павінен быць староннім наглядальнікам і хавацца за вобразы сваіх герояў. Трэба змагацца за максімальную прастату, за максімальную выразнасць, скульптурнасць паэтычнага вобраза.

Трэба стварыць магутную, высокаякасную песню. У змаганне за песню для рабочых дэманстрацый, для комсамола, для Чырвонай арміі, павінны быць уключаны ўсе работнікі паэтычнага мастацтва.

Беларуская совецкая паэзія пад кіраўніцтвам ленінскай партыі вырасла ў вялікую сілу ў класавым змаганні. Пад сцягам ленінскай партыі яна і надалей будзе яшчэ больш мацнець, будзе яшчэ больш заваёўваць пролетарскія пазіцыі.

## ЗМЕСТ





